Як кулакі вызначаліся Янка Фалькевіч, Сымон Гарбочык, Антон Сініца і яшчэ некалькі гайдачан. Гэтыя з першага сходу склеіліся ў адно і ніяк іх не разлучыш. Яны пачалі перацягваць людзей у свой бок living рознымі хітрымі (у кепскім сэнсе слова) слаўцамі, гарэлкай, пазыкамі збожжа і грошай на адработак. Так.

На чале беднякоў супроць кулакоў стаяў Антось Драчык і, вядомая справа—Хвёдар і Зьмітрок. Так.

Часам кулакі былі саломай, а часам наадварот. Псыхолёгічны пажар, трэба прызнацца, быў аднолькавы: гайдачане крычалі на розныя галасы, сварыліся, лаяліся, гарэлі вочы рознымі агнямі (і рэволюцыйнымі і контррэволюцыйнымі), далоні згібаліся ў кулакі і ледзь другую нагу ня выкруцілі Антосю Драчыку. Так.

Калі я часам пытаўся ў Хвёдара і Зьмітрака, навошта такі тарарам, дык яны мне на гэта:

— Гэтага не абмінеш. Такім чынам выяўляецца, хто нашы, а хто ня нашы. У рэволюцыі заўсёды гэтак.

Выйшла, што маладыя мяне старога вучылі. Я на іх ня крыўдзіўся. Яны па дабрацэ вучылі мяне. Хацелі граматнага чалавека ў справу ўцягнуць. Так.

У выніку ўсяго гэтага зорганізавалі спачатку малочную арцель, рыхтаваліся да організацыі мэліорацыйнага таварыства, гаварылі пра пажарную каманду і яшчэ шмат аб чым. Так.

Каб апісаць падрабязна, як зорганізавалася малочная арцель, дык на гэта патрэбна спэцыяльная кніга земскага, але мне ўжо сёмы дзесятак пайшоў і не пасьпею.

Многа было клопату з начальствам, пакуль дасталі лесу на будову, рубка, возка, будаваньне і г. д. і г. д. Гуртам збудавалі невялічкую хатку для малочнай арцелі, купілі машыну, розныя прылады, нанялі майстра і давай фабрыкаваць масла. Так.

Люба было глядзець, як па некалькі разоў на дзень гайдачанкі насілі малако ў арцель, як адзін мала́ды дзяцюк (у мястэчку вучыўся) мерыў малако, правяраў на аналіз і запісваў. Я памагаў яму сваёй граматнасьцю рахункі правяраць. Павесялелі бабы і дзяўчаты. Зьбіраюцца каля новай хаткі, гу-га! гу-га! Кепікі строяць і туды і сюды. Раздабрухаліся і нашы мужчынкі. Лагода ў вачох зьявілася. Старшынёю таварыства ніхто іншы, як Антось Драчык. Так.

Трэба прызнацца, кулакі не насілі малака ў таварыства. Яны хадзілі навокал новай хаткі панурыя і злосныя, як ваўкі, высьмейвалі людзей і трывожылі як толькі маглі:

— Вас абкрадуць. Ні самі малака есьці ня будзеце, ні грошай мець ня будзеце.

Аж пазелянелі яны, пад назваю кулакі, за гэты час.

Хвёдар і Зьмітрок тымчасам сваё робяць: пачалі гаварыць пра хату-чытальню з кнігамі, газэтамі і радыё, пра колгас. Так.

## 9. СЛОВЫ НА СХОДЗЕ

Сходы, як сходы. А вось адзін сход, трэба прызнацца, варта тут хоць трохі апісаць.

На гэтым сходзе ў Марцінавай хаце Хвёдар зрабіў даклад аб тым, каб арганізаваць у Гайдачанах колгас. Судакладчыкам выступіў Зьмітрок. Я выступіў, тоісь, запісваў, як сакратар. Так.

Потым выскачыў Антось Драчык. Ён гаварыў каротка, але моцна, Кожнае слова ў галовы гайдачан, як жалезны цьвік. Трэба прызнацца, што я запісаў слова ў слова. Драчык так крычаў:

— Таварышы! Даўно пара! Чаму мы дагэтуль марнелі? Чаму? Правільна сказаў таварыш Хвёдар! Шчыра гаварыў таварыш Зьмітрок! А я, таварышы, люблю правільнасьць! Люблю шчырасьць! Люблю і да сьмерці любіць буду!

Тут з гайдачанскага натоўпу бухнулі галасы:

— Ведаем тваю гультайскую шчырасьць!

Голас Антона Сініцы.

— За шчырасьць нагу табе выкруцілі!

Голас Янкі Фалькевіча.

— І галаву адкруцяць!

Голас Сымона Гарбочыка.

— Ціха вы там! Выведзем са сходу!—пагражаў прэзыдыумскі Хвёдар.

Калі трохі супакоілася, зноў грымнуў Драчык:

— Гэтым кулаком-крывапіўцам не падабаецца, што мы па-лепшаму жыць захацелі? Ім хочацца, каб нашыя бабы вечна ім задарма жыта жалі? Ім хочацца, каб за пазычаны вясною пуд бульбы ім вечна касілі?

Драчык стукнуў сабе кулаком у грудзі і з яшчэ большым азартам закрычаў:

— Не-е! Больш гэтага ня будзе! І мы па-людзку жыць хочам! І мы...

Тут яго голас патануў у кулацкіх галасох. Кулацкія вочы гарэлі нянавісным контррэволюцыйным агнём ворагаў савецкай улады. Так яны скрыгаталі зубамі і перакрывалі адзін аднаго:

— Гультай!

— П'яніца!

— Паншчыну вярнуць хочаш!

— Ты-ж сам на каленях жыта прасіў вясной!

— Не няволім! Ня хочаш, не бяры!

— Вось і падзяка за дабро!

— Мы працуем, дык і маем!

Тут прэзыдыумскі Хвёдар загадаў:

— Вывесьці іх адгэтуль.

Кулакі вышчарыліся:

— Ты, малакасос, ня брыкайся!

— Старэйшыя мы за цябе!

— Самі пойдзем!

І шапнуўшы нешта двум-тром, Фалькевіч, Сініца і Гарбочык выйшлі са сходу.

Зноў Драчык узяўся за сваё слова:

— Таварышы! Ня слухайце, што свалата брэша! Кулакі баяцца, каб у іх зямлі не адрэзалі. Ім не спадручна, каб у нас быў колектыў. Яны ня хочуць траціць дармовых парабкаў! Сягоньня-ж трэба пісацца ў колектыў! Зараз! Чакаць няма чаго! Хвёдар і Зьмітрок кажуць, што ў нас будуць машыны! Лягчэй будзе жыць! Пішэцеся!

Проста ён гаварыў і коратка гаварыў ад усяго сэрца. Так.

Цікава было ў тыя хвіліны глядзець на яго самога (я глядзеў). Ён увесь як-бы новым, іншым чалавекам стаў. Вочы наліваліся полымем рэволюцыі. Іскры сыпаліся з яго вачэй ва ўсе бакі, на ўвесь гайдачанскі сход. Людзі гарэлі, тупаліся ў цеснай хаце і таксама ірваліся гаварыць. Постаць Драчыка ў той час выпрасталася. Няпрыкметна была яго крывая нага, выкручаная за шчырасьць. Босыя, чорныя, патрэсканыя ног стаялі моцна. Так. Нават парваная кашуля яго выглядала прыгожым убраньнем. Вось як чалавека перайначвае шчырасьць. Вось калі яго шчырасьць, над якою з маладых год зьдзекваліся людзі, знайшла водклік у сэрцах гайдачанскай беднаты.

Гайдачане крычалі:

— Ура, Драчык!

— Правільна!

— Малайчына, Антось!

— Сып яшчэ!

— Во так!

— Лоўка!

Драчык больш гаварыць ня мог. Усхваляваўся, успацеў.

— Дайце мне сказаць!—прасіў адзін з грамады.

— Слова просіце, таварыш Лаўронак? — запытаўся прэзыдыумскі Хвёдар.

— Ня слова, а сказаць хачу. Многа слоў. Адным словам, апрача кароткай лаянкі, нічога ня скажаш.

Хіхікнулі па кутох людзі.

Прэзыдыумскі Хвёдар тонка ўсьміхнуўся.

Тут я ня выцерпеў, паправіў акуляры на носе, падняўся з сакратарскага месца і давай пэдагогічна тлумачыць Лаўронку, што такое за яно „слова“ на рэволюцыйных сходах:

— Слова ня значыць адно, тоісь, слова, а, трэба прызнацца, многа слоў. Так, я гэта, каб іншыя ведалі з пэдагогічнага і адваротнага боку. Так. Калі прэзыдыум дае слова, дык...

Прэзыдыумскі Хвёдар пацягнуў мяне за рукаво. У мяне ў горле перасохла і я сеў. Так.

Увесь сход зарагатаў. Сьмяяліся ўсе і ў прэзыдыуме. Толькі я адзін сур'ёзна маўчаў і ўзяўся рукою пацягваць сваю сівую бараду, нібы яна была вінавата...

Прэзыдыумскі Хвёдар ледзь супакоіў сход і сказаў:

— Слова даецца таварышу Лаўронку.

Я заўважыў раней, што з гэтым Гаўрылам Лаўронкам вёў каля дзьвярэй пашаптушачкі Антон Сініца. Я цяпер навастрыў вушы і нацэліўся пяром у паперу. Так. Тымчасам Гаўрыла Лаўронак соўваўся бліжэй да прэзыдыумскага стала. Ён праціскаўся сьмешна адным бокам і другім туды і сюды. Ён прабіваў сабе дарогу праз жывы густы і камлісты лес гайдачан і гайдачанак. Так. Яго чырвоныя ад натугі вочы былі вільготныя. Здаецца, зараз плакаць пачне. Зморшчаны твар маленькі, рэдзенькія вусы і бародка скалмачаныя, сьмешныя. Сам у залатаным кажурочку, у лапцёх на босыя ногі. Адсапнуўся ён, як пасьля цяжкае працы, і пачаў гаварыць ціханька, як сакрэт, мурлычачы, пакацінаму:

— Браткі! Мы ўсе добра ведаем, што савецкая ўлада хоча нам дабра.

А тут крыкі:

— Нічога ня чуваць!

— Галасьней!

— Не гаўрыль, Гаўрыла!

Лаўронак аглядаўся па бакох, разьняў рукі як для благаслаўленьня народу і змоўк. Пры гэтым зірнуў на прэзыдыумскі стол жаласьлівымі вачыма. Трэба прызнацца, яму дапамог прэзыдыумскі Хвёдар.

— Гавары ўголас, моцна гавары, таварыш Лаўронак. А вы там цішэй!—зьвярнуў Хвёдар да масы.

Гайдачанская маса навастрыла вушы. Над людзкімі галовамі стаяў сінім воблакам махорачны дым. Было душна. Усе так разапрэлі, што пот цурком ліўся па тварах.

Лаўронак выцер пот з твару рукавом і давай настаўляць свой галасавы струмант: хмык-хмык-хмык. Гэта ён так кашлянуў. Ад хмыканьня ён перайшоў у рэзкі пісклівы крык. Так. Вось ён пачаў:

— Браткі! Савецкая ўлада дбае аб нас. Мы ёй вельмі ўдзячны. Колектыў, гуртам, талакою працаваць можа і добрая рэч гэта. Але хто яго ведае? Жонкі нашы пачнуць сварыцца між сабою, не падзеляцца. Раз! Ды мужчыны самі, хто іх ведае, адзін направа паверне, другі налева. Два! Ды наогул, можа, будзе вайна. Гавораць-жа аб тым, што Польшча на нас ідзе. Усіх, кажуць, колгасьнікаў перарэжуць. Тры!

— Не прыкідайся!—крыкнуў Драчык.

— Лаўронак правільна кажа!—запішчэла некалькі баб.

— Дык вось, браткі, я і кажу. Пачакаем з колектывам! Пабачым, як іншыя будуць рабіць. Гэта чатыры! Мы-ж, ды нам, ды гэта-ж ёсьць людзі разумнейшыя за нас! Ніхто-ж сабе кепскага ня хоча. А то кажуць, ды мала што кажуць? Я чалавек цёмны. Гавораць, што паншчына вер-

неццa да нас. Раз! Ды там бабы будуць агульнымі ў колектывах. Два! Ды я... што я? А вось, што выгналі са сходу нашых суседзяў, кепска зрабілі. Тры! Што-ж яны? Яны працуюць, дык і маюць. Пры савецкай уладзе так не палагаіцца выганяць людзей. На то слабода нам дана, каб кожны мог слабодна казаць. Раз! А з колектывам, я кажу, трэба пачакаць. Два! Пасьпеем. Зямля ад нас не паплыве з-пад ног, а будынкі не ўцякуць, як стада авечак. Тры!

Увесь час прамовы Лаўронка Антось Драчык і яшчэ хтосьці крычалі.

— Сволач!

— Падкулачына!

— Кулакі падкупілі!

— Вон яго, Гаўрылу!

— Вон...

А Лаўронак як увайшоў у стос, дык мог-бы гаварыць да раніцы. Ён гаварыў:

— Браткі! Я зноў кажу, трэба пачакаць. Раз!

— Два!!!—грымнуў Драчык над самай галавою Гаўрылы, схапіў прамоўцу за каўнер і павалок да дзьвярэй. Той драпаўся рукамі, брыкаўся нагамі—нічога не памагло.

Трэба прызнацца, шум стаяў вялікі. Хто сьмяецца. Хто лаецца. Хто за Лаўронка, хто за Драчыка. Крычалі ўсе. Як-бы на гайдачан шаленства напала, нейкі дурнап'ян. Як ні стараўся прэзыдыумскі Хвёдар, а гайдачан супакоіць ня мог. Колектыўную справу адлажылі да чарговага сходу.

## 10. ТРЫ ХУТАРЫ І ГАЙДАЧАНСКАЯ НОЧ

Пасьля гэтага гайдачане былі ўзварушаны некалькі дзён, крычалі, спрачаліся. У людзей раскруціліся языкі. Нават самыя маўклівыя загаварылі. Нібы здарылася нешта такое, што бывае раз у сто год. Так.

Толькі я стараўся ня блытацца ў гісторыю. Мая хата з краю і гэтак далей. Трэба прызнацца, я толькі зьбіраў матэрыял для сваёй кнігі. Летнія дні, пагодныя і ясныя, як люстэркі, ішлі павольным крокам. Падсоўвалі другі сход аб колектыве. Так.

У гэтыя дні ні Антон Сініца, ні Сымон Гарбочык, ні Янка Фалькевіч, ні Гаўрыла Лаўронак людзём на вочы не паказваліся. Кожная з вышэйўспомненых асоб сядзела ў сваёй шчыліне, скрыгатала зубамі і толькі думала аб адным: як адпомсьціць гайдачанскай беднаце? Так.

Па кутках вёскі разьляглiся тры хутары-павучкі. Добрыя дамы з верандамі, з бэзам пад вокнамі, садочкі. Сытая малочная скаціна, добрыя коні ў стайні, маляваныя брычкі. Кожны хутар—каля дваццаці дзесяцін зямлі ў адным кавалку. Падобны былі гэтыя тры хутары адзін да аднаго, як тры дажджавыя кроплі. Так.

Трэба прызнацца, гэтыя хутары належалі да трох вышэйпамянёных, тоісь, Фалькевічу ,Гарбочыку і Сініцы. Заўсёды ў госьці хадзілі яны

толькі адны да адных. З вяскоўцамі мелі выключна гаспадарчыя справы: касьба, жніво, служанка, пастух, парабак, адработак за розныя пазыкі і ўсё. Так.

З даўных часоў вяскоўцы прывыклі да хутаран. Як вёска, так і хутары называліся Гайдачаны. Так.

Спачатку рэволюцыі я наглядаў за гайдачанамі. У адносінах паміж вяскоўцамі і хутаранамі ўгледзеў цікавую рэч. Ня было ніводнага выпадку, каб вяскоўцы з хутаранамі разам радаваліся-б альбо разам сумавалі. Калі хочаш ведаць, хто з кім у прыязьні, якія людзі злучаны ў адну масу, глядзі, хто з кім разам радуецца, хто з кім разам сумуе. Так.

Гэта бывае тады, калі шчасьце адных зьяўляецца шчасьцем другіх, калі гора адных—горам другіх. А вось паміж вяскоўцамі і хутаранамі было з адваротнага боку: шчасьце адных было горам другіх, гора адных—шчасьцем другіх. Так.

Вяскоўцы і хутаране ўпадобіліся старасьвецкім шалям: адзін канец угару, другі ўніз—і наадварот. Так.

Дайце лічыць па пальцах:

Першы палец. Бальшавікі забралі ўладу ў свае рукі—радаваліся вяскоўцы, сумавалі хутаране.

Другі палец. Прышлі немцы—радаваліся хутаране, сумавалі вяскоўцы.

Трэці палец. Бальшавікі зноў вярнуліся—радаваліся вяскоўцы, сумавалі хутаране.

Чацьверты палец. Прышлі польскія паны—радаваліся хутаране, сумавалі вяскоўцы.

Пяты палец. Прагналі паноў—радаваліся вяскоўцы, сумавалі хутаране.

Вось і пяць пальцаў вышла—адна рука. У гэтай руцэ вы знойдзеце неаднолькавыя радасьці і смуткі людзкія.

Але вернемся да трох хутароў. У летнія ночкі пасьля сходу ня спалася хутаранам. Ад хутара да хутару вастрыў пяткі Гаўрыла Лаўронак. Падміргне чырвонымі вочкамі аднаму, шапярне слаўцо другому, лезе намазаным языком да трэцяга і зноў спачатку. Так.

Ціхія былі гэтыя ночкі, тоісь, у прыродзе.

Заўсёды з лета на восень у нас такія ночы бываюць. У гэты час я ня сплю. Вылезу белай барадою ў цёмную ноч і сяджу пад бярозай. А ноч цямнюткая, што проста на самога сябе наткнешся і не заўважыш. У вокнах даўно няма сьвятла. Людзі сьпяць. Сьпяваюць пеўні. Калі-ні-калі брахне сабака. А цяплынь такая, што проста па костачках саладзь праходзіць. Так.

Вось сяджу я, гляджу перад сабою і нічога ня бачу. Толькі слухаю, як шапочуць лісьці на бярозе.

Гляджу я так і раптам сярод цемры бачыць пачаў. Толькі што быў сьляпым, а вось відушчым стаў...

У канцы вёскі нешта сьвеціцца...

— Што гэта?—крыкнуў я сам сабе.

Працёр вочы, зірнуў у другі раз...

Сьвецімца...

Падняўся ва ўвесь рост і вышаў на вуліцу.

Сьвецімца...

А тут чую нехта крыкнуў:

— Пажар! Пажар!

Я разбудзіў хатніх і бягом на пажар, у бок малочнага таварыства. Тут толькі я ўспомніў, што ў Гайдачанах няма яшчэ пажарнай каманды (Хвёдар і Зьмітрок, праўда, аб гэтым гаварылі). Гайдачане бягуць у канец вёскі. Я тупаю разам з іншымі.

— Пажар! Пажар!

Страшныя гэтыя крыкі сполаху на вёсцы. Жудасныя вясковыя пажары. Людзі ня ведаюць, што рабіць. Схопіць чалавек старыя лапці, а новы кажух пакіне агню. Выцягне старыя санкі, а ў хлеве застаецца скаціна. Бабы галосяць, гаспадары рвуць сабе валасы і ня ведаюць, што рабіць. Тымчасам агнёвыя каршуны перакідаюцца ад страхі да страхі...

— Пажар! Пажар!

У мяне стрымліваецца дыханьне. Сэрца тук-тук-тук. Вось зараз выскачыць. Млеюць ногі. Рот у мяне разяўлены. Грудзі—кавальскія мяхі. Мне цяжка. Барада і то здаецца пудовай кудзеляй. На маім карку не шэсьцьдзесят, а сто шэсьцьдзесят год...

— Пажар! Пажар!

Гайдачане лемантуюць, войкаюць. Хто лаецца матам, хто чортам, хто богам. А хто скруціць гэтае псыхолёгічнае дабро чалавечай злосьці і страху ў адно цэлае.

— Пажар! Пажар!

Галасы хрыплыя. Я нібы сплю, а гэта ўсё сон. Хутка прачнуўся... Ва ўсіх дварох выюць сабакі. Папаў у паласу пажару, у крывавяркі круг. Гэта-ж калі пачнецца вецер, ды кінецца на вёску, тады... Страшна...

— Пажар! Пажар!

Крык слабы, слабы. Мне здаецца, што гэта нехта крычыць за вярсту адгэтуль. Крычу я сам... Галасы людзей зьліты ў адзін нясупынны дзікі лямант:

— Гу-гу-гу! У-у-ух-ух!

Слоў тут не разьбярэш. Але прыслухоўваюся ўсё пільней і чую каманду. Трэба прызнацца, зноў-жа Хвёдар і Зьмітрок верхаводзяць.

— Багром за бярвеньне,— крычыць Хвёдар.

— Яшчэ вады! Яшчэ! — грыміць Зьмітрок.

Полымя шугае. У людзей твары чырвоныя да бляску. На вопратках грае водсьвет агня. Гайдачане мітусяцца, раскідаюць будыніну.

Я сеў водаль ды гляджу. Трэба прызнацца, пакуль прыбег, надта змарыўся. Магу толькі адно рабіць—глядзець на пажар і зьбіраць матэрыял для кнігі...

Раптам я падскочыў на сваім месцы, нібы зямля пада мною ўскалыхнулася.

Што-ж гэта такое?

У якую чырвань агня рэзануўся такі жудасны, нечалавечы крык, ад якога кроў у жылах стыне, валасы дыбам становяцца і сэрца замірае.

— А-а-а-а-ай!!!

Усе кінуліся на гэты крык.

Чалавек ляжаў непрытомны на зямлі, раскінуўшы рукі крыжам. Яго галава была акрываўлена. З аднаго вуха лілася кроў. Вочы зачынены. Твар да жудасьці белы.

Гэта-ж Антось Драчык.

Трэба прызнацца, у гэту хвіліну нехта кінуўся ад пажару наўцекі ў бок поля. За ім уздагон пусьцілася некалькі чалавек. Злавілі і прывялі. Другі чалавак быў ня менш белы за Антося Драчыка. Вочы ў яго вылупленыя, нейкія пустыя.

Накінуліся гайдачане на чалавека і хацелі адразу кончыць з ім. Людзі аж пеніліся ад злосьці і абурэньня. Хвёдар і Зьмітрок ледзь іх стрымалі.

— На гэта суд будзе!—сказаў Хвёдар.

— Савецкая ўлада з ім расправіцца!—тлумачыў Зьмітрок.—Самасудам няможна!

Чалавека трымалі за рукі, а ён мармытаў:

— Я не няўмысьне... Памагаў тушыць пажар...

— А навошта ўцякаў?

— Спа-па-па-лохаўся...

— Можа, ты і падпаліў?

— Не... не... н-н-не...

Яго ўсяго трасло. Дрыжэлі рукі, ногі. Увесь калаціўся, ляпаў зубамі. Так.

— Скажы, хто цябе падвучыў? Хутаране?

А чалавек усё тлумачыў:

— Я калом хацеў раскінуць тую сьцяну, а вось падкруціўся пад кол Драчык.

Ніхто яго тлумачэньням ня верыў.

Добра ведаюць гайдачане Гаўрылу Лаўронка. Хаця ніхто раней ня думаў, што ён, такі слабун, здолен на гэткі злаўчынак.

Тут я пакуль што спыню сваё апавяданьне. Да другога разу. На пажары я так напалохаўся, што мне яшчэ і цяпер цяжка. Кожны дзень жонка халодныя компрэсы да маёй галавы прыкладае. Яна вельмі непакоіцца за маю галаву. Так.

Трэба прызнацца, я хачу тут падумаць, тоісь, выказаць адну думку. Вось яна. Язэп Крушынскі заўсёды любіць (і ўмее) заграбаць жар чужымі рукамі. Ён вельмі рад, што з Антосем Драчыкам так здарылася паміма яго і на яго, Крушынскага, карысьць. Але гэта яшчэ ня ўсё. Так.

* * *

„Леў Талстой“ зачыніў кнігу і вышаў з пуні на гумно. Дажджу ўжо ня было. Неба праясьнілася. Сьвяціла сонца. Высока над лесам красавалася шматкаляровая вясёлка. Пасярод гумна, недалёка ад азярода стаяла лужына—бліскучая, яркая. Нібы маленькі шматок неба адарваўся і ўпаў на зямлю. Водаль пасьвілася цялё.

Стары засунуў кнігу за пазуху, падняў акуляры на лоб, падышоў да лужыны і давай, як малое дзіцё, цёпкацца па цёплай вадзе босымі нагамі, і ў гэты-ж час любаваўся прыгожай на паўнеба вясёлкай. Жонка гэта заўважыла і крыкнула на ўвесь голас:

— Прастудзішся, памяло старое.

— Га?—адазваўся „Леў Талстой“ і зірнуў у бок жонкі.

У яго вачох сьвяцілася надзвычайная лагоднасьць.

Вясёлка грала колерамі.

## ЭКЗАМЕН

*Вянок вершаў*

**Юлі Таўбін**

### 1. ВАМ...

Вам, хто вытрываў замяць
У гадох непагодных,
Я здаю свой экзамэн
На высокую годнасьць.
Вам, хто лашчыў ладункі,
Каб цьвілі нашы вочы,
Я нясу свае думкі
І няўтомныя ночы.
Вам, маім аднагодкам,
Муляром стромнай рані
Гэтых гукаў паводка,
Каб жыла з мулярамі.
Учарайшаму—аман!—
І наступнаму—слава!
Я здаю свой экзамэн
На высокае права.
Мы кахаем і тужым,
Але здужваем кволасьць,—
Вам, мізэрным і дужым,
Я пяю на свой голас.
Бо вы—кроў з майго цела,
Бо вы—ўзор чалавека...
Людзі справы насьпелай,
Сок дваццатага веку.
Я праходжу праз брамы
Ад пуцін непраходных...
Я трымаю экзамен
На поэтаву годнасьць.

Ня дурным недарэкам
Я сьпяваю, б'ючыся,—
Падначаленым рэкам
І зьнясіленым высям.
І рукам чалавечым,
І вачам ад разводзьдзя—
Дзецям лепшага ў сьвеце
Маладога стагодзьдзя.
Вы-ж, хто вытрываў замяць,
Вы, хто вывеў з нягод нас,
Мой прымеце экзамэн
На поэтаву годнасьць.

4-XI—30 г.
Менск

## 2. СТАЛАСЬЦЬ

Романтычная крыга растала,
сьвет паўстаў бяз хлусьлівых акрас...
Надыходзіць сапраўдная сталасьць,
па сяброўску вітаючы нас.

Мы губляем зьбянтэжана зачур,—
ён з паўночнай трызьні маладой,
запароскай пагоняй казачай
ці вараскай вузорнай ладзьдзёй.

Але нам адгукаюцца пеўні,
ўзрываючы ў рань рэзонанс—
маладосьці, як вецер, няпэўнай,
назаўсёды падведзен балянс.

Што-ж—
ня першых нас мары манілі...
Ўсіх нас лашчыла цёплая ноч...
Ў непакойныя ветры і мілі
мы стрымаем старое старно.

І бывай, поэтычная кволасьць,—
ты прайшла, як навеяны сон.
Хай бяззубай романтыкі голас
пераправіць жывы мікрофон.

Мы жылі ды ўзрасталі нядарма,
і што можам аддаць—аддамо.

Наша сталасьць праходзіць ударнай—
ад высокіх фабрычных дамоў.

Наша сталасьць—ад працы і боек,
наша сталасьць — ад бацькаўскіх крат.
Яна ўвойдзе ў мой цесны пакоік,
вартаўнік мой і сябр мой, і брат.

За хвіліну яе ня прыдбаеш—
яна прыдзе, як плён маіх мук,
баявая мая,
жывая,
з сілай думкі, з трываласьцю рук.

Бо ў даўгія працоўныя ночы,
у цяжкія ды ўпартыя дні
набылі мы сапраўдныя вочы,
адыйшлі ад дзіцячай трызьні.

Маладосьць наша крыгай растала...
Палюбілі мы сьвет без акрас.

Рэчаістая сьціплая сталасьць
спатыкае настойлівых нас.

10-X—30 г.
Менск

## 3. ПАДСУМАК

*М. Лужаніну.*

Дзень асеньні на сэрца лёг,
і выходзіць няма ахвоты.
Іфігеніі монолёг
я чытаю ў старога Гётэ[1]).

Вось я досыць шляхоў схадзіў
хоць і ўзрост мой яшчэ хлапецкі,
наглядзеўся ўсялякіх дзіў,
што інакшым было-б на векі.

---

[1]) Гётэ—гэты адменна мог,
пачытайце каму ў ахвоту
Іфігеніі монолёг
У старога Вольфганга Гётэ[2]).

---

[2]) „Iphigenie aut Гauris“ 1 Aufzug, 1 Auftritt.

Падсумоўваючы гады,
атрымоўваю я падсумак
немагчымае чыхарды
з ветрам схопленых нечых думак.

Гэта ўсё трэба скрэсьліць—р-раз!
Гэта ўсё трэба перакроіць
і адсюль пачынаць свой сказ,
не зважаючы на старое.

Мы-ж ня маем канечных мэт,
мы заўсёды жывем наступным...
Дылетант я, а ці поэт—
Усё роўна. Я буду рупным.

Слова—каліва. Слова—меч.
Абтачыць яго—асалода,—
бо аднолькава трэба ўмець
і мячом, і сяўнёй валодаць.

Мы ня майстры—куды ніжэй.
Яшчэ нізкая наша якасьць.
Мы—прадвесьнікі новых дзён,
лепшых сейбітаў і ваякаў.

Але ўсё-ж такі мы ўсе жывем,
трохі робім свае работы,
патыкаемся і ўстаем,
і ўнікаем фальшывай ноты.

Менавіта, такая рэч...
Як-ніяк, мы ў падобным стане.
Мы замолады, каб згарэць,
жыць нам трэба... —і жыць мы станем.

... Я ня стаўлю канечных мэт—
іх эпоха ставіць сама нам.
Толькі трэба, каб жыў поэт
са сваім адмысловым плянам.

Але трэба мо' менш „стыхій"...
Але трэба патроіць рупнасьць...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Тут ясьнее мой небасхіл
і я думаю аб наступным.

1-XII 1930
Мсьціслаў

## 4. НА СТАРТ

Праходзіць лістапад...
Сьнег выпаў і растаў...
А вецер наступаў
на стрэхі нізкіх хат...
Ды лёд ляжаў, як пласт...
Ды вецер стаў на старт,
і што чыніў штукар,
гарэза-ловэлас,
калі ён бег напрост
каля красунь-бяроз!

А я глядзеў на даль,
дзе ўзьняў мой золак меч,
каб з туманом зьнямець...

Асеньняя нуда...

Дзе шчыльны наш Саюз,
врадніўшыся, ўзрастаў
„Под сенью дружных муз“,
як Пушкін-бы сказаў;
дзе першым песьням тон
вучыліся мы браць;
дзе кожны з нас быў брат
сярод сяброў-братоў—
там пуста, там туга...
Усіх раскідаў сьвет...
Ня ведаю ці льга
каму паслаць прывет...
Бо мала хто зьбярог
хоць згадку з той пары...
Нас засталося трох...
Мы ўтрох цяпер, сябры.

І, як даўней, стапа
вядзе з сабой стапу,
і жорсткі лістапад
нясе лістоў капу...
Наносіць сыпкі сьнег...
Прыносіць ломкі лёд...
Усё як даўней?..
А не!—
Часоў ня спыніш лёт,
часоў ня зьменіш шлях,
часоў ня зьнішчыш гмах.

Мы пасталелі... так...
Ĭ кожнаму няўзнак
бывае нам шкада
таго, што адыйшло
у цемру ды сьвятло.
... Асеньняя нуда...
Нуда на мой парог
ступіла, і рыпіць
дакучліва пяро...
Але ў маёй крыві,
хоць хворасьць гне мой стан,—
яшчэ ня ўсё шуміць
юнацкі акіян,
шырокі акіян,
запалу і трывог,
і працы, і надзей,
няпройдзеных дарог...
Яшчэ з маіх грудзей
здалее песьня ўстаць
і, выпрастаўшы стан,
загаварыць гучней...

Усё пройдзе... Лістапад
і вечар ля прысад,
і золкаў рубяжы,
а дума будзе жыць,
а слова будзе жыць,
а песьня будзе жыць.

Нам можна патужыць,—
мы людзі, як і ўсе,—
але нам трэба жыць,
каб нашых дум красе
не адзіхцець дарма.
Мы будзем ля старна.
Набудзем пругкі гарт.
На старт, сябры! Вясна
шумела нам здаўна,
і вецер нездарма
нам рагатаў у твар—
устоіць той, хто варт,
на старт, сябры, на старт!..

28-XI—30 г.
Мсьціслаў

# НЕ ЗА БЕЛЫХ ЛЕБЕДЗЯЎ...

*Апавяданьне*

**Ф. Вайскопф**

„І той ніколі ня жыў і нічога ня ведае пра жыцьцё, хто ня думаў аб тым, што сьвет прыгожы, і яшчэ як прыгожы. Што вось старое зваліласся, і жыцьцё б'ецца голымі рукамі за сваю бясспрэчную, непахісную праўду, за белых лебедзяў свайго ўваскрошаньня, за нешта невымяральна большае і лепшае, чымся вось гэты кавалачак зорнага неба,—за будучыню ўсяго чалавецтва".

*Ларыса Рэйснэр „Фронт"*

Якім вялікім мог толькі аднаго разу зрабіцца пакой! Пакой, які—заўважце сабе—раней заўсёды быў такім замалым і завузкім.

Войтэк Пулькрабэк ніколі ня лічыў за магчымае, каб магло-б калі-небудзь што-небудзь падобнага здарыцца з пакоем: раптам пачаць расьці! Пад рукою, зразумела!

Праўда, раней там было шмат рознастайнай мэблі, якая займала большую частку пакою: пузаты жоўты камод з адмысловымі закручастымі аздобамі, якія найменш аднаго разу на год абломваліся і патрабавалі старэннага марудлівага прыклейваньня; адзежная шафа з чырвонымі і сінімі краскамі на верхнім аздобленым гзымсе; два старыя дубовыя куфры; канапа і „лепшыя" крэслы... а цяпер там стаяла толькі тры расхістаныя „звычайныя" крэслы, стол ды адзін з белых двох ложкаў. Усё астатняе было прадана. Таксама і сьвяточнае адзеньне з шафы і бялізна з камоду і куфраў.

Ну так, гэта аслабаляе ўжо пакой: хворая жонка і шосты тыдзень без работы.

Ужо шосты? Немагчыма.

І ён пачынае вылічаць:

„Гэта было...? Калі-ж гэта дапраўды было? Так, гэта было ў суботу пасьля с а р а к а  п а к у т н і к а ў! Так, так, зусім правільна!

У суботу пасьля сарака пакутнікаў!

Поўныя трыццаць восем дзён ляжаць ужо пазаду, але ён успамінае на той суботні вечар яшчэ зусім дакладна.

„Нібыта гэта было сёньня!"

Гэта адбылося ў панядзелак на лесапілцы, унізе на канцы вёскі, дзе дарога перабягае праз раку. І ў суботу ўсе мы ў апошні раз працавалі на цагельні, уверсе ля ўзьлеску, выбіраючы гліну.

Рабочыя лесапілкі распачалі забастоўку, бо дырэктар хацеў скарaціць іх заработак. Дырэктар быў немец і гаварыў па-чэску з трудом, запінаючыся і з незахаванай пагардлівасьцю.

„Ну, вы там!" звычайна зварочваўся ён да рабочых, або проста: „Чалавек!", бо ён не хацеў сябе затрудняць тым, каб памятаць чужое імя. Дзеля гэтага, зразумела, што нікога і ня зьдзівіла, калі ён аднойчы, нядоўга разважаючы, абвясьціў, што, пачынаючы з наступнага тыдня, узнагарода за працу будзе выплачвацца на столькі-та і столькі-та кроў менш. Каму гэта не да спадобы, той можа шукаць работы дзе-небудзь у іншым месцы.

Сярод рабочых прадпрыемства бадай ці быў адзін, які-б яго не ненавідзеў. Дый сяляне з вёскі ня лепей ставіліся да яго:

„Лесапілка гэта нішто, але ў ёй ня наш чалавек!" магчыма было заўсёды пачуць. Або: „Ён ня можа нюхаць гною, задзёрысты нос! Ён „задалікатны" для вёскі!"

Дэлегацыі, якая была паслана рабочымі для перамаўленьняў, ён паказаў на дзьверы:

„Вы зьяўляецеся дэлегацыяй? Так—?! Кім паслана?—Ад арганізацыі?—А хіба яна ня ведае, што ён ня прызнае ніякіх арганізацый?! Га!—Арганізацыя гэта было-б надзвычай добра, каб хто-небудзь умешваўся ў яго правы і ўладу! Ого! На прадпрыемстве робіцца тое што ён лічыць за лепшае. Гэта і толькі гэта! Зразумелі?!—Ен, не пацерпіць ніякіх хваляваньняў супроць сваёй улады! Ніякіх бунтаў, ніякіх змоў!—І той, хто безразважна ня будзе выконваць яго распараджэньняў...—калі ласка, ёсьць даволі тых, што шукаюць работы і якія згодны работаць за яшчэ больш мізэрную аплату. Аплата была скарочана, бо ў стасунку да продукцыйнасьці яна была завысокай. Калі яны жадаюць больш зарабляць, дык павінны працаваць больш продукцыйна. Кропка! Аб гэтым ня можа быць ніякіх перамаўленьняў і яны могуць ашчадзіць сябе час. Бывайце!".

Тады яны спынілі машыны і пакінулі прадпрыемства. Усе, апрача двох майстраў.

„Кропка?—Ого!"

Калі натоўп дасягнуў маленькага белага дырэктарскага доміка, дык ён знайшоў замкнёную браму і замест акон і дзьвярэй спушчаныя шэрыя, жалезныя жалюзі.

„Што гэта значыць?! Хіба мы злодзеі?!"

Другая дэлегацыя ня была нават прынята.

Яшчэ з хвіліну яны пабылі ля забарыкадаванага дому, узбуджана перагаворваючыся паміж сабою. Мо' хто-небудзь ад іх і крыкнуў штосьці ў бок спушчаных жалюзі. Хто зьверне ўвагу на крык у такі момант?—

Потым яны пайшлі прэч і хутка разышліся па адным, бо тымчасам зрабілася досыць позна. Пусьціць машыны ў работу—на гэта ніхто ня прыступіў.

На заўтра раніцою яны скамянелі ад зьдзіўленьня ля варот прадпрыемства. Каля клямкі запіска з чырвонымі літаркамі:

Усе рабочыя ад сёнешняга дня звольнены. Хто хоча працаваць, той можа запісацца ў майстроў, але будзе прыняты толькі ў тым выпадку, калі дакладна давядзе, што ён не належыць да завадыяшаў учарайшага эксцэсу. У астатнім з кожным рабочым будзе ісьці справа, нібыта ён зусім упяршыню паступае на работу.

Ніхто з іх ня ведаў, што значыць „эксцэс“, але ўсе яны зразумелі, што жадаюць некаторых ад іх узяць за шыварат, а ад усіх адняць правы і заработак.

Яны засталіся знадворку.

Ніводны не запісаўся ў майстроў.

Забастоўка!

Гэта было, як ужо гаварылася, у панядзелак і аўторак, два дні пасьля сарака пакутнікаў. І ў суботу, у зусім нязвычайны перадпалудзенны час, да іх на цагельню зьявіўся яе гаспадар, кулак, стары Катрэйч. Пулькрабэк не заўважыў яго прыходу, бо быў заняты дзесьці ў кутку, папраўляючы старую форму для цэглы,—але-ж кожны ведае, як гэта ёсьць, калі раптам сярод іх выплывае прадпрыемца: адразу-ж заўважае кожны, што ён ёсьць, нават тады, калі ён яго ня бачыць, жанчыны згінаюцца ніжэй над сваёй работай і працуюць больш шумна, месячы чаўкаючую цынамонавую гліну; падзёншчыкі коцяць хутчэй свае тачкі па хісткіх дошках да рабочых сталоў і пераварочваюць іх нязвычайным адрывістым штуршком; увесь такт работы робіцца жорсткім і адрывістым і з працяглых пявучых выгукаў паміж месцам капаньня гліны і рабочымі сталамі ствараюцца кароткія, вострыя загады.

Ён адразу заўважыў, што прыйшоў Катрэйч, пакінуў форму і пайшоў яму насустрач. Пры гэтым ён здалёк яшчэ пазнаў, што нешта не тае.

Спаткаўшыся, у суправаджэньні шапатаньня, усё больш мацнеўшага, яны зьніклі ў канцылярыі (гэта значыць—у касой прыбудове, дзе стары звычайна выплачваў ім заработак; кульгавы стол і два крывыя крэслы, гэта было ўсё!) і адразу-ж пачалося. Кулаком па стале, што пробныя цэгліны і чарнільніцы ўзьняліся ў дзікім танцы:

„Праклятая сволач, абібок! Ніколі нездаволеныя лайдакі! Але чакайце толькі!“

І без таго, каб даць магчымасьць зьбянтэжанаму Пулькрабэку сказаць хоць слова, стары Кастрэйч пачаў гудзець сваё чартыханьне:

Так! Але яны на гэты раз пралічыліся! Яны адчуюць гэта на ўласным целе! Так, так! Баставаць? Добра! Не працаваць?—Надзвычай добра! Але тады якраз ніхто не павінен работаць! Ніхто! Каса на камень—хай пры гэтым вылезуць хоць усе валасы! Ён цьвёрда вырашыў гэта, хай

сабе цагельня дзеля гэтага ня будзе працаваць хоць два тыдні... Або нават цэлы месяц... Ён ужо. А мабыць яны?..

Ї ўсё адразу-ж, адным залпам, пакуль ня вышаў увесь дух... і пакуль Пулькрабэк у замяшаньні мог выціснуць свае першыя словы:

Якая, уласна кажучы, ім справа да ўсяго гэтага? Ім тут, у цагельні?! Да забастоўкі ўнізе, на лесапілцы і наогул? Чорт вазьмі, якая ім справа да гэтага?!

„Так—?! Быць можа нічога?! Нічога?!"

Ї адразу-ж пасьля гэтага суха, жорстка і раўнадушна, але з кіпучай ярасьцю за паказным спакоем:

„Ад панядзелка—канец з работай! Лёкаут! Без работы на лесапілцы ня будзе дашок, без дашок няма будаўніцтва, без будаўніцтва ніякага попыту на цэглу!—Зразумела!

„Наогул залежыць толькі ад вас, калі будзеце зноў работаць. Яны павінны толькі растлумачыць тым дурням унізе... Ну, яны ўжо ведаюць у чым справа!"

Лёкаут.

Значыцца, яно ідзе так:

Рана падымаемся ў прызвычаены час, хоць гэтага і ня трэба рабіць, хоць ёсьць яшчэ час, каб даўжэй паспаць; потым падымаемся ўгору да цагельні. Дарога тая-ж самая, і сьліўкі, што растуць абапал дарогі, і выемка гліны ўверсе таксама не зьмяніліся. Ї цагельня, якая павольна вырастае за грэбнем узгорка, стаіць, як і раней; і калі, падняўшыся ўгору, спынішся і зірнеш на яе, дык здаецца нібы як звычайна працуе над сталамі шаснаццаць жанчын над глінай і драўлянымі формамі (сьпярша як сьлед добра прамешваюць і пракачваюць цынамонавыя глыбы, потым абсыпаюць папалам падзельную драўляную форму пяском, уціскаюць гліну ў форму, выроўніваюць яе,—і калі здалёк пазіраеш за імі, дык магчыма было-б падумаць, што ў іх пад рукамі ня гліна, а хлебнае цеста, ці што яны гуляюць у пячыва пяшчаных пірагоў, нібы дзеці). Значыцца, усё як раней і нават здаецца, што адчуваеш рыдлёўку ў руках... пакуль раптам не заўважыш той непарадак, які парушыў чыстату збудаваных шэрагаў сырой цэглы; пакуль не спаткнешся на блытаніне перавернутых тачак і павучынападобна раскіданых форм і ня знойдзеш на забруджаных сталох апошніх рэштак заснуўшай работы—шэрых, скамянелых камлыг гліны, у шматлікіх шчылінках якіх варушацца мурашкі і маленькія павучкі.

Чорт вазьмі, нібы могліцы і пуставаньне!

Хвіліну бадзяешся туды-сюды паміж сталоў, агінаеш круг вакол выемкі гліны. Потым адыходзіш. Трухаеш па шашы ўніз да лесапілкі, якая якраз як і цагельня, ляжыць скурганеўшы і няжыцьцёва. Дарогай сустрэнешся некалькі таварышоў, што панура цягнуцца да лесу—зьбіраць гальлё. У вёсцы праходзіш міма іншых, якія—у дваццаты раз ужо—нешта пор-

каюць каля сваіх халуп; ці зноў каля іншых (праходзячы ўжо апошнія хаты), якія сядзяць на карачках, на плоскім берагавым адхоне і вудзяць рыбу—гэта тыя рэдкія шчасьліўчыкі, што маюць дазвол на вужэньне, а астатніх мабыць можна спаткаць ля паўднёвых муроў лесапілкі ля забастовачнага пікету. Там ляжаць яны на пары старых мяхоў, паляць бульбоўнік у люльках і гуляюць у „фэрбль“.

Усе яны адчуваюць сабе неяк няёмка і раздражліва, ускіпаюць злосьцю бяз дай прычыны; настрой ні ў якім выпадку нельга параўнаць з тым, што быў у першыя дні забастоўкі. Сьвяткаваньне цягнецца ўжо крыху задоўга і калі голад не стаіць яшчэ ўсутыч з імі (бо кожны мае свой кавалачак засаджанай бульбы, пару сваіх трусоў і курыц і можа быць нават і казу), дык невялікі запас заўважна ідзе да канца, а да ўраджаю яшчэ добры кавалак часу.

І апроч таго сярод іх няма больш маладых хлапцоў. Дзёрзкіх юнакоў з адважна насунутымі на самыя вушы шырокаполымі шапкамі і ярка мільгаючымі кашнэ. Яны знайшлі сабе работу недзе ў іншым месцы. Толькі старэйшыя засталіся тут і яны ня могуць адарвацца прэч, бо ў іх тут свае халупы, свае жонкі ды дзеці.

Жонкі, гэта таксама загмаздка!

Праўда, яны ня бурчаць і ня лаюцца, але будзе досыць, калі глянуць, як яны шмагаюць з нейкай пакорлівасьцю па хаце, як яны рэжуць хлеб, або як адважваюць муку! Чорт падзяры! Тады здаецца за лепшае, быць як мага менш у пакоі!

На панадворку перадвясеньні час. Ясны і нясьмелы—сапраўднае прадвесьне, поўнае летніх пахаў і сьветлавадзяных фарб: белай, сьветлаблакітнай, далікатна-зялёнай—пах зямлі, пах ракі, пах смалы!

Хораша! Але, хораша!

Але ўсё-ж яно ня так, як у першыя дні.

Ці ўспамінаеш ты яшчэ на тых жартаўнікоў?

„Гляньце толькі, як ён там выцягнуўся! Нібыта граф які! Гэта якраз па табе, мой таўстун! Мо' няпраўда? Як сьлед акруглым зробішся ты ад вялікага гультайства! Тваёй старой давядзецца менш гатаваць бульбы...“

Ці жарты пры зажарваньні рыбы.

„Але нешта малая гэтая рыбка!“

„Мог яе пакінуць крыху падрасьці!“

Ліха на...

Але зноў зьвярнемся да нашага пакою, што аднойчы пачаў расьці: Жонка, значыцца, хворая.

Чорт яго ведае, як гэта зрабілася! Праўда, кабеціна раней ніколі ня мела справы з хваробай, аднак: збыткоўнае тлустасьці ніколі ў яе ня было і рэбры магчыма [было заўсёды палічыць, нібы жэрдкі курынага седала... адным словам кажучы, сапраўдны флюгер, як гэта звычайна гаворыцца! Але ў руках больш сілы, чымся ў якога-небудзь гладкага

гаспадара: жылы поўныя жывога срэбра! Такія спраўныя і жыцьцяпоўныя, як рэдка калі, і цяпер раптам...

Але паспрабуй разабрацца ў гэтых хваробах!

Вось яна ляжыць у ложку на працягу доўгіх месяцаў, твар жоўты і зморшчаны, нібы зьвялы лісток—толькі скуліцы набылі чырвоныя плямінь ды вочныя западзіны блакітныя цені—і не паварочвае больш галавы, калі рыпяць дзьверы, упускаючы каго-небудзь у хату. І кожную раніцу робіцца твар больш зьнясіленым, тулава больш западлівым і тужлівым, чымся на дзень раней. Якраз нібыта твар пачаў раставаць! Так, так, раставаць! Праўда, гэта крыху дзіўная думка, але яна можа ўпасьці на розум, калі сядзіш у гэтым пакоі і пранікліва назіраеш за яе жоўтым тварам, што пакрывае толькі кавалак з ладонь вялічынёю чырвона-белай насыпкі. Яна, Міляда, растае, у гэтым няма ніякага сумненьня! Нібы кавалак цукру, які трапіў у вільгаць: памалу, ня ўзьнімаючы гоману, так сказаць, але бязупынна.

Як сьлед жудасна зробіцца пры такіх думках! Ліха яго вазьмі!

Хоць-бы яна крыху пастагнала, або пакрычала, або пакідалася, або, прынамсі, хоць-бы пакашляла! Але не—нічога гэтага яна ня робіць. Ціха, нярухома ляжыць яна на ложку, нё гаворыць ні слова, глядзіць поўзачыненымі вачыма проста перад сабою, нібыта яна кожную хвіліну хоча перакалыхацца ў яшчэ больш тупы, больш жудасны сон.

Толькі аднойчы за ўвесь гэты час яна сапраўды зрабілася бадзёрай і жвавай. Тады калі доктар хацеў накіраваць яе ў больніцу.

У больніцу яна ня пойдзе! Туды яе не даставяць ні ў якім выпадку. Нават гвалтам! І ня трэба гэтага нават спрабоўваць, бо інакш яна пабяжыць—у сарочцы, так, як яна зараз ёсьць—прэч. У лес або... або проста нацянькі ў ваду.

„Але, у ваду! Лепш у ваду, чымся туды!“

Так ліхаманкава ўзбуджана, што—хоць і ківаючы галовамі—задавальняюць яе жаданьне і пакідаюць тут.

Быць хворым каштуе грошы. Гэта старажытная ісьціна. Чым больш грошы, тым даўжэй гэта цягнецца. Гэта так усім вядома і зразумела, што, уласна кажучы аб гэтым, нявартa было-б казаць, калі-б якраз ня тут—каб гэта як-небудзь выказаць—была зарыта сабака.

Зарыта сабака, гэта значыць:

Голад, мой любы, на працягу гэтых пяці тыдняў ты мабыць меў ня рэдка; і калі забастоўка і лёкаут яшчэ доўга будзе надалей працягвацца (а гэта выглядае якраз так), ты будзеш разы ў два часьцей галадаваць, чымся дагэтуль,—але памерці з голаду, мой сябра, ты не памрэш. Нават таксама і тады, калі выйдзе ўвесь твой запас. Бо, як ты ўбачыш, заўсёды знойдзецца для цябе і тваёй жонкі што-небудзь зьесьці. І для жонкі нават некалькі кропель малака. Бо добрыя хлопцы твае таварышы! Бравыя юнакі, якія не дапусьцяць, каб хто-небудзь згінуў. І пакуль тыя будуць што-небудзь мець, каб укусіць, знойдзецца што-небудзь і для

цябе.—Значыцца, памерці з голаду ты не памрэш. Але грошы... Грошы ты ня знойдзеш! Нават у лепшых сяброў.—Бо, прынамсі, яны самі іх ня маюць!

З грашыма па сутнасьці нічога і не прадбачыцца—але гэта якраз найбольш патрэбна! Бо доктар быць можа і будзе чакаць, пакуль зноў атрымаеш работу і заплаціш яму, а зельле чакаць ня будзе. Яно хоча бачыць чыстыя манеты на прылаўку. І каб прасіць у аптэкара крэдыту, як, напрыклад, у шаўца ці пекара, гэтая думка на‘т ня прыдзе ў галаву, пры поўнаважкай шляхэтнасьці малочных шыб і цёмнаафарбаваных сьценак; пры панурай пекнасьці рубіначырвоных, блакітных, жоўтых фіёляў; пры патрабуючай пабожнасьці незразумеласьці прыгожа раскрэмсаных літар на белых парцалянавых слоіках... Пры ўсёй гэтай пышнай сьвяточнай аздобленасьці (у Круцы і нос нават поўны напышлівай трыгучнасьці пахаў: паху царквы, паху чыноўніцкага кіраўніцтва і паху больніцы), усё гэта прыгнечвае таго, хто пасьля шматгадзіннага маршу па бруістай, гарачай дарозе ўвойдзе ў прахаладзь маленькай вясковай аптэкі (шапка, як гэта прызвычаіліся ад дзяцінства, зьнімаецца яшчэ перад дзьвярыма).

І пры гэтым—гм—трэ‘ па праўдзе сказаць—гм—уласна кажучы, зельле дагэтуль ня ў чым ня было карысным.

І глытае Міляда ўжо праз увесь час гэтыя пілюлі і кроплі і ня гледзячы на гэта ўсё-ж растае проста на вачох, нібы... нібы якраз як кавалачак цукру, якраз так! І аднаго дня...

Тут цяпер паўстае новая думка і момант ірвецца ланцуг таго, што было дагэтуль:

„Калі зельле ні ў чым не дапамагае—дык навошта-ж яго наогул купляць?“

Толькі на момант, потым гэта думка адразу-ж спуджваецца. Але ня сполахам, ня сорамам, не каханьнем. Не!

Пулькрабэк пужаецца не ад іх, бо гэта ня першы раз ён разважае над хваробай сваёй жонкі (так, як ён прызвычаіўся, памалу і разважна, нібы складае ён цэгліны ў печы; кожную паасобку раней паверне туды-сюды, агледзіць, памацае, выпрабуе, узважыць у руцэ, пакуль, урэшце, не пакладзе яе на месца) і гэта ня ў першы раз, што ён прыходзіць да выніку, што хвароба бясспрэчна прыме дрэнны канец.

Ён ня стыдаецца і самога сябе, бо як-бы ён мог сароміцца сваіх разважаньняў, якія ўеліся ў яго жыцьцё, у гэта нязграбнае, мізэрнае, вуглаватае, скнарлівае жыцьцё рабочага-цагельніка, сваіх разважаньняў, якія будуюцца перад табой, праўда, нязграбна і лапезна, але затое ясна і зразумела. Так, напрыклад:

„Пакуль ты здароў, датуль усё хараша. Але хай толькі разладзішся і ня будзе больш надзеі, што падымешся зноў на ногі,—тады лепш для цябе і для іншых, калі ты ляжаш раней пад зямлю, чымся пазьней!“

Значыцца, страх і сорам ня граюць ролі. Што датычыцца да каханьня,.. мой божа, калі Пулькрабэк наглядае за ёй, ды ён ніяк ня можа зразу-

мецъ, як магла яна яму некалі ўскружыць галаву. Праўда—прыгожыя роўныя зубы і густыя, цьмяныя валасы ўсё яшчэ пры ёй, але, як кажуць, каханьне...?

Не яно значыцца спуджвае новыя думкі.

Застаецца толькі адно. І іменна: што ідзе справа аб таварышы і што таварыша не пакідаюць у бядзе!

І іншае, якое ня менш глыбока прышчапілася ў кроў, якое ня менш зрабілася пабуджэньнем і мэтай жыцьця: так што б'ешся. Цяпер як раней—і як доўга дыхаеш і датуль, пакуль дыхаеш. І спакойнай самазразумеласьці і бяз слоў; раздражліва, бязумоўна і ўпорліва. За ўсё і з усім За кавалак хлеба і за ноч з жонкай: з старым Котрэтчам і з халоднай зімой.—І з гэтай крывадушнай хваробай таксама зразумела!

Таварыша ня кідаюць у бядзе.

Гэта зусім ясна, ці няпраўда? Да гэтага-ж сапраўды не дадаш нічога фальшывага, ці няпраўда? Гэта-ж зусім, зусім ясна і проста!

... Магчыма-б было думаць, мой любы, што?!

Магчыма было-б думаць...

У сапраўднасьці-ж справа зусім ня так проста, як гэта здаецца. У сапраўднасьці яна заблытана! Нават надзвычай заблытана!

З аднаго боку зусім зразумела, што зельле трэ' даставаць. Бо жонка—таварыш і гэтага таварыша нельга кінуць у бядзе. З другога боку нельга пакінуць у бядзе таварышоў з цагельні і лесапілкі, і гэта бясспрэчна робіш, калі сочыш за праклятым лістком, які ліха яго ведае як даўно ўжоназіраецца на дошцы для абвестак ля валаснога праўленьня:

> *ЖАДАЮЧЫЯ РАБОТЫ*
>
> *(таксама і неабучаныя!)*
>
> *будуць адразу прыняты кіраўніцтвам лесапілкі. Аплата па ўзгадненьні. 20 крон грошы адразу на рукі пры падпісаньні рабочага дагавору. Заяўка штодня да 5 гадзін у заводзкай канцылярыі.*

Што-ж, урэшце, застаецца рабіць, калі ў таварышоў нельга больш знайсьці ніводнага крэйцэра і калі хутчэй выцісьнеш з каменя ваду, чымся ў селяніна пару зэксэраў?[1]) Што-ж застаецца іншага як толькі не дарога да заводзкай канцылярыі, калі ня хочаш пакінуць жонку без аніякае дапамогі?! (Так, так, зельле мабыць нічога ня варта, але Міляда дае веры ёй. Яна глытае зельле з такой верай, што толькі дзеля гэтага яго трэ' даставаць. Чуеш ты?! Павінен!—Або ты нікчэмны нягоднік!).

Гм—і калі пойдзеш туды і запішашся... хіба тады ты не нягоднік?!

[1]) Зэксэр—6 пфэнігаў.

Так, чартоўскі заблытана гэта справа!—Можна вярцецца і круціцца як хочаш—але ўсё-ж застаешся нягоднікам, які пакідае сваіх таварышоў у бядзе! Так ці інакш—усё застаецца аднолькавым; стрыжана ці голена, з пустога ці з парожняга: нібы ў зачараваным коле, адкуль няма ніякага высьця!

Колькі не калупайся ў падобным да бульбіны носе, колькі ня чухай патыліцу (аб якіх толькі смачных рэчах не ўспамінае пры гэтым галава, і як голадна выглядае яна пры гэтым!), колькі ня круціся, не вярціся, нішто не дапаможа: прыказка, каб былі і воўкі сыты і козы цэлы, не зьдзяйсьняецца.

Праклятая гісторыя!

Нічога не дапамагае, нават калі гаворыш сабе:

Той ці іншы ў свой час надзвычай мала турбаваўся аб сваіх таварышох!

І адразу-ж зварочваешся да сябе:

І калі на'т ён гэта ўжо зрабіў? Хіба дзеля гэтага, ты таксама так зробіш, стары?—Ну глядзі!

Не дапамагае і тое, калі, напрыклад, разважаеш і так:

Урэшце, сарочка бліжэй да цела, чымся пінжак!

І адразу-ж сам сабе супярэчыш:

Так, але Міляда толькі адзіны чалавек і тых там—цэлы вялікі натоўп, і ці можна аб адным чалавеку, які да таго яшчэ блізкі да згасаньня... але, ці не?

Ці...?

Але тады...

Ну, так што тады?!

Ну што-ж тады ўласна кажучы? Што тады, чорт вазьмі?!

Шчасьлівым чынам якраз у самы найзаблытанейшы момант выплывае душэўная, любая думка і прыносіць заспакаеньне.

„Хіба ты запамятаў? Перабудаваць! Быць солідарным!“

Але гэта патрабуе растлумачэньня.

Значыцца:

На працягу доўгіх год працаваў ля гофманскай печы, ля формавальных сталоў, на пляцох для сушкі цэглы; заўсёды даводзілася мець справу з правільнымі цэглінамі: вымерваў, зроўніваў, парадкаваў, складаў цэглы ў штабэлі—будаваў так сказаць.

Гэта перайшло ў кроў. Зрабілася душэўнай, любай думкай, а перад гэтым збудаваная ў сьветлыя, ясныя словы, чулася калісь-ці ў першы раз (Дзе гэта было? У перапоўненай харчэўні, ці ў часе палудзенага перапынку? І калі?):

„Будуюць і будуюць: дамы і фабрыкі і хіба я толькі ведаю што.— І патрэбна-ж, уласна кажучы, аднойчы будзе гэты сапсаваны сьвет перабудаваць! Бо ім у такім выглядзе нельга карыстацца: той, хто нічога ня робіць, мае лепшае месца, а адзін ад нашых ня мае нічога! Нізрынуць

і перабудаваць пасьля гэтага! Солідна і чыста, як гэта належыць—зусім новую будоўлю, у якой кожны, хто як сьлед працуе, атрымлівае і адпаведнае месца! Аднолькава добрае і аднолькава вялікае, як і ўсе астатнія. Так!—Гэта, зразумела, нялёгка і ў паасобку гэтага нельга зрабіць, але калі падтрымліваць адзін аднаго (трэба-ж разумець, што нас большасьць!), калі быць як сьлед солідарнымі, тады гата адбудзецца!“

Быць солідарнымі!

Быць солідарным!

Гэтая думка і прыстанішча і пацяшэньне! І надзейна-радасная туга праз пару мізэрнага сучаснага, якое чакае з непахіснай верай зусім сьветлага і багатага будучага.

Хіба тады не зразумела, што павінна адбыцца?!

І ўсё-ж такі бывае часам інакш. Але ў гэтым вінны ночы. Бо калі-б на працягу апошніх дзён, тры разы па дваццаць чатыры гадзіны, ня існавала-б начэй—справа зусім ня склалася-б так, зусім зразумела, што не!

На працягу дня—калі ня гледзячы на ўсе багатыя на дапамогу думкі і добрыя намеры заблытанасьць пагражае толькі перарасьці праз галаву—маеш усё тое, што прыгнечвае, жыцьцёва і датыкальна перад сабой, аб'яву, напрыклад, або пустую пляшку з-пад зельля. Тады ясна відно, што з дваццацю кронамі задатку ты будзеш мець рацыю (дваццаць крон зусім ня малая сума!), але і ўсьвядомліваеш таксама, што дарога да заводзкай канцылярыі зьяўляецца нічым іншым, як жорсткай дарогай скрозь шэрах штыхоў (міма акенца кожнай халупы) і праз пару доўгай для таго, каб было магчыма дайсьці па ёй у канец. Тады заўважаеш, што за гэтыя дні твар жонкі дапраўды неяк хутчэй худнее, чымся дагэтуль; але адначасна заўважаеш, што і таварышы пачынаюць ужо здагадвацца, калі спыняешся ля пажоўклай абвесткі.

Але ўначы ўсё інакш. Тады ня існуе гэтых ацелясёных і датыкальных, супраўдных рэчаў, якія дапамагаюць удзень. Уначы бываеш самотным, зусім самотным, толькі з ціхім і ў той-жа час такім громкім дыханьнем хворай, якое ўспрыймаецца як безнадзейнае тупаньне вакол аднаго і таго-ж самага месца стаміўшыхся, заблукаўшых дзяцей або як цьвірчэньне казюлькі ў старым дрэве. Ва ўсё больш паскаральным і паскаральным такце маршу гэтага дыханьня бясконца доўгая дарога да заводзкай канцылярыі перарабляецца ў адзіны малюсенькі крок і твар Міляды зморшчваецца ў маленькі белы пэрлямутравы гузік.

Тры начы баронішся.

Змагаешся.

Б'ешся.

Уздыхаючы, стогнучы і рыпучы. Са сьціснутымі зубамі, з высахшымі вачыма, з прамокшымі скронямі.

Ледзь на золак чацьвертага дня складаеш зброю.

Ніяк інакш нельга.

Пасьля гэтага падзеі разгортваюцца нібы нітка, што разьвінаецца са шпулькі, хронолёгічна ў наступным парадку:

Раніцою таго-ж чацьвертага дня зьнікае Пулькрабэк з узыходам сонца з халупы і вёскі, каб хто ведаў куды.

На працягу раніцы таварышы, якія пазьбіраліся блакітным панядзелкам для абгаварэньня спраў, тройчы пасылалі хлопца ў Обэрдорф, каб паклікаць Пулькрабэка, на якога яны дарэмна чакалі (Што гэта сёньня з ім? Ён-жа заўсёды найакуратнейшы ад усіх!). Два разы пасылалі ў яго халупу і адзін раз у цагельню. (Хто можа ведаць—быць можа ён вандруе там уверсе вакол закінутых дзераўляных форм і тачак. Ён-жа быў крыху дзіўным у апошнія дні!) Значыцца тры разы. Кожны раз бяз выніку.

І набяжаўшы перадпалудзены час—калі ўжо ўсе ведаюць, што з Войтэкам Пулькрабэк „нешта“ здарылася—атрымліваецца паведамленьне, што яго жонцы зрабілася зусім дрэнна. Так дрэнна—што...—між іншым, Пулькрабэк усё яшчэ не зьвярнуўся назад! (Чакай, так! Зразумела! Па доктара ён пайшоў!)

Якраз а поўдні чуваць, што толькі што памерла Міляда і адразу-ж пасьля гэтага выплывае Пулькрабэк, відочна стомлены і зьбянтэжаны—гамашы да бела закураныя пылам дарогі, твар стракаты ад поту і гразі... З таго, што ён ідзе з Обэрдорфу і мабыць накіроўвае свае крокі да валаснога праўленьня, робіцца зразумелым, што ён ідзе зарэгістраваць сьмерць свае жонкі.

Ён памалу рухаецца наперад, крокамі няжыцьцёвымі і цяжкімі, сьпіну сагнуўшы, нібы пад цяжарам. На пару воклікаў, якія пырхаюць яму ўсьлед (Кінь мой любы яго ў спакоі, не аклікай яго! Яго жонка...!), ён не зьвяртае ўвагі.

Перад валасным праўленьнем ён спыняецца—але толькі на столькі, колькі патрэбна для таго, каб пераканацца, што вядомая аб‘ява ёсьць на месцы—потым адразу-ж ён крочыць зноў далей, уздоўж вясковае вуліцы ўніз, у кірунку да лесапілкі. Унізе, ля ракі, ён збочвае з дарогі на сьцежку, якая ў некаторым аддаленьні ад лесапілкі вядзе да дырэктарскага дома.

Вохкаючы ад зьдзіўленьня, з шырока расчыненымі вачыма пазіраюць яму ўсьлед забастовачныя пікеты, якія знаходзяцца тут проста па звычцы і ад таго, што няма чаго рабіць—лайдакуюць непадалёк ад заводзкай брамы.

„Альлё“!

Вось ён ужо зьнік у белым доме.

Паўгадзінай пазьней—так доўга працягваецца гэта, пакуль, ачухаўшыся з глыбокага замяшаньня, раптам спалохаўся малады волёнцёр, урэшце сьцяміўшы, чаго ўласна кажучы хоча той чалавек—калі Пулькрабэк, з крумцеўшым дваццацікронным банкнотам у сударгава сьціснутым кулаку, выходзіць з прыцемак канцыляры на зыркасьць паўдня, перад домам сабралася палова ўсёй вёскі.

Пры яго выглядзе застывае ўсхваляваная маса. Хвіліну ён стаіць на парозе, рукі вяла спусьціўшыся па бакох, шэры твар коса павернуты угору, нібы асьлеплы сабака, які шукае згубленае сьвятло. Потым рэзкім штуршком ён пачынае рухацца сваімі рэдкімі, няжыцьцёвымі, цяжкімі крокамі ў кірунку да чалавечага натоўпу, які падзяляецца і пакідае вузкую сьцежку між сабой.

Цішыня.

Чуваць толькі шараваньне ды дзынканьне цьвікоў ды падковак Пулькрабэкавых гамаш.

І як толькі адзіным гукам гэта шараваньне ды дзынканьне парушае цішыню, так жыве толькі стомленая Пулькрабэкавая хада, як адзіны рух сярод гэтай вялікай прыгнечваючай нярухомасьці.

Памалу зьнікае ён паміж першых хатак вёскі...

На паўдарозе да сваёй халупы, якраз насупроць валаснога праўленьня спыняе яго старая Мар'янка і пытае сваім громкім, рыплівым, праразьлівым голасам, ці мела Міляда лёгкую, шчасную сьмерць. (Яна заслужыла лёгкую, бедная душачка, у бога яна заслужыла лёгкую!).

„Што-о-о?"

Бязглуздна глядзіць ён на яе; зусім згубіўшы галаву.

Тады яна паўтарае пытаньне.

„Што-о-о?!"

Раптам яго твар абуджаецца, скажаецца так страшэнна і жахліва, што Мар'янка, сакочучы і жагнаючыся, адлятае ад яго.

„Матка боска"! Езус Марыя! Гляньце людзі, ён здурнеў!"

І ўцякае, у той час як ён п'яна хістаецца і галосячы цяжка кідаецца прэч.

Калі яна варачаецца са шмат якімі іншымі, Пулькрабэка ні чутно, ні відно. Толькі ляжыць яго старая запэцканая скураная шапка ды скамечаны ў зусім маленькую кульку—чырвона-блакітны банкнот.

У гэты-ж самы час Войтэк Пулькрабэк зьнімае ў сваёй халупе (жонка ляжыць на ложку і пільна глядзіць застыглымі вачыма за ім, воскаафарбаваная і востраносая) доўгі, танкі рамень з цьвіка і робіць пятлю.

Але не для таго, каб пакончыць з сабой, але для таго, каб замацаваць свае нагавіцы.

Як трэба моцна для доўгага падарожжа. Праз шмат якія вёскі, ад цагельні да цагельні.

Ён павінен ісьці прэч. Не дзеля таго, што гэта патрэбна, каб змыць пляміну—праўда, гарыць яшчэ рука ад датыканьня да чырвона-блакітнага банкнота, але ён ведае, што, ня гледзячы на ўсё тое, што адбылося, ён не зьяўляецца нягоднікам. Ён ідзе, бо патрэбна далей несьці новае разуменьне, якое зьявілася ў яго галэве пасьля першага ашаламліваючага скругку жаху, ярасьці і роспачы, у той час як ногі пасьля падзеньня, спатыкаючыся і падгінаючыся, шукалі дарогі да дому.

Ня мы вінныя! Не таварышы, і дзеля гэтага і ня жонкі; ня жонкі і дзеля гэтага і не таварышы; не Пулькрабэк, праз якога яны абодвы (і тужлівы сон аб лепшай будучыні яшчэ да гэтага) былі здраджаны!

Ніхто ад нас!

Іншыя!

Котрэйтч і тыя з белага дырэктарскага доміка!

Усе тыя, што спыняюць у лёкаўце свае лесапілкі і цагельні, каб прымусіць нас ісьці працаваць да сябе; усе тыя, што пішуць абвесткі, каб зрабіць з нас дурняў.

Усе тыя наогул, што сядзяць у цёплых мясьцінах і каму дзеля гэтага да спадобы гэты сапсаваны і несправядлівы сьвет... і якія павінны быць ізрынуты раней, чым мы пачнем.

Варта толькі пачаць перабудову: салідную і чыстую, як гэта належыць—новы сьвет, у якім ніякая Міляда не павінна быць больш бяз зельля, і ў якім ніякі Пулькрабэк праз гэта не павінен рабіцца нягоднікам!

Так, а ня інакш, ідуць справы!

Пераклаў А. Б.

## РАДКІ ЛІРЫЧНАЙ ПЕСЬНІ

**Уладзімер Хадыка**

1

Гісторыя
Бязьлітаснай рукой
Асуджанаму сьвету
Вырак піша.
Патрэбна рупасьць сіл
Краіны ўсёй,
І хаце новай
Шмат патрэбна цьвішша.

Гарыць на фабрыках,
Гарыць ў палёх—
Запал брыгад
Адданых і адважных.
Учарашніх лоз абшар
Грудзьмі налёг
На будаўляны
Ўзьвесьнены падважнік.

Моц (гартам злучаных)
Працоўных рук—
Нізрынутых вякоў
Старыя пні карчуе.
Плюгавы вусень
Ўтульную кару
Не абароніць
І не адратуе.

Худыя рыцары
Чужых прыгод
(Хто скіраваў
На блудны троп аглоблі)—

Сабачай зграяй
Ходзяць ля варот,
Грызуць прабой,
Фальцэтам хрыплым скогляць.

Навісла тлош
Рызьзё былых эпох.
І ў рэдкай мгле,
Раскіданай аддалеч,
Пясок грабе
Падрэзаны быльнёг
У роспачным
Апошнім цемрашале.

2

Аберуч песьню
Я сваю узяў
І словам напаліў яе
Гарачым.
Ня сьцьмяніць бруд
Старэчага рызьзя,
Ня зглушыць злыдзеньскім
Аблудным плачам

Жахлівых дзён
Павалены крыжы
Мяцежны шторм жыцьця
Ўздымае і хвалюе...
... Мне давялося
Рана перажыць
Бруёвы шопат гліц
І восеньскую дую.

Дзікаркай лютаю
Кранала скронь
Нямая здань
Дзіцячых успрыйманьняў.
Парой тэй слоты сны
Зьлятаюць на далонь,
Па нэрвах драпаюцца,
Лезуць беспратхланьня.

Я іх ў адхон пускаю—
На хаду...
Адмернасьць прагне
Ў ладзе дзей і рэчаў.
Сьціхае звон ў вушох,
Як грае хто ў дуду—
Апрыкры гэткі,
Аб забытым нечым.

3

Як карны меч,
Я думку натачу,
Пайду узброены
Ад перабораў кволых...
Рваў край на шкуматы
Ліхіх віхур ярчук
І сэрца біцца
Кідаў на шындзёлы.

Па трапяткіх вяршынях
Раньніх вей
Я тойма йшоў
Праз радасьці і ўзрыгі...
І стылі лёдам
Ў буйнай галаве
Радкі поэм
Недрукаванай кнігі.

Халодным сьліўнем поўз
У жылах жах,
Плынь бурную
Жывой крыві марозіў.
Здавалася—
Ў руцэ лязо нажа
У кожнай цені
Стрэчнага ў дарозе.

Мне тых нагод
Давеку не пазбыць...
Звалтузіць рунь ішлі
Прыгоньнікі благія
І восень—ягіня
Часала ля вярбы
Аголены
Распусны свой ашыяк.

4

Туліўся смутак
Ў засенях травы.
Палосак вузкіх
Ня ўзьдзіралі сохі,
Зьвяр'ё вяльможных бегла
Шчэрыцца і выць
На дзікі рогат
Кручанай цыцохі.

Сабачым пылам—
Ў труеных вятрох—
Гандлярскіх слоў ману
Трусілі далакопы.
А край расстрэльвалі...
І гвалтам па трупох—
Кадрыль гудзела
Тройчы трэцім штропам.

Ня ўкласьці ў верш
Жуды замшэлай міт,
А ў снох насіць—
Няма нічога горней...
З спрухнелым носам
Вырадак—бандыт
Зганяў дзяўчат
На ўзьюшаную зборню.

Палалі хаты.
Віснуў чаду цэп.
І ў садзе спаленым—
Маўклівым сьведкам
Спаўзаў з ігрушы
Месяц на ачэп
Зацыраванай
Жоўтаю шкарпэткай.

5

Сьліхотаю сплыла
Вякоў багна,
Рабаўнікі
Спынілі свой рабунак.

Ў крыві шалець
Ня прыдзе больш магнат
З вязанкай джуплаў
Краю ў падарунак.

Бадзяжны сухавей
Ня прынясе
Кіпцястых лап
Ад[illegible]чаныя [illegible]осьці,
Адна ім рада—
Гінуць па крысе.
Галубіць злосьць
І ў курчах немых сохці.

Гады бягуць.
Наўзавадзь мчаць гады,
Нязнаныя
Ў сваёй імклівай строме.
Карэньнем дум
Упартых, маладых—
Я ў грунт урос
І зрухі усьвядоміў.

Грымяць напорней
Бойныя шляхі,
А ўспыліць змрок—
Я знаю скуль навеян:
Сумуе зьвер
На вомшары глухім
І ладзіць мшу
Рыпеньне сухадрэвін.

6

Ў блакітавасьці
Сонечных высот,
Як ветразі,
Лунаюць хмат радзянкі.
Удратованы
Нялёгкі пераход...
Услалі даль
Бязьлікія паўстанкі.

Над славай будучынь
Працуюць разьбяры,
Праз груд ухаб
Бягуць масты, тунэлі...
Хто спыніць рух
Ўзбунтованай зары?
Хто зрушыць здолее
Сусьвету цытадэлю?

Сшалее груганьнё
У чорнай варажбе,
Ахрыпне ў карканьні
Вакол краіны нашай.
Арол драпежны
Белы хвост дзяўбе
І звоніць шпораю
вусаты маршал.

Паўзьмежным ценем
Ходзіць брудны бот
Ў ардзе гвалтоўнай
Катаў міжнародных—
Спыняе кроў
Прыбой чырвоных рот
І сьлепяць зрок
Рэволюцыйныя паходні.

7

Сьпявай, душа!
У песьнях радасьць ёсьць!
Згубіла цемрадзь
Берагі прыстанку...
Забразгаў ў вокны
Вецер—позьні госьць,
Прабуе ноч
Дзьвярэй тугую клямку.

Прымяў я крокам
Мягкі змрок сяней,
Пакінуў іх
Расчыненымі нахлашч.
Запахлі сьцены
Сьвежай цэглай мне,
Як некалі ў жніво
Снапамі пахла.

Мне прыгадалася
Гарачая пара
І рук напорнасьць
Ў байцы ураджайнай...
... Абапал вуліц
Ліхтары гарадь,
Звон зор такі знаёмы
І такі бяскрайны.

Вядзе ў прасьцяг
Упартай працы сьлед,
Ня слабне мужнасьцю,
Дзе троп жарсьцьвяней.
Я чую ў рытме дзён
Старно вялікіх мэт,
І ў рупасьці зямлі—
Агонь змаганьня.

І на жвіры пуцін.
Дзе праўды бруяць
Ўрачыстасьцю жыцьця
Ў вушніцы сельскіх весьніц,—
Пра шторм непераможных бур
Чытаю я
Узьнеслыя радкі
Сваёй лірычнай песьні.

24-XII—1930 г.
г. Менск.

# У БЕЛАПОЛЬСКІМ ПАЛОНЕ [1])

*Успаміны*

**С. Бройдэ**

## У ЛЕСЕ

У лесе тужліва. На аголенай зямлі голае гальлё. Яны колюць ногі нават праз анучы з меха, у якія мы іх абвінаем.

Дрэвы халодныя, панурыя, сьпяць мёртвым сном.

Мы самотныя ў лесе—ні птушак, ні казюляк. І ў полі нікога. Раней зрэдку мы сустракалі па дарозе ў поле сялян. Яны кідалі працу і праважалі нас вачыма таксама, як і праходзячы цягнік.

Усё-ж цягнік быў менш страшным. Ён ня быў абкружаны вінтоўкамі, мы-ж былі замкнуты колам канвойных. Сяляне іх баяліся і нават хлапчукі ня рызыкавалі блізка падыйсьці да нашага кола.

Вёска была напэўна за некалькі вёрст ад лягеру. Дарога ў гарадок ляжала некалькі ў баку ад лягеру. Інагды, калі мы ішлі з працы, мы сустракалі абоз у дзесяць-дванаццаць хурманак.

Гэта суседнія сяляне вярталіся з гораду, дзе прадавалі дровы.

Трэба адзначыць, што загатоўленыя намі за дзень дровы пад раніцу чэзьлі. Відавочна іх расьцягвалі ўначы сяляне.

Мы ня крыўдавалі за гэта. Мы ведалі, як цяжка селяніну (шмат з нас самі раней былі сялянамі), ды і не ўваходзіла ў нашы задачы паскорыць нарыхтоўку тае колькасьці дроў, якая вымагалася для лягеру. Мы ня былі зацікаўлены ў тым, каб зноў вярнуцца ў лягер. Таму злосьці да сялян мы не адчувалі. Канвойныя нават на гэта не рэагавалі. Мы меркавалі і ня без падставы, што яны зацікаўлены матэрыяльна ў гэтай справе.

Мы былі моцна і надзейна ізоляваны ад сялян.

Усё-ж, у некаторых сустрэчах, з жывымі людзьмі, сустрэчах на адлегласьці ў сотні крокаў, ня было варожасьці.

Сяляне бясспрэчна ведалі, што мы палонныя рускія, для іх гэта значыла, што мы палонныя бальшавікі, аднак ніводнага злоснага руху ў наш бок, ніводнага пагражаючага выкрыку, ніводнага кінутага каменя я ня памятаю за гэтыя месяцы прабываньня на работах у лесе. Адносіны селяніна да нас былі хутчэй спрыяльнымі, у асаблівасьці, калі

[1]) Гл. „Полымя“ № 8, 9-10, 11-12 за 1930 г.

параўнаць з тэй зьвярынай ненавісьцю, якая была ў натоўпе каля шпіталю ў Вільні, які кідаў у групу мізэрных, пакалечаных хворых цяжкое каменьне.

Аднойчы ў лесе на тым вучастку, дзе працавалі галічане, знайшлі некалькі пар лапцей. Палонныя дзівіліся, але ўсе сышліся на тым, што лапці ў гэта месца трапілі не выпадкова.

Авечкамі ў нашым „палацы" загадваў глухі стары. Мы спрабавалі знакамі перагаварвацца з ім, але гэта не дапамагала. Ён быў безнадзейна някемлівы і стары і напэўна яго сьвядомасьць не даходзіла да таго, з каго набраны людзі, якія працуюць у лесе.

З правага боку, за загарадзьдзю для авечак, адразу ўзьнімаўся густы лес. Дарога ішла ў гушчыню і што было на той бок гары—мы ня ведалі.

Туды адлучаўся часта старэйшы па камандзе і часта вяртаўся адтуль пад мухаю.

Канвойныя лаяліся і казалі, што ён прапівае грошы, якія належалі камандзе.

У сваю чаргу яны пражывалі грошы, якія бралі ў сялян за продаж загатоўленых намі дроў.

Выпаў першы сьнег і зараз-жа растаў. Чакаць больш нельга, нас могуць з дня на дзень вярнуць у лягер. Мы нэрвуемся да таго, што не зьядаем нават нашага хлеба. Спрабавалі хаваць яго на дарогу,—братва заўважыла і цягне бесцарамонна, ледзь не на вачох у нас.

Каманда зусім расьперазалася, п'е ва ўсю. Адчувае таксама блізасьць звароту ў лягер і канец вольнага жыцьця.

Збойствы на работах наогул былі рэдкімі,—адчувалася адсутнасьць афіцэраў,—а апошнія дні зусім сьціхлі. Мы асьмялелі да таго, што ўваходзілі нават у гутарку з некаторымі з канвою.

Набліжаюцца каляды. Нашы канваіры, урачыста рыхтуючыся да сьвята, забытыя старэйшымі, п'янствуюць ужо колькі дзён.

Мы вырашаем уцякаць. Момант здаецца нам найбольш зручным. Нас ахоўвае малады салдат, прозьвішча якога я запомніў—Невядомскі. Ды і як не запомніць, калі дзякуючы яго неспрактыкаванасьці і адсутнасьці ў ім лютай закалкі, якую мы назіралі ў ранейшых канваіраў,—нам прасьцей уцякаць.

Мы раней за ўсё наладзілі з Невядомскім больш-менш прыяцельскія адносіны. Хлопец любіў лісьлівасьць і мы яго вялічылі ледзь ня „панам-палкоўнікам". Яму бязумоўна падабалася ставіцца да нас, салідных людзей, спрыяльна. Момантамі нават спрыяў нам у цяжкім становішчы. Калі-нікалі даваў нам лішнюю порцыю хлеба, частаваў тытуном, а разы два прапаноўваў прынесьці сьпірту. Хутка вечар. Мы просім Невядомскага дазволіць нам адлучыцца для таго, каб згатаваць вару.

Ён спачатку не згаджаецца адпусьціць усіх чатырох, але некалькі сказаў пра яго магутнасьць і ён дае сваю згоду. Мы рушыліся са скотнага двара, дабраліся да сьціртаў саломы і схаваліся за ёю.

Зрабіўшы перадышку і пераканаўшыся, што ўсё нам спрыяе, і наш добры вартавы Невядомскі ня трывожыцца, кінуліся на гэты раз бегма, як мага, у кірунку да лесу. Там ужо, не баючыся пагоні і маючы магчымасьць у крайнім выпадку схавацца за дрэвамі, пайшлі павольней. Ужо праз гадзіну мы адчулі бязьмерна радаснае веяньне волі, па якой мы так змардаваліся за наша жудаснае жыцьцё ў стралковым лягеры. Пачаўся наш другі ўцёк з белапольскага палону.

На гэты раз мы рушыліся ўчатырох: Пятроўскі, Ісачонак, я і стары „заслужаны“ палонны, захоплены яшчэ немцамі, прозьвішчам Барысюк. Яго мы ўзялі з сабой таму, што ён вольна гаварыў па-нямецку. У выбары мы не памыліліся. У далейшым ён аказаўся незаменным і сыграў не малую ролю ў нашай авантуры.

Радасьць зацьмілася сумным лёсам Грознага, Сарокіна, Мікалая і Шалімы. На сэрцы зьнібеючая боль па сяброх, з якімі мы цесна зжыліся ў палоне.

Сарокін такі нездаволены жыцьцём, зараз валяецца ў куце бараку і можа быць чуе, як Маліноўскі пытае:

— Што, здох, сабака?

Сарокін часта настойліва дапытваўся кожнага з нас аб тым, як-бы налаўчыцца пераслаць ліст на бацькаўшчыну. У гэткіх выпадках мы глядзелі на яго зьдзіўлена. Зьвіхнуўся хлопец, ці што,—думаў кожны з нас.

— А вось для цябе самалёт закажам, на ім і адправім тваё пасланьне.

Гэта было нядобра з нашага боку. З яго ня трэба было кпіць, трэба было зразумець, што ў сутнасьці з гэтага і складалася трызьнёвая ідэя— прага да сям'і, па якой ён сумаваў, літаральна згараючы ў разлуцы з ёю.

— Ды, што цябе гняце,—прыставалі мы да яго часта з распытамі, калі пахмуры і адзінокі забіваўся ён у кут.

— Сум мяне душыць, браткі, не вярнуся я назад, успомніце мае слова, жонкі ня ўбачу, заб'юць яны мяне тутака,—адказваў Сарокін.

Гэта думка так моцна ўелася ў яго мозг, што ніякія нашы ўгаворы не маглі парушыць Сарокіна ў яго цягасным пераканаНьні. Ён чакаў набліжэньня свайго канца, як нечага ўжо абмеркаванага і няўхільнага з фатальнаю пакорлівасьцю.

— Мне то, канешне, нічога, перацярплю, а з жонкай што будзе,— гэта-ж калі адыходзіў, была цяжарнаю. Любіў яе і люблю ды так, што сіл няма маіх.

У стралковым лягеры я прасынаўся ня раз, калі будзілі мяне яго прыдушаныя рыданьні.

Сарокін быў моцным чалавекам. Ён паходзіў з падмаскоўных сялян, доўга жыў у Маскве, куды хадзіў з вёскі на будаўнічыя работы. На фронце біўся, як бездакорны адважны баец, сьмела ішоў у атаку, але ўвесь абмяк, як толькі трапіў у палон, і пачаў згасаць.

Здавалася, што пакуль быў у баі, пясьціў думку, удзельнічаючы ў агульным імклівым напоры на палякаў, хутка скончыць бойку і вярнуцца дадому. Сум па маладой жонцы, якую кахаў дужа, распальваў яго ярасьць супроць палякаў, ня толькі пазбавіўшы яго волі, але бязьлітасна расьцісьнуўшых яго, як асобу, і пахіснуўшых веру ў асабістае шчасьце. Ён ня здолеў прыняць палон, як адзін з нязначных і няўхільных этапаў у змаганьні за вялікую справу волі.

Калі нават перамагчы хваробу, дык усё-ж яго канец будзе сумным. Капітан Вагнер, начальнік стралкоў, пацарамоніцца і расстраляе яго як сабаку, прычапіўшыся да любога поваду. Бяз нас, без спакойнага, вытрыманага Пятроўскага поваду будзе бясспрэчна шмат.

Такі, напэўна, лёс другога члена нашай комуны Сарокіна—калі-б не хвароба, адарваўшая яго ад нас, мы здолелі-б яго зьберагчы, асабліва станоўча ўплываў на яго Пятроўскі. Гэта ўсё-ж найбольш колёрытны чалавек у нашай кампаніі. Я досыць блізка прыгледзеўся да яго ў дні нашага супольнага бадзяжніцтва, у пэрыод уцёку з Калішскага лягеру.

У Пятроўскага энэргія і сіла пераліваласе праз край, ён запальваў сваёй упэўненасьцю. Я ня ведаю, што здарылася-б са мной, каб ня гэта асаблівасьць яго характару.

Трапся мне ў спадарожнікі Сарокін, я быў-бы ўжо даўно ў руках палякаў. У тэй авантуры, сьмелай па безразважнасьці, якую мы, задумаўшы, маглі зьдзейсьніць,—былі ўсе элемэнты рызыкі.

Толькі сьляпая ўдача, выключна ўдалы зьбег абставін маглі нас давесьці да нашай мяжы.

Мы ня мелі ўяўленьня аб тым, як далёка адступілі нашы часьці. Патрэбна была нязбытая вера Пятроўскага ў посьпех нашага пачынаньня, каб рухацца наперад, бог ведае куды, кожную хвіліну, чакаючы сустрэчы з польскімі салдатамі, якіх было ўсюды натыкана для аховы мяжы ад савецкай небясьпекі.

Пятроўскаму, як быццам, была неўласьціва пяшчота—гэта так не падыходзіла да яго магутнай постаці і грубога голасу. І, ня гледзячы на гэта, ён быў так своеасабліва ласкавы да мяне. У нашы ночы (дні) у час першага ўцёку я прасынаўся інагды ад таго, што нехта мяне варушыў. Гэта Пятроўскі ўкрываў мяне сваёй курткай, панура мармочучы.

— Ляжы, ляжы. Тожа ёрзаеш, спаць мне не даеш.

Я быў поўны цёплай удзячнасьцю да яго, але ў сваю чаргу не рызыкаваў праяўляць цёплых пачуцьцяў.

— Не да пяшчот тут, брат, ня будзь дзяўчынай, ваяка,—агрызнуўся на мяне Пятроўскі.

Смутна дагадваўся я, што ў чалавеку гэтым жыве глыбокая туга па сям'і (у яго было двое дзяцей), але ён на гэту тэму ня гутарыў ніколі. Затое з ахвотаю дзяліўся са мною сваімі думкамі аб сваёй працы пасьля звароту на бацькаўшчыну. Гэта быў энтузіяст новай вёскі і гораду, сапраўдны барацьбіт за будучае грамадзтва.

Пятроўскі сам не сумняваўся і мне не дазваляў нават задумвацца— над магчымасьцю нашага хуткага прыходу да савецкіх паўзьмежных слупоў. Мы павінны былі да іх дайсьці. Ён зьбіў-бы мяне ня менш люта, як польскія салдаты, калі-б я задумаў сур'ёзна супярэчыць яму.

Наш правал у далейшым не аслабіў энэргіі Пятроўскага, хутчэй узмацніў яго веру ў няўхільнасьць нашай канчатковай урачыстасьці. Часта заспакойваў мяне ў часе роспачы, гаворачы:

— Пецька, не гаруй, нам-бы толькі жывымі застацца, усё астатняе глупства.

Чаго ён толькі ня бачыў, чым ня быў. Працаваў з бацькам у полі ад зары да зары. З 15-ці год заводы і турма.

Назавеш горад, усьміхнецца і кіне мімаходзь фразу,—відаць бываў, а што рабіў ня скажа і пытаньняў ня любіў.

У яго была зьвярыная нянавісьць да ўласьніцкіх інстынктаў. Сярод нас было шмат сялян. Звычайна ў спрэчцы барак дзяліўся на дзьве часткі. Сяляне гаварылі, што зямля сялянская, але далей гэтага ня ішлі. Зямлю ўзяць сабе і зрабіцца самім памешчыкамі, толькі хіба падрабней.

Вось тады я пачуў будучыню зямлі, зямлі напоенай крывёю рабочых і сялян, калі ўлада пяройдзе да рабочых.

Пятроўскі пачаў расказ здалёку, з першабытнага дзікуна, які ўзьдзіраў зямлю ўломкам дрэва і да страшыдлавых машын, якія створаць рабочыя, каб пазбавіць чалавека ад катаржнай працы пад зямлёй,— правёз аудыторыю ў сьвет будучага.

У яго словах ня было ніводнага слова не зразумелага палонным і не лятуценьнік з пустою трызьнёю, а новы чалавек, які ведае, чаго хоча і як возьме—адчуваўся ў Пятроўскім.

Хто сформаваў з гэтага бамбізы чалавека, які бясспрэчна бачыць шмат далей за нас? Няўжо толькі жыцьцё. Дзе ён схапіў столькі ведаў, няўжо ў турмах?

Сялянская частка лягеру замкнулася ў сябе.

Усьміхнуўся Пятроўскі і сакавітым матам аблажыў іх усіх.

Профэсар зьнік. Застаўся рослы чырвонаармеец, які з кожным можа лёгка пажартаваць і з якім рызыкоўна разгаварваць кулакамі.

Вось ён ідзе побач са мной, а ці ведаю я пра яго болей за Грознага, або за другіх? Наўрад.

## ДРУГІ УЦЁК

— Давай заблытаем сьляды, іначай хутка дагоняць,—сказаў Пятроўскі.

Пайшлі па тропках, спрабуючы знайсьці дарогу, якая дазволіла-б перайсьці лес нацянькі. Дабраліся да палян і зноў, як і першы раз, выбралі кірунак на паўночны захад. Плян наш быў просты. У першую ноч мы меркавалі трымацца паўночна-заходняга напрамку, з тым, каб потым

павярнуць на захад, разьлічваючы, што гэты маршрут прывядзе нас ва Ўсходнюю Прусію, або ў Латвію. Ясна было, што на Расію ісьці далёка, а, значыцца, і рызыкоўна, таму, што магчымасьцяй зноў трапіць у лапы палякаў—было надзвычайна шмат.

— Калі дабярэмся да Ўсходняй Прусіі, дык нас там, калі і арыштуюць, мучыць ня будуць, як у палякаў. Да сябе, у Савецкую краіну тым ці іншым спосабам дабярэмся,—гаварыў Пятроўскі.

На той выпадак, калі нас зловяць недалёка ад маёнтку, з якога мы ўцяклі, будзем дурня строіць: скажам, што вышлі трэсак набраць, заблудзіліся ў цемнаце і памылкова пайшлі ў другі бок. Пра расстрэл уголас не хацелі гаварыць. Калі-б нас захапілі ў пэрыод, калі нам удалося-б крыху адыйсьці ад лягеру і мы, такім чынам, апынемся блізка каля нямецкай мяжы,—будзем рэкомэндаваць сябе палоннымі, якія ўцяклі з Германіі.

Ідзем, моў, на бацькаўшчыну да сябе ў Польшчу, на месца свайго сталага жыцьця.

Я заяўлю, што сталае маё месца жыцьця ў Менску, Пятроўскі будзе з мястэчка Койданава, Менскай губэрні, Ісачонак з Віцебску, а Барысюк з Віленскай губэрні. Палякам Барысюк будзе сябе прадстаўляць земляком, а мы ўсе ўтрох пройдзем, як беларусы.

Шпарка пасоўваліся ў напрамку да паўночнага захаду...

— Хутчэй, хутчэй, таварышы. Трэба выйграць час. Зараз у маёнтку палякі сьвяткуюць, раніцою прачнуцца і, канешне, арганізуюць за намі лютую пагоню,—падганяў нас Пятроўскі.

Нас ня трэба было падганяць, надта выразна разумелі, што калі зловяць, будзем зьвернуты ў Стралкоўскі лягер проста ў лапы да капітана Вагнера. Мы добра разумелі, да чаго прывядзе сустрэча з катам.

Віхрам імчаліся, не адчувалі ні зморанасьці, ні болю на зьбітых мясцох, калі натыкаліся на пні ў цемнаце. Нарэшце, лес скончыўся. Мы апынуліся перад нейкім балацяным месцам. Ясна стала, што трэба зрабіць вялікі круг, каб абыйсьці нечаканую перашкоду. Спачатку мне здалося, што мы трапілі ў сырое месца, дзе за ноч глеба напэўна трохі падмерзла і можна лёгка прайсьці праміком. Павярнуў управа і, пераскочыўшы праз лужу, трапіў, на жах, у тарфянішча.

Забоўтаўся ў балоце, увесь прамок наскрозь, але спыняцца для таго, каб сушыць адзежу, нельга было.

Парашылі ня спыняцца, пакуль ня стане дзень і патрэбна будзе шукаць прытулак на дзень. Выходзячы з практыкі першага ўцёку мы ўжо ведалі, што найбольш надзейным месцам для таго, каб схавацца, магла быць толькі сьцірта саломы. Ніхто з таварышоў супроць гэтага не супярэчыў, і мы сталі выглядаць на дарозе, ці няма дзе такога паходнага „готэлю“.

Хутка, з паўвярсты ад нас, заўважылі вялізную сьцірту.

— Пойдземце, хлопцы, да яе,—сказаў Барысюк.

Шпарка пайшлі ў паказаным напрамку. Забраліся наверх, вырылі ў сьціртце яму і ўладзіліся на адпачынак. Мы адчувалі-б сябе зусім добра, калі-б ня холад, які асабліва непакоіў мяне таму, што я наскрозь прамок. У дадатак адзежа на мне стала каробіцца і застываць ад холаду.

— Добра, што дні пайшлі кароткія, а то замерзнуць можна,—сказаў Ісачонак.

— Гэта то ўсё правільна,—адказаў я яму,—але я ўжо ўсё гатоў цярпець, абы падалей ад Вагнера і Маліноўскага адыйсьці.

Нам усё карцела, з нецярплівасьцю чакалі падыходу вечара для таго, каб зноў рушыцца далей. К ночы надвор'е праясьнела, узышоў месяц, і мы, спусьціўшыся са сьціртты, бадзёра закрочылі ў напрамку на Захад.

— Зараз ужо баяцца няма чаго,—весела гаварыў Пятроўскі.

— Ужо калі ў працягу дня не арганізавалі палякі пагоню і не злавілі нас, то ўжо ўначы, канешне, ня пойдуць.

Запас харчоў быў невялікі—усяго адна буханка хлеба. З рэчаў мы захапілі з сабой усё сваё дабро і адзін кацёл. Ісьці было параўнаўча лёгка. Мы павялічваем рух, па меры таго, як набліжаліся досьвіткі. Думаю, што ў гэту ноч мы прайшлі добрых пару дзесяткаў вёрст. Дзіўна, што ніхто з нас у гэту другую ноч не адчуваў стомленасьці,—нас акрыяла ўдача, яна стварала ў нас уздым, рабіла нас дужэй, сьмялей.

Зноў дабраліся да сьціртты саломы. У час нашай хады мы саграваліся і не адчувалі холаду, які даймаў нас на прывалах.

Салома сагрэць нас не магла, але гэта было-б яшчэ поўбяды, калі-б у дадатак да холаду мы не пачалі адчуваць голад. Хлеб наш мы зьелі ў першы-ж дзень, трэба было тут-жа падцягнуць жывот і пастарацца заснуць. Спалася нам дрэнна,—уначы паднялася вялікая завіруха; вецер і сьнег бязьлітасна рэзалі твар. Наша абшарпаная адзежа, канешне, цела не саграваў. Трэба было ісьці, як можна шпарчэй наперад. Але даваў сябе адчуваць голад, які зьнясільваў і, натуральна, затрымліваў тэмп нашага руху.

З прычыны таго, што мы ўвесь час рухаліся ў абход дарогі, баючыся сустрэчы, мы хутка згубілі орыентацыю і ішлі наўгад, па натхненьні.

— Таварышы, больш не магу ісьці,—слабым голасам сказаў Барысюк.

— Ідзем, ідзем, Барысюк,—сталі мы яго ўсе падбадзёрваць, хаця кожны з нас адчуваў сябе такім-жа кволым і галодным, як і Барысюк.

Бадзёрасьць наша стала зьнікаць.—Няўжо зноў правал,—падумаў я.

Разам з Пятроўскім падышлі да дзьвярэй хаты, напэўна пабудаванай заможным селянінам. Да яе была прыроблена добрая абора, хлеў для хатняга інвэнтару. Вокны занавешаны фіранкамі з белага палатна. Падобна было на тое, што тутака жывуць людзі ня толькі ня бедныя, але і звыклыя да чыстаты і парадку.

Пляц навокал расчышчаны.

— Тут напэўна жыве немец,—сказаў Пятроўскі і адначасна з гэтым сказам нясьмела стукнуў у дзьверы. Трэба было праверыць, ці сьпяць гаспадары.

Мы пачулі, як нехта захадзіў па калідоры, падышоў да дзьвярэй і на нямецкай мове выразна і спакойна запытаў:

— Хто там?

Калі-б з намі быў Барысюк, які ведаў нямецкую мову, адказ быў-бы на тэй-жа мове, на якой зададзена пытаньне. На сэкунду запнуліся, пакуль Пятроўскі не адказаў рашуча на польскай дрэнна мове з просьбай адчыніць дзьверы і пусьціць нас усярэдзіну, каб пагрэцца.

— Мы зблудзілі з дарогі, замярзаем, згаладаліся,—дадаў я да слоў Пятроўскага.

Дзьверы перад намі асьцярожна расчыніліся. Мужчына высокага росту запрасіў нас увайсьці. Пятроўскі рашуча пераступіў праз парог і ўвайшоў у сенцы, а я павярнуўся, гукнуў Ісачонка і Барысюка, якія стаялі праз некалькі крокаў і напружана сачылі за тым, як разгортваюцца падзеі. Яны імпэтна падбеглі да дзьвярэй і пайшлі ўсьлед за намі.

Гаспадар памяшканьня, які так спакойна нас сустрэў, усё такі быў зьбянтэжаны тым, што ўначы да яго ўварвалася цэлая група людзей, падобных да бадзяг, якія вышлі на рабункі.

Гаспадар аказаўся немцам, некалькі слоў Барысюка на нямецкай мове заспакоілі яго. Мы зусім пасьмялелі. Я рашыў прызнацца яму ў тым, што ўсе мы бальшавікі.

Гэты мой намер Пятроўскі знайшоў рызыкоўным. Тады я накіраваўся калідорам да дзьвярэй, задумаўшы на ўсякі выпадак узяць на сябе дабраахвотна выкананьне абавязкаў вартаўніка; спаць, як гаварылі ў царскай арміі, на „стрэме“ („страже“).

Гаспадар, зразумеўшы мой намер, падышоў да мяне блізка і дабрадушна, але настойліва, заявіў, што ён лічыць для сябе вялікаю абразаю маё недавер'е.

— Наш гаспадар, таварышы, чалавек сумленны, палякаў ён ненавідзіць усім сэрцам, можна зусім спакойна ўладжвацца,—сказаў Барысюк.

Апошняя наша баязьлівасьць зьнікла. Мы падышлі да вялікай шырокай лавы, што стаяла каля печы і ўселіся побач адзін аднаго. Гаспадар наш кудысьці вышаў, але нам гэта не падавала ніякага страху. Ён зьявіўся праз некалькі хвілін з гладышом малака ў аднэй руцэ і з дзьвюма вялікімі буханкамі хлеба ў другой.

— Ежце, колькі захочаце,—запрапанаваў гаспадар.—А я гарбату прыгатую.

Мы трохі атагрэліся каля печкі, атрымалі, прынамсі, мажлівасьць арудаваць рукамі, якія пачалі замярзаць. Не чакаючы паўтору запрашэньня, падселі да стала і энэргічна ўзяліся за зьнішчэньне хлеба і малака. Ледзь пасьпелі з гэтым управіцца, часу для гэтага знадобілася

ня шмат, як зноў зьявіўся немец і запрасіў нас пайсьці з кухні ў суседні пакой, каб напіцца гарбаты.

Вялікая была наша радасьць, калі мы ўбачылі ўвесь стол застаўлены шклянкамі з гарачаю гарбатаю, белым пірагом, банкамі з варэньнем.

Якое шчасьце!—падумаў я. Як даўно ня былі мы ў такай абстаноўцы! Мы нават марыць ня сьмелі аб тым, каб піць гарбату за сталом, накрытым абрусом.

Каля стала сядзела пажылая жанчына і са спачуваньнем глядзела на нас.

— Гэта мая жонка,—сказаў гаспадар.

Мы ёй шчыра пакланіліся і яна, саромліва ўсьміхаючыся і чагосьці палохаючыся, па-польску, на якой гаварыла таксама дрэнна, як і яе муж, запрасіла нас садзіцца.

Цяжка перадаць нашу асалоду. Гарачая гарбата з самавару, з цукрам, варэньнем, а галоўнае ў прыветнай, утульнай абстаноўцы.

У пакоі было цёпла, ад самавару ішла гарачая пара, а побач з намі двое прыветных людзей, ня толькі бяз недаверлівага або варожага стаўленьня да нас, але прыязна настроеных у адносінах да нас. Гаспадар расказваў пра непалад, які пачаўся сярод польскіх сялян, нездаволеных доўгай вайной, падаткамі, якія ўсё павялічваліся, рэквізыцыяю хлеба.

— Ого,—падумаў я,—справа пойдзе.

Гутарка ня спынялася.

Мы настолькі разьмякчэлі, што перасталі нават адчуваць сваё становішча. Усе цяжкасьці, што ляжалі для нас уперадзі, кудысьці адсунуліся назад.

Мы былі ў дабротным стане радаснага спакою.

Дапілі гарбату. Гаспадыня ўвярнула астачу пірага і некалькі вялікіх кавалкаў хлеба ў паперу і падала гэты скрутак нам, а муж яе, узброіўшыся алоўкам, нарысаваў нам прыблізны кірунак, у якім нам трэба было ісьці для таго, каб патрапіць на Захад. На дарогу даў нам два карабкі запалак. Вышаўшы з дому немца, мы доўга яшчэ былі пад уражаньнем ласкавага і сардэчнага прыёму, які мы сустрэлі ў гэтым доме ў незнаёмых людзей. Барысюк аўторытэтна тлумачыў:

— Паміж палякамі і немцамі існуе рэзкая варожасьць,—немец выказаў нам сваё спачуваньне таму, што ён ня любіць палякаў. Немец-жа з палякам на адно поле працаваць ня пойдзе.

— Добра-ж яму такі дапяклі палякі.—падумалі мы.—Ніколі буржуазія адзін з адным ня прыдзе да згоды,—заўважыў Пятроўскі.

— Будзе час, ня толькі на адным полі, але і на адным вучастку будуць разам і палякі і немцы,—гаварыў далей Пятроўскі.—Будзе гэта! Калі і ў немцаў і ў палякаў улада будзе належаць рабочаму і селяніну, а не ваеншчыне абедзьвюх краін.

Бадзёра ідучы наперад, не заўважылі, як падышлі на край вёскі. Надвор'е разыгралася дрэннае. Нас гэта толькі радавала, бо ствárала

ўпэўненасьць, што мала знойдзецца ахвотнікаў у халодную зімовую ноч ганяцца за палоннымі па дарозе.

Да досьвіткаў, сытыя, мы пасьпелі прайсьці значна большую адлегласьць, як у мінулую ноч. Зноў заляглі ў сьцірту.

Ісачонак улёгся і адразу задрамаў.

— Іш, яго дабродзьдзе, спаць любіць,—заўважыў Пятроўскі.—Відаць, нянька ў маленстве прывучыла раніцамі спаць, вось ён і ў вус ня дзьмець.

— Ня іначай, як нэрвы ў афіцэраў інакшыя, у дзяцінстве гора не зазналі, вось і спаць любяць,—адказаў Барысюк.

У жарце Пятроўскага была дабротнасьць, якую не зразумеў Барысюк, шмат зазнаўшы пакуты ад начальства і са слоў Пятроўскага сапраўды ўбачыўшы ў Ісачонку „дабродзьдзе" з усімі ўласьцівымі гэтай годнасьці прывілеямі.

Маўклівы Ісачонак якраз ня спаў.

— Ну і сьцерва ты, браток—нечакана агрызнуўся ён на Барысюка.

— Ты можа і сотай часткі таго ня бачыў, што я, стары салдат, перацярпеў, а туды-ж, крытыкуеш.

— А ў ваенным судзе судзіўся, а ў вар'яцкім доме сядзеў?—Эх, ты, трапло!

Насьпявала сварка. Умяшаўся Пятроўскі.

— Раскажы, браток, пра вар'яцкі дом, час скароцім, а то спаць не ахвота і нуда пякельная. Ды і далей так будзе, а то чаго глядзі яшчэ і паб'емся.

Ісачонак, які звычайна ўхіляўся ад размоў, на гэты раз хутка пачаў расказваць. Дапёк яго Барысюк, відаць, да жывога, ды і Пятроўскаму цяжка было адмовіць.

Ісачонак, як я ўжо казаў, у царскай арміі дасягнуў ужо годнасьці падпрапаршчыка, хоць прышоў у яе радавым з вёскі. Таму і зваў яго Пятроўскі „дабродзьдзем".

Расказваў Ісачонак, зьвяртаючыся да Пятроўскага, зусім ігноруючы Барысюка, а за адно і мяне.

— Разам з вамі зазнаў я гора ў польскім палоне,—пачаў ён.—Бачыў, усе вы ўпадалі ў роспач, а я вось спакайней за вас усіх усе гэтыя зьдзекі і катаваньні зносіў. А ведаеце чаму? Яшчэ месяцы чатыры да нямецкай вайны, пасьля таго, як быў два гады ўжо ў арміі, дайшоўшы да годнасьці ўзводнага, ударыў я па твары фэльдфэбэля. Чапіўся ён да мяне, нягоднік, за тое, што я папа палкавога ня любіў і руку не цалаваў. Да таго даймаў мяне, што я ня вытрываў і ляснуў яго па мордзе.

— А вы ведаеце, канешне, што ў той час за гэта магло быць? Вайсковы суд і вайсковая турма. На шчасьце маё стаў за мяне ротны камандзір, які трапіў у склад суду. Ён здолеў пераканаць суд, што мяне трэба накіраваць на іспыт у псыхіятрычную лячэбніцу,—ужо вельмі незразумелым з маёй службовай дасьціпнасьцю быў мой учынак. На вялікі

зьдзіў мяне накіравалі ў шпіталь. Я нават не зразумеў сэнсу пастановы суду,—настолькі яна была для мяне незразумелаю і нечаканаю. Ротны камандзір, напэўна, хацеў выратаваць мяне ад суровага пакараньня.

Нейкі хлопец з вачыма злоснымі, як у галоднага бадзяжнага сабакі валочачы ногі і, нахінаючыся ўсім тулавам наперад, падышоў да мяне. Ён неяк дзіўна ўцягваў галаву ў плечы.

— Хто ты такі,—запытаўся ён у мяне.

Я адказаў ухіляючыся, а ён, нічога не гаворачы, ударыў мяне ў твар. Я кінуўся да санітара, прасіў сказаць урачу, што я здаровы, што мяне трэба выпусьціць. Пераканаў санітара, той павёў мяне ў комэндацкую

У комэндацкай дзяжурны ўрач паставіўся да маёй просьбы нядбайна. Мяне вярнулі зноў у палату. І я зразумеў, што выхаду няма. Ня трэба было забывацца, што ў вар'яцкі дом мяне накіраваў суд, і толькі па яго пастанове я мог адтуль выйсьці і то ў тым выпадку, калі мяне ўрачы пасьля досьледу прызнаюць нормальным. Вось так удружыў мне ротны.

Вярнуўся зноў, лёг на ложак. Насупраць майго ложка каля самых дзьвярэй ляжыць другі хворы. Вялікага росту, густавалосы, нізкалобы, з п'янымі вачыма,—хворы ўголас расказваў пра тое, як добра гуляў у карты Ісус хрыстос з апосталамі. Побач з ім, управа, зьмяшчаўся „солісты“—так звалі яго ў палаце. Гэты соліст то гарланіў песьні, то пра нешта п'яна мармытаў. Да яго падходзіць другі хворы, становіцца на калені перад ложкам і, маліцьвенна гледзячы на яго, просіць:

— Прасьпявай, родненькі, прасьпявай, мой прыгожы.

Потым грозна крычыць, паказваючы на мяне:

— Зьдзяры з яго коўдру!

Солісты бяжыць да мяне, але чамусьці цягне коўдру суседа. Той дае яму штурхеля. Б'юцца, пырскае сьліна. У соліста пачынаецца прыпадак, а нехта з хворых крычыць, паказваючы на мяне:

— Біце яго на маю галаву!

Ляжу далей. Думаю, што заб'юць, скалечаць. Хворы з жорсткімі вачыма і з сівой капой валасоў шпарка праходзіць міма і аблівае мяне вадой з конаўкі.

У соліста прыпадак скончыўся. Ён устае і пачынае пляваць. На галаве ў яго, накшталт каўпака, насунута кепка. Даўгі халат павязаны вяровачкай, а ногі абматаны бруднымі анучамі. Выцягвае ўперад вострый, як у ліса, твар і сьпявае, а што сьпявае, зразумець нельга. Канчае свой вой, падходзіць да мяне, садзіцца на падлогу.

Зьявіўся, урэшце, санітар і запрапанаваў перайсьці ў сумежную палову. Я думаў, што ў гэтым паратунак. Сьпехам сабраў рэчы і перайшоў у суседні пакой. Там выбіты вокны, дзьмець, холадна, але мне лёгка, я шчасьлівы.

Над галавой маёй буйнымі літарамі напісана вугалем: „Засуджаны без дапамогі ўрача, бяз літасьці монарха“.

Кругом цяжкія, жалезныя ложкі, бляшаныя міскі. Чувацъ, як няспынна цурыцъ вада ў ваннай. Там няма кранту.

Дробным стукам падаюць кроплі. Калі-б не прачнуўся, чуеш іх. Ад аднаго гэтага можна звар'яцець.

Да мяне тут падходзяць новыя хворыя. Яны ў мяне дапытваюцца. Допыт, як перад сьледчым. Стараюся спакойна адказваць.

Адзін пытае:

— Ты афіцэр?

— Адкуль ты ўзяў, што я афіцэр?—адказваю я. Можаш праверыць мае паперы ў комэнданцкай. Ты-ж сказаў, што чытаеш іх, калі хочаш.

Калі-б вар'яты даведаліся, што я з начальства, яны-б са мною люта расправіліся. Прайшоў доўгі дзень, мне здавалася, што яму канца ня будзе. Зноў падышла жудасная ноч, набліжэньня якой я баяўся. Удзень хоць санітары ня сьпяць.

Ляжу на ложку, не адводзячы вачэй ад адчыненых дзьвярэй. Чакаю нападу. Хворыя сталі перашэптвацца, падходзячы адзін да другога, зьбіраючыся групамі.

Размахваюць шпарка, нэрвова. Потым накіроўваюцца на каго-небудзь. Ахвяра вые, адбіваецца, плача.

Сквілы, рыданьні, крыкі. Ляцяць міскі ва ўсе бакі, трашчаць тапчаны.

Хворыя хрыпяць, вочы выкатваюць, пырскаюць з вышчараных зубоў сьлінай, бялізна—у шматкі.

Гістэрыка... Прыпадак за прыпадкам. Вой нарастае.

Лаянка і сьлёзы... Сьлёзы без канца. Я перастаю разумець. Я сам вар'ят. Гэта горш, чым бойка, я таксама хачу выць.

Разумею, што не магу болей заставацца з гэтымі шалёнымі людзьмі—гэта вышэй маіх сіл. Але я стараюся ўладаць сабой. Трэба-ж прыглядзецца, хоць-бы для таго, каб ведаць, на што здольны вар'яты.

Вось хлопчык з бледным тварам з шклянымі вачамі. Ён зарэзаў бацьку—так растлумачылі мне санітары. Падышоў да мяне, відаць, бяз ніякай патрэбы. Ляжу, чакаю, думаю—чаго яму ад мяне трэба.

Вось яшчэ хворы: малады, сьпіць на яве. Падыходзіць да мяне яшчэ ўчора вечарам за папяросай. Я сказаў, што ў мяне няма. Ён, як сонны, нічога не разумеючы, некалькі разоў паўтарыў сваю просьбу. Я яму не адказаў, толькі ўглядаўся ў яго пільна.

А адзін здаровы вярзіла. Аброслы, смуглы, страшэнны. Высока падняўшы бровы, глядзіць усё ў адну кропку. Не адрываецца. Вочы мутныя.

Нечакана ўскочыць, сярдзіта адшвырне што-небудзь і зноў апусьціцца, не мяняючы позы, на ложак. Зноў: вочы ў адну кропку.

І ўвесь потны.

Побач з ім маленькі чалавек—карлік з вусамі. Скурчыўся, дрыжыць ад холаду, асьцярожна і пужліва выглядвае з-пад коўдры.

Карлік гэты напэўна служыў у цырку. Словы ён гаворыць шпарка, сьпяшаючыся.

Зноў сьпявае соліст. Заплакаў адзін хворы, прыпадачна абазваўся трэці.

Стук, грукат, тупат, сьвіст... Ĭ—плач, і плач, і плач.

Страшна. Я ня ведаю, што з сабой рабіць. Увесь дрыжу. Яшчэ хвіліна—і я кінуся на гэтых людзей, разам з імі буду плакаць, разам з імі буду выць, кусацца, завяду бойку.

Солісты прыбягае, валачэ халат з суседняй палаты і хаваецца пад мой ложак. Мне страшна.

Хто за ім гоніцца? Хто ловіць яго? Ня ведаю, нічога ня ведаю...

Што там здарылася? Хочацца бегчы да санітара, але я баюся ўстаць.

Сівы чалавек абходзіць хворых і гэстыкулюе. Пагражае мне з-за вугла і знакамі паказвае, як ён мне ўсадзіць у бок нож. Льле ваду з вядра на падлогу. Відаць, хоча растлумачыць, што так будзе ліцца з мяне кроў.

Потым паказвае пальцам у кірунку да акна, абяцае мяне выкінуць праз акно, на двор.

Ён падходзіць да мяне, але раптам сагінаецца, становіцца на калені і на чатырох паўзе пад ложак. Я бачу; ён паўзе ад ложка да ложка, усё бліжэй і бліжэй да мяне.

Я звар'яцею.

Выпаўз—недалёка ад мяне. Падняўся, устае на ногі.

Выпрастаўся і ідзе да мяне. За крокі два ад мяне спыніўся.

Шпарка агледзеўся па бакох... Ён зараз на мяне накінецца.

Што рабіць? Я губляю спакой. Крычу і падаю на падлогу.

— Эх ты, трапло,—павярнуўся раптам Ісачонак да Барысюка.—Ведаеш, я дваццаць качэй такіх правёў. Вачэй не закрываў. Стары мне плявацельніцай галаву разьбіў.

Страху нацярпеўся, сівы ўвесь стаў.

Прызналі мяне потым здаровым і ў турму ваенную Мікалаеўскую пагналі. Адтуль толькі на фронт адпусьцілі.

Вось і палічы: дома з 20 год ня быў, а год мне ўжо больш за трыццаць. Што я ў жыцьці добрага бачыў. Спакой—дзе я меў яго—у вар'яцкім доме, у ваеннай турме. Зпасаромлены Барысюк зарыўся галавой у салому, твару ня відаць.

Пятроўскі горне да сябе ўсхваляванага Ісачонка і кажа:

— Добра, брат, мы цябе ў сапраўдную санаторыю адправім, калі дамоў прыедзем і бабу вясёлую дадзім... Будзеш пірагі есьці і Барысюка частаваць.

Усе сьмяюцца. У нашым памяшканьні запаноўвае спакой. Мы дрэмлем.

Цемра падыходзіць адразу.

Мы выкачваемся з саломы і выпаўзаем на дарогу.

Мы зграя ваўкоў—галодных, худых і злых. Мы не дамося танна нікому ў рукі. У нас няма зброі, як галодныя ваўкі (браты нам сягоньня) мы будзем зубамі абараняць сябе.

Холадна. Дарога грузкая. У палёх паміж буграмі здрадніцкія лужы. Апіраючыся адзін на аднаго мы скачам наперад.

— Эх, яшчэ-б дзе-небудзь на такіх добрых людзей найсьці!—марыць уголас Барысюк.

Прайшло некалькі гадзін, у працягу якіх мы моўчкі крочылі, думаючы кожны сам з сабою, спыніўшыся на якіхсьці сваіх думках. Са мной здарылася хутка бяда. Пабіў нагу. Гэта дужа затрымала мой рух і таварышом давялося нехаця скараціць тэмп, каб не згубіць мяне ў дарозе. Адрэзалі кавалак матэрыі ад паліто і абвязалі ёю ногі, зрабіўшы нешта накшталт ануч з матэрыі.

Рушыліся далей. Хутка найшлі на невялікую вёску. Анучы мае пасьпелі абшарпацца за адну гадзіну хады. Дужа прасілі кашы і гамашы маіх таварышоў, ва ўсёй астрыні паўстала перад намі пытаньне пра неабходнасьць дастаць абутак. Нядоўга думаючы, парашылі зайсьці ў вёску, зрабіць прывал ля крайняй хаты з тым, каб у ёй-жа здабыць боты або гамашы для ўсіх нас. Вельмі хутка выпрацавалі плян: Пятроўскі і я ўваходзім у хату, патрабуем ад гаспадароў абутку. Тымчасам Ісачонак і Барысюк назіраюць з надворку. Ніхто супраць пляну не супярэчыў, ён быў прыняты аднагалосна. Заставалася яго зьдзейсьніць. Падышлі да хаты, пастукалі ў дзьверы.

Пачулі мужчынскі голас:

— Каго пан бог дае?

Тады я (дарэчы пасьпеў за гэты час трохі прывыкнуць да польскай мовы і запомніў некалькі дзесяткаў польскіх слоў, якімі вельмі дрэнна карыстаўся), замест адказу, пачаў уголас напеўна чытаць малітву: „Слава айцу і сыну і сьвятому духу“.

— Аман,—адказаў голас у хаце.

— Хай, пан, адчыніць,—гаварыў я.

Дзьверы перад намі адчыніліся, напэўна, гаспадар хаты прапусьціў нас уперад. У калідоры было цёмна, ён ня'здолеў нас разглядзець, але пры сьвятле агню ў пакоях стары зьбянтэжыўся. Мы чацьвера ў абмотках, аб'ехаўшых на нагах, аброслыя, з ускалмачанымі валасамі на галаве, маглі на сьмерць спалохаць хоць каго.

Голасам хрыплым і дрыжачым ад страху, ён запытаў:

— Дакуль, панове ідзеце?

— Няхай гэта пана ня цікавіць,—адказаў я, груба старому і той адразу перайшоў на расійскую мову.—Самі ня бачыце, што мы босыя, у такі мароз па дарозе хадзіць дрэнна, ногі замерзнуць. Вы павінны зараз даць нам абутак.

Стары ўпаў на калені і плаксівым голасам пачаў маліцца:

— Паночку, няма.

— Маніш, стары хрэн,—крыкнуў на яго Пятроўскі і пайшоў па хаце, старанна аглядаючы па кутох. Праз некалькі хвілін уважнай

рэвізіі пакою ён прыцягнуў дзьве пары гамашаў, кінуў іх на падлогу і сказаў:

— Ты, Пецька, мерай іх на ногі, а я тым часам папільную гэтага старога паляка.

Хутка скінуў сваё рызьзё з ног, прымераў гамашы. Яны былі як раз па маёй назе.

— Гатова!—сказаў я.

— Вось і добра,—весела сказаў Пятроўскі і, зьвярнуўшыся да старога, сярдзіта крыкнуў:

— Ты, стары хрэн, нясі нам хутчэй хлеба, а то табе будзе...

— Пятроўскі выразна правёў рукой па горле.

Гэты гэст ня вымагаў дадатковых тлумачэньняў, але стары ня рушыўся чамусьці з месца. Напэўна, ён настолькі быў зьбянтэжаны тым, што здарылася, што страціў здольнасьці думаць. Пятроўскі махнуў на яго рукой і мы рушыліся, не зьвяртаючы ніякай увагі на старога, да шафаў і куфроў. Шпарка азнаёміліся з тым, што ў іх знаходзіцца, вынялі хлеба і масла.

Пасьля гэтай пера́трускі Пятроўскі падышоў да старога і, гледзячы яму ў вочы, заявіў рашуча:

— Мы ідзем з Германіі, дзе прабылі чатыры гады ў палоне. Зараз вяртаемся на бацькаўшчыну, праз месяц прышлем табе сюды грошы за гамашы і хлеб.

Зьбянтэжаны стары нічога не сказаў у адказ. Мы кінуліся з хаты.

Наступныя ночы прайшлі без асаблівых прыгод. Мы няспынна ішлі на Захад, дадаючы да канца кожнага начнога пераходу колькасьць вёрст, якія засталіся назадзе.

Неяк ўначы мы ўбачылі шмат агнёў.

— Горад нейкі, хлопцы,—сказаў Пятроўскі.

— Ды, можа быць, гэта ўжо і Германія!—задумліва сказаў Ісачонак.

— Не, напэўна гэта польская тэрыторыя,—комэнтаваў Барысюк.

Мы супыніліся.

Трэба было прымаць рашэньне, як рухацца далей, што-б ня было, трэба было орыентавацца, але як. З распытваньнямі-ж зьвяртацца да каго-небудзь рызыкоўна было...

Урэшце, загаварылі рухацца далей у кірунку, ці выгадаць адлегласьць да яго,—як мы азначылі на-вока,—была куды большая,—а між тым ужо днела. Рызыкоўка было крочыць наперад, бо паўставала пагроза натыкнуцца на людзей. Рашылі легчы на адпачынак. Тым больш, што зблізу нас трапілася вялікая сьцірта саломы. Мы узьняліся наверх, парабілі ў саломе ямы, улягліся, устанавіўшы чарговае дзяжурства.

Першы ўзяў на сябе абавязкі па нашай ахове Пятроўскі. Праз тры гадзіны ён разбудзіў Барысюка і сам улёгся на адпачынак. Пасьля Барысюка, ішла мая чарга.

Ня спаў, з цяжкасьцю перамагаў дрымоту.

Раптам пачуў, што нехта праяжджае каля сьцірты. Гулка застукала сэрца.

Няўжо за саломай, надумаўся. Не, ня можа быць. Напэўна каля сьцірты праходзіць тракт, які мы ў цемры не разгледзелі.

Стук калёс, тым часам, усё больш набліжаўся. Тады я рашыў разбудзіць таварышоў.

— За саломай,—спалохана прагаварыў Ісачонак.

— Маўчыце, хлопцы!—уздрыгнуў Пятроўскі.

Падумаўшы трохі, сказаў:

— Будзем дзейнічаць так: калі мы яшчэ ў Польшчы, а пра гэта мы даведаемся, калі пачуем, на якой мове будуць гаварыць тыя, што прыехалі за саломай,—назавемся палоннымі, якія зьбеглі з Германіі на бацькаўшчыну ў Польшчу. Пецька будзе з імі гутарыць па-польску, Барысюк па-нямецку. Калі-ж мы пачуем нямецкую мову, значыцца, мы ужо ў Германіі. У гэтым выпадку скажам, што мы палонныя рускія—вось і ўся гамонка. Памятайце, хлопцы, што блытацца ня варта. Усё астатняе гаварыце па-старому, як ужо ўмовіліся Пецька з Менску, Ісачонак з Віцебску, Барысюк з Віленскай губэрні, а я з Койданава. У Германіі, моў былі ў лягеры Ляндсдорф, куды трапілі ў 1916 годзе ў баі каля Кэнігсбэргу.

Унізе ўжо нехта капашыўся і таму Пятроўскі сваю рэпліку кінуў у момант.

— Янак, пад'яжджай тут, бо тут салома ўзварушына, лепей будзе ўзьлесьці!—пачулі мы голас хлапчука.

— Усё ясна,—сказаў Пятроўскі,—трэба ўставаць мы ў Польшчы. Пецька, не падгадзь.

Сабраў усю сваю мужнасьць і рашуча падняўся наверх.

Унізе ўбачыў дзяцюка гадоў 17 з віламі ў руках. Напэўна, ён мерыўся накладаць ў драбіны салому, у якой мы хаваліся.

— Пане, ня бойцеся!—зьвярнуўся я да яго па-польску.

— Вы, напэўна, палякі?

Так сказаў дзяцюк, уздрыгнуўшы.

— Не пасьпеў я апамятацца, як Пятроўскі, скокнуўшы са сьцірты, ужо апынуўся каля дзяцюка і з радасным тварам моцна трос яму руку.

— Дзе мы знаходзімся?—паўтараў ён, гледзячы на паляка.

Той маўчаў, не разумеючы Пятроўскага.

— Я, увайшоўшы у ролю перакладчыка, тут-жа стаў расказваць паляку гісторыю аб нашым знаходжаньні ў нямецкім палоне, расфарбоўваючы яе ўсялякімі падрабязнасьцямі.

— Цяпер уцякаем на бацькаўшчыну,—гаварыў я з запалам паляку,—даведаліся, што гэтыя месцы заняты польскім войскам.

Да гэтага, робячы выгляд, што я няўпэўнены, што мы ў Польшчы, задаў яму па-польску пытаньне—ці далёка яшчэ нам ісьці да роднай, жаданай Польшчы.

Дзяцук засьмяяўся і сказаў:

— Ды вы ў Польшчы. Мяжа ўжо 12 кілёмэтраў назад.

Значыцца, мы не дайшлі да мяжы, дзе нас чакала воля, усяго якіх-небудзь 12 кілёмэтраў. Вось дык прыкра!—падумаў я.

Як цяпер выблытацца з гэтай бруднай гісторыі.

Рабіць была нечага, раз завялі гульню, трэба было яе канчаць.

Дзяцюк паклікаў свайго брата, які знаходзіўся ў некалькіх кроках ад нас. Трэба было яшчэ каб атрымаць давер'е, і яму паўтарыць гісторыю, не шкадуючы фарбаў, расказваў Янаку.

Я натхнёна стаў зноў выкладаць эпопэю зьдзекаў немцаў над рускімі. Матэрыялу для расказаў у мяне было досыць—для гэтага трэба было толькі ўспомніць наша жыцьцё-быцьцё ў Стралкове, адносячы ўсё гэта на нямецкі рахунак, а ня польскі.

Палякі слухалі нас, прытаіўшы дыханьне. Твары іхныя гарэлі нянавісьцю да немцаў, з часу на час. Асабліва тады, калі апавядаў пра сыстэматычнае збойства польскіх палонных бізунамі з тэлефоннага дроту, яны ўскрыквалі:

— Халёры, курвіны сыны!

Мы пачалі заспакойвацца. Відавочна, яны нам паверылі, бо сталі даверліва і падрабязна адказваць на нашы нецярплівыя пытаньні.

Выявілася, што горад, які знаходзіўся ў адлегласьці паўгадзіны хады ад нас, меў назву „Іновраплав“. Ляжыць ён у 12 кілёмэтрах ад мяжы з Германіяй. У самым горадзе ў той час, калі мы сустрэліся з братамі-палякамі, зьбіраліся польскія сілы, якія накіроўваліся на фронт для змаганьня з немцамі. Абодвы маладыя палякі жылі на хутары, што знаходзіўся ад сьціртаы саломы на адлегласьці ўсяго ў паўвярсты.

Янак паказаў разьмяшчэньне свайго памяшканьня і запрасіў нас усіх да сябе.

Становішча было такое, што адмаўляцца ад гасьціннасьці палякаў нам нельга было. Ды і ня бачылі мы для сябе асаблівай рызыкі ў наведваньні доміка братоў. Мяшканьне іх стаяла з асобку, на новых людзей мы наткнуцца там не маглі, а браты не давалі ніякага поваду небясьпекі.

Яны нам дужа паверылі ў тым, што мы нямецкія палонныя, спачувалі нам у цяжкіх пакутах, што выпалі на нашу долю ў Ляндсдорфе, і стараліся як мага нас заспакоіць. Мы дапамаглі хлопцам нагрузіць драбіны саломай і крануліся разам з імі да хутара.

Пад'ехалі да хаты.

Стасік, так звалі другога паляка, пабег наперад, каб паведаміць матку аб нечаканых гасьцёх—палонных з Германіі. Ён прасіў яе прыгатаваць абед. Праз некалькі хвілін да нас падышла старая полька ў чэпцы і спагадліва разглядзела нас усіх. Мне давялося і ёй паведаміць аб некаторых падрабязнасьцях з нашага жыцьця-быцьця ў Ляндсдорфе. Яна

ўважліва выслухала, паківала галавой і далікатна запрасіла зайсьціў хату. Хутка быў прыгатаваны абед.

Мы добра паелі. За абедам кожны з нас дадаў патроху падрабязнасьцяй да майго асноўнага сюжэту пра нямецкія зьверствы. Скончылі мы яду каля 3-х гадзін з паўдня, і з прычыны таго, што ў дзеньісьці далей баяліся, парашылі час да надыходу цемры скарыстаць для папраўкі сваёй абшарпанай адзежы. Старая полька ўсяляк старалася паказаць нам сваю ўвагу,—яна дала нам нітак, прынесла нейкія анучы для латак. Мы ўва ўсю, сытыя, здаволеныя, заняліся рамонтам і не заўважылі, яа праляцелі некалькі гадзін да канца дня.

Надышоў вечар.

Янак, Стасік і матка ўпрашалі нас застацца начаваць.

Мы катэгорычна адмаўляліся, яны дзівіліся і ніяк не маглі растлумачыць сабе нашай упартасьці. Уласна і нам хацелася ноч паспаць пад страхой, але ў нас ня было ўпэўненасьці, што людзі, якія могуць выпадкова зайсьці да палякаў у хату, ня выявяць нашага сапраўднага твару.

Мы заявілі, што дужа хочам хутчэй на бацькаўшчыну, а для гэтага трэба зьявіцца ў горад да паліцыі. Некалькі вёрст, якія адзялялі няс ад Іноўрацлава, тлумачылі мы нашым гасьцінным гаспадаром, нам прайсьці будзе ня лёгка, бо ва ўсіх нас адмарожаны былі ногі.

— Так, так, гэта праўда,—згаджаліся з намі браты.

Янак, парадзіўся са Стасікам, запрапанаваў нас адвесьці ў Іноўрацлаў на хурманцы.

Гэта ставіла нас у цяжкае становішча. Пад якой юшкай мы маглі адмовіцца ад паслугі палякаў,—мы ня ведалі. На наша шчасьце, старая полька, відаць, пашкадавала сваіх сыноў болей за нас. Яна знайшла, што яе дзеці стаміліся і трэба ім адпачыць, а падарожжа ў горад на хурманцы пазбавіла-б іх магчымасьці скарыстаць ноч для сну.

Янак і Стасік былі маладымі сялянскімі хлапцамі, якіх не пасьпела ўзяць яшчэ ў работу цяжкая лапа польскай ваеншчыны.

Браты былі дабротныя, даверлівыя і гэта нас вывезла з бяды.

Мы вышлі, урэшце, з гасьціннага мяшканьня. Застаўшыся на дарозе, паглядзелі адзін на аднаго і засьмяяліся.

Сьмех гэты быў добры, радасны...

— А як добра вышла,—сказаў Ісачонак: малайчына ты, Пецька!

— Ды, ты проста золата!—сьмяючыся сказаў Пятроўскі.—Ты гутарыў з імі, як сапраўдны паляк.

— Але, але ўсё гэта добра, а вось як мы пройдзем гэтыя 12 кілёмэтраў, каб трапіць у Германію. Добрае засталося пазадзе, а вось зараз трэба абмеркаваць, як мінуць гэты горад. Там-жа ёсьць і паліцыя і польскія салдаты,—іх нам падмануць, як гэтых дабротных палякаў сялян, ня ўдасца.

— І то праўда,—сказаў Пятроўскі, выслухаўшы маю прамову.

Трэба было абмеркаваць становішча і выпрацаваць цэлы шэраг захадаў на той выпадак, калі мы трапім у пастку.

Цемра гусьцела ўсё болей.

Пасьля нядоўгай нарады мы рашылі пайсьці, забіраючы ў права ад гораду з тым, каб абмінуць яго, потым павярнуць улева, дзе маячыў лес.

— Калі пападзем у лес, дык нам лёгка будзе пераходзіць лесам мяжу,—сказаў Барысюк.

На чыстым месцы пераходзіць мяжу небясьпечна. Гэта было ўсім нам добра вядома,—нас маглі перастраляць як курапатак.

Рушыліся ў абход гораду. Гэта быў апошні і самы небясьпечны вучастак нашага шляху ў другім уцёку. Мы асабліва хваляваліся і баяліся за канец нашага абходу Іноўрацлава, баючыся сустрэчы з салдатамі.

У дадатак мы ведалі, што Іноўрацлаў быў для палякаў нечым накшталт ваеннай базы, дзе адбывалася фармаваньне часьцей, не гаворачы ўжо пра тое, што ў паўзьмежным горадзе варта павінна быць пастаўлена на належную вышыню.

— Хлопцы,—сказаў Барысюк: не забывайцеся, што вакол гораду і ў самым лесе мы можам наткнуцца на патруль з польскіх салдат, якім, напэўна, загадана затрымліваць усіх падазроных людзей.

Мы не маглі не засьмяяцца, пачуўшы гэту заўвагу Барысюка. Мы чацьвера настолькі былі падобны да пячорных людзей, што любы чалавек па дарозе, не гаворачы ўжо пра польскіх салдат, стыкнуўшыся з нам, павінен быў ад нас кінуцца як мага ў другі процілежны бок, падняць трывогу і арганізаваць пагоню.

Нас апанавала нецярплівасьць. Гэта-ж усяго толькі 12 вёрст трэба было яшчэ прайсьці, каб апынуцца ў Германіі, адкуль нам адкрываўся просты шлях у Савецкую краіну. Няўжо на гэтым апошнім вучастку нас чакае правал.

Гэтыя 12 вёрст хацелася перабегчы хутчэй, але асьцярожнасьць вымагала ад нас на гэты раз павольнасьць тэмпу нашага руху.

Іначай мы-б выдалі сябе з галавой.

* * *

І мы сапраўды выдалі сябе з галавой.

На другой вярсьце ад гораду,—змучаныя, хворыя,—мы трапілі ў лапы комэнданцкіх чыноў Іноўрацлава.

Зноў мы далі сваё тлумачэньне, зноў вэрсыя пра наш уцёк з нямецкага палону ў Польшчы.

І дзіва: нам вераць... нас слухаюць... нам спачуваюць .. Нашай просьбе аб адпраўцы ў шпіталь на лячэньне „даюць ход“.

Допыт у комэндатуры, ноч у турме, а на раніцу нас, пакарміўшы паперадзе, накіроўваюць у Іноврацлаўскі шпіталь.

Пачынаецца новы этап у нашым жыцьці...

— Чым яшчэ ён нас падарыць?—гадаем мы.

Ці далёка да волі?

## У ІНОВРАЦЛАЎСКІМ ШПІТАЛІ

Уласна гэта было ня жыцьцё, а маліна.

Нас адразу-ж сустрэлі вельмі добра, прыветна і даверліва. Мы-ж мелі досыць змардаваны выгляд, а яшчэ незагасныя пасьля забойстваў у Стралковым лягеры раны на целе ад драцяных бізуноў,—даволі ярка сьцьвярджалі нашы без канца гавораныя апавяданьні пра мучэньні і зьдзекі над намі немцаў.

Калі мы заставаліся адны, мы адчувалі сябе, як акторы пасьля спэктаклю. Ды і як магло было быць іначай, калі з невялікім запасам слоў мне даводзілася ўвесь час маляўніча апісваць нашу пакуту ў нямецкім палоне.

Усё-ж трэба прызнацца, што я аказаўся ня дрэнным лінгвістам. Мая мова магла выклікаць падазронасьць толькі ў тым выпадку, калі мы наогул былі ўзяты пад падазрэньне.

Ня дрэнная была справа з Барысюком, горш з Ісачонкам, і зусім дрэнна з Пятроўскім.

Апошні, праз некалькі дзён пасьля нашага прыбыцьця ў лягер, захандрэў і яго пануры выгляд выклікаў распытваньні з боку сясьцёр і ўрача. Барысюк з гэтае прычыны склаў чульлівую гісторыю пра жонку, якая, недачакаўшыся Пятроўскага, кінулася ў раку, пра дзяцей, каторыя напэўна памерлі, застаўшыся круглымі сіротамі і г. д. Пасьля гэтага апавяданьня сёстры пачалі спачуваюча паглядаць на хлопца з такім мужным тварам і з такім трагічным лёсам.

Але не адно няведаньне мовы пагражала нашай справе.

Небясьпечны мог быць і момант нашага выздараўленьня, бо ўсьлед за гэтым нас зноў маглі перадаць у распараджэньне турэмнага начальства для адпраўкі ў Варшаву.

Гэтыя моманты засмучалі наша жыцьцё ў шпіталі.

На шчасьце, сустрэча з хворымі ня была для нас настолькі цяжкай, як гэта мы меркавалі ў час прыходу. Шпіталь быў незапоўненым.

Афіцэраў у шпіталі ня было. У асноўным хворыя складаліся з сялян, якія, калі ня былі захоплены картамі, што апаноўвалі іх у палаце, дык былі заняты цалкам сабой і лістамі з дому.

Зусім інакшую позыцыю займалі сёстры і іншы пэрсонал шпіталю.

Падкія на плёткі і выдумкі, як і ўсе абывацелі маленькага гарадка, яны ў гутарках з намі набіраліся матэрыялу, які рабіўся потым прадметам абгаварэньня за сьценамі шпіталю.

Усе мы жылі пад дамоклавым мячом, ведалі, што граем небясьпечную комэдыю, якая пагражае перайсьці ў трагэдыю, але інакшага выхаду ня было.

Задача складалася ў тым, каб пратрымацца ў шпіталі да тэй пары, пакуль ня трапіцца выпадак уцячы.

Таму мы пачалі прымаць усе захады да таго, каб у шпіталі пра нас стварылася ўражаньне, як пра цяжка хворых.

Урачы да нас ставіліся досыць уважліва.

Іх было два. Галоўны ўрач, стары п'яніца, ад якога заўсёды тхнула сьпіртам. Ён, уласна, да лячэньня хворых меў дужа малое дачыненьне, а загадваў адміністрацыйнай часткай шпіталю. З прычыны таго, што хворых было ня шмат і адміністрацыйныя функцыі пры невялікай гаспадарцы шпіталю з посьпехам выконваў запас, дык стары доктар раніцамі слаба правяраў хворых.

У нас ня было ніякіх падстаў скардзіцца на ўрачоў, бо яны выконвалі ўсё дакладна, пунктуальна, па часу. Калі яны былі дрэннымі ўрачамі, то ў нашы пляны не ўваходзіла хутчэй выздараўлівацъ.

Ішлі зімовыя месяцы, недзе за вокнамі было холадна, шум, але ішло нейкае вялікае жыцьцё, а мы ў цяпле, накормленыя, у абсолютным спакоі праводзілі свае дні.

Надышоў дзень, калі трэба было адправіцца да сэржанта Міхальскага і прасіць яго пакінуць нас пры шпіталю на якой-небудзь рабоце.

Прадпрыемства гэта было досыць хісткае, бо мы, знаходзячыся ў шпіталі, пры кожным зручным выпадку казалі аб нашым палкім імкненьні вярнуцца на бацькаўшчыну.

І раптам такая нечаканая просьба да Міхальскага.

Мы меркавалі, што ён будзе дзівіцца, западозрыць шчырасьць нашых паводзін, а, значыцца, і праўдзівасьць нашых апавяданьняў пра Ляндсдорф.

Міхальскі быў ня дрэнным чалавекам. У гарачцы чарговай праверкі інвэнтару ён ня меў часу раздумваць над нясуразнасьцю нашай прапановы і адразу згадзіўся пакінуць нас на працы.

Адносіны начальства ў шпіталі былі і на далей дабротнымі і даверлівымі. Ня гледзячы на тое, што нам прызначылі пэнсію ўсяго 5 марак у месяц, сума, якая зусім не дазваляла раскідвацца ў выдатках, мы ня ўпадалі ў роспач, хоць у дадатак трэба было ўлічыць і тую акалічнасьць што нам трэба было ў найкарацейшы тэрмін сабраць такія-сякія сродкі, каб атрымаць магчымасьць прыдбаць адзежу і харчы, неабходныя для трэцяга цьвёрда намечанага на бліжэйшы час уцёку.

Само сабой зразумела, што дзень уцёку павінен быў адкласьціся да поўнага выздараўленьня нашых таварышоў.

Тым часам я пачаў свае абавязкі ў якасьці памочніка садоўніка ў вялікім садзе, што межаваўся за шпітальнымі корпусамі.

Міхальскі даў нам яшчэ адну істотную палёгку,—ён дазволіў нам харчавацца з больнічнага катла, не бяручы з нас за гэта ніякай платы. Такім чынам, нашы пяць марак заставаліся ў нас цялкам некранутымі ў кішэні. Інагды мы сьмялелі і выпраўляліся ў горад, дзе заходзілі, праўда, з некаторай боязьню ў кафэ.

Мы вельмі баяліся ў горадзе сустракацца з комэндантам і калі ўсё-ж пускаліся ў рызыкоўнае падарожжа, дык з затоенай мэтай знайсьці якім-небудзь шчасьлівым выпадкам аднадумца, які дапамог-бы нам наладзіць сувязь з польскімі таварышамі.

На жаль, гэта было лёгкадумным лятункам.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ў гарадку ўсе адзін аднаго ведалі і зьяўленьне лішні раз рослай постаці Пятроўскага магло выклікаць занадтую цікавасьць гуляшчых абывataляў Іноўрацлава.

У выніку гэтага мы былі такімі-ж адзінокімі, як і ў Стралкоўскім лягеры.

Пятроўскі, вяртаючыся вечарамі, пасьля працы раскавваў мне аб сваіх уражаньнях за дзень.

Дзень быў падобны на другі ў Іноўрацлаве, як дзьве кроплі вады. Людзі жылі тым, што акуратна спалі, елі, служылі.

Мы набылі выгляд упоўні прыстойных людзей з надворнага догляду і ня выклікалі больш падазрэньня з боку. Канешне, усе гэтыя акалічнасьці аблягчалі нам выкананьне задуманага намі пляну ўцяканьня. Мы разьлічылі, што ў нас сабралася досыць грошай для таго, каб набыць за іх компас і мапы, ды яшчэ пакінуць што-колечы ў запас.

Трэба было дакладна прызначыць тэрмін уцёку. І тут, на вялікае наша зьдзіўленьне, Барысюк непакойліва заявіў:

— А я, хлопцы, з вамі не пайду. Хто там ведае, як у вас справа скончыцца—пападзіцёся. Вось тут-жа, у Іноўрацлаве, вас і расстраляюць, ды яшчэ паперадзе пазьдзекваюцца і памучаць затое, што вы столькі народу за нас павадзілі. Вы сабе ідзеце мірна, а мяне пакіньце. Я тут да канца ў палоне і дасяджу,—канец вайны, напэўна, не загарамі. Толькі, калі пападзіцёся, мяне ня ўблытвайце, а я як-небудзь вывернуся. Ня будзе ад вас доўга вестак, скажу, што вы паехалі ў Варшаву, а не разьвіталіся таму, што баяліся затрымкі, і мне, скажу, не гаварылі пра свой плян, бо баяліся, што выкажу. Гэтым і вас падтрымаю і з сябе падазрэньне здыму.

Трэба сказаць, што ў Іноўрацлаве чуткі пра блізкае сканчэньне вайны з Савецкай Расіяю ўжо насіліся. Мы мелі магчымасьць чытаць толькі газэты і з прачытанага даведваліся, што „Савецкай Расіі будзе хутка канец, польскае войска дойдзе да Масквы, нізрыне савецкую ўладу“ і г. д.

Акрамя таго, у газэтах зьмяшчаліся пераможныя паведамленьні з польскіх фронтаў. Там-жа лічбы захопленых у палон рускіх чырвонаармейцаў. Ужо апошняга было даволі, каб мы адмысловым чынам ацанілі праўдзівасьць усіх паведамленьняў, якія друкаваліся ў польскай прэсе.

За гэтым мы нічога ня ведалі пра сапраўднае становішча рэчаў на фронце.

— Канец вайны не за гарамі, гаворыш ты,—сказаў зьдзіўлена Пятроўскі Барысюку: ды адкуль ты гэта ведаеш?

— Гэта яму прыбіральніца з нашага бараку сказала,—сьмяючыся растлумачыў Ісачонак.—Пакуль мы тут на працы былі, а я чытаў і займаўся, Барысюк пасьпеў раман завесьці. Кожны вечар з прыбіральніцай шушукаўся, начамі ня спаў. Я засынаў пад пацалункі, якія мне дадзелі горш горкай рэдзькі.

— Што, узбурала гэта цябе?—сьмяючыся запытаў я Ісачонка.

— Ды не, проста закаханыя чэрці спаць перашкаджалі.

Справа была ясная, але Барысюк стаў сарамяжліва апраўдвацца. Яму відаць, было ніякава адмаўляцца ад нашай кампаніі.

— Таварышы, ня гэтак яно ўсё. Адзінока мне там было, нудна, а палячка прыемная такая, добрая, мілая, павялічаную порцыю мне прыносіла, па галаве гладзіла, шкадавала,

— Шкадавала,—перакрывіў яго Пятроўскі.—Ну цябе к чорту. На бабу нас зьмяніў, нягоднік,—раззлаваўся ён раптам і стаў грозна наступаць са сьціснутымі кулакамі на Барысюка.

Ісачонка стаў паміж імі.

— Што з ім зробіш,—спрабаваў я прымірыць таварышоў з няўхільным фактам уходу ад нас: яму відней.

— Ды ці сапраўды закаханы ты?—запытаўся я зноў у Барысюка,— застанешся тут і як-небудзь правалішся, горш-жа тады будзе.

— Ды не, таварышы,—панура прамармытаў Барысюк,—жаніцца яна мне прапаноўвае, угаварвае застацца.

Нашы ўгаворы ні да чога не прывялі,—Барысюк знайшоў сваё шчасьце.

Сапраўды, чаму ён, чалавек, які шмат зазнаў гора ў палоне, даўно забыўся на сваё паходжаньне, не пакінуў ні пачатай працы, ні таварышоў, ня ведаў уздыму рэволюцыйных дзён, абвашывеў за бясконцыя гады нямецкага і польскага палону,—мог жадаць для сябе лепшага жыцьця, чым у Іноўрацлаве.

Ад кампаніі Барысюка трэба было адмовіцца, мы яго як таварыша гублялі і сталі будаваць нашы пляны ўтрох. Заставалася выбраць толькі зручны момант, мапы, компас, нажы і грошы мы нарыхтавалі, чакалі толькі зручнага моманту.

Нам хутка пашчасьціла.

Іноўрацлаўскі шпіталь сьвяткаваў 25-годзьдзе свайго існаваньня. Намечана была ўрачыстасьць—для ўсіх служачых, быў організаваны пікнік за горадам. Міхальскі запрапанаваў нам застацца ў шпіталі, узяўшы на сябе клопаты пра хворых.

Акрамя нас, у бараку, які застаўся пад нашым наглядам, знаходзілася старая—міласэрная сястра Зося і стары фэльчар, якія павінны

былі адказваць за мэдычнае абслугоўваньне хворых. А 8-й гадзіне, пасьля абходу хворых, наш мэдпэрсонал залёг спаць.

Я, Пятроўскі, Ісачонак, на кароткай нарадзе, якую зрабілі тут-жа ў бараку, парашылі, што жаданы момант надышоў. Трэба было зараз-жа ўцякаць. Сабралі свае ўсе рэчы і прырыхтаваліся адыходзіць.

Заставалася толькі падмануць Барысюка, бо боязьнь затое, што ён нас, урэшце, выкажа, нас не пакідала.

Мы выждалі час, калі ён пайшоў к даме яго сэрца.

Каля 9-й гадзіны, скончыўшы ўсе рыхтаваньні, мы вышлі з шпіталю, у якім правялі нямала дзён.

На гэты раз дарогу мяжы паказваў компас.

Ён-то падмануць ужо ня мог. Пачалася пара нашага трэцяга ўцёку.

## ТРЭЦІ ЎЦЁК

Быў цёплы вечар. На вуліцах Іноўрацлава мы бачылі шмат гуляючых, але гэта нас не турбавала, бо мы былі апрануты даволі прыстойна, у вайсковых мундзірах і польскіх рагатыўках. Знадворным выглядам мы нічым не адрозьніваліся ад звычайных салдат, якія знаходзіліся ў горадзе. Ішлі даволі ўпэўнена.

Па дарозе сьмела зайшлі ў рэстаран, выпілі для адвагі пару чарак гарэлкі і крануліся далей.

Першую ноч мы рашылі ісьці проста па шашы, не зьмяняючы свайго вонкавага аблічча, а ў наступную—зьняць з сябе вайсковае адзеньне, надзець цывільныя гарнітуры, якія мы захапілі з сабой, выходзячы з шпіталю, і рушыць ужо не дарогаю, а на цянькі, орыентуючыся па компасе. Дарэчы, трэба сказаць, што мы ў апошнія дні нашага жыцьця ў шпіталі з польскіх газэт даведаліся, што немцы адступілі ад Іноўрацлава яшчэ за 60 кілёмэтраў. Значыцца, наш шлях да Германіі вызначыўся ў 70—75 кілёмэтраў.

У працягу першай ночы нашай хады, ніякіх асаблівых здарэньняў не адбылося, ніхто не перашкаджаў нашаму нормальнаму руху.

Але хутка мы сустрэліся па дарозе з больш-менш сур'ёзнымі перашкодамі. Толькі наша вытрыманасьць дапамагла нам шпарка ліквідаваць цяжкасьці, якія вырасьлі на вашым краявідзе.

У трэцюю ноч нашага падарожжа мы падышлі да ракі, праз якую ня было мосту. У пошуках пераправы рашылі пайсьці проста берагам. Праз некалькі хвілін наткнуліся на невялікае судно, да якога была прывязана лодка. Пятроўскі ўлез на судно, адвязаў лодку і хацеў ужо спускацца ў яе, як раптам на яго накінуўся, выскачыўшы нечакана з каюты чалавек. Але Пятроўскаму нічога ня варта было сходаць чалавека, які стаў яму на шляху да волі.

Сілы яго за час адпачынку ўзрасьлі шмат. Ён лёгка, як пёрка, падняў чалавека за грудзі і кінуў яго ў ваду. Сам скочыў у лодку, усьлед за ім ускочылі туды і мы. Сталі адплываць.

— Трэба яму дапамагчы,—рашылі мы ўсе,—ні за што-ж чалавек загіне.

Пад'ехалі да яго, ухапілі за руку і далікатна запрапанавалі ня крычаць, у інакшым выпадку...

Ён добра разумеў, што будзе „ў інакшым выпадку" і замоўк.

Падтрымліваючы яго за рукі, пакінуўшы для пэўнасьці ў вадзе, мы пад'ехалі да другога берагу ракі.

— Садзіся, брат, у лодку і вяртайся назад на судно, але язык трымай за зубамі.

— Іначай усе выб'ю!—грозна сказаў Пятроўскі і паднёс да твару паляка свой важкі і даволі выразны кулак.

Паляк нешта прамармытаў у адказ і пачаў садзіцца ў лодку, а мы ў патрэбным кірунку, нават не аглядваючыся назад.

Паляк, як відаць, быў настолькі напалоханы, што не адважыўся падняць трывогу. У дадатак, усё кругом было спакойна, нікога ня было відаць, мы не баяліся пагоні.

Гэта трэцяя ноч, якая спачатку адзначылася эпізодам, прайшла далей добра. Золакам мы знайшлі сьцірту і ўладзіліся ў ёй, каб паспаць.

Сьцямнела. Рушылі зноў. Пад поўнач зноў наблізіліся да ракі—непадалёку быў відзен мост. Пайшлі бяз хістаньняў у кірунку да мосту разьлічваючы, што ён нікім не ахоўваецца.

Аднак, калі падышлі бліжэй, заўважылі на мосьце салдата. Для нас гэта было радасьцю, значыць ужо блізка доўгачаканая мяжа.

Спыніліся і рашылі абмеркаваць створанае становішча. Нарэшце, спыніліся на наступным. Я пакладу ў мяшок, які мы прадугледжана захапілі з сабой, камень, і спакойна пайду ў кірунку да мосту. Сьледам за мной на некаторай адлегласьці будуць трымацца Пятроўскі і Ісачонак. Калі паляк мяне спыніць, зьвярнуўся да яго з запытаньнем на польскай мове, якая вёска знаходзіцца блізка ад мосту і растлумачу яму, што заблудзіўся ў дарозе і шукаю правільнага кірунку. Пакуль я буду ўдаваць з сябе дурня і займаць паляка гутаркаю, з другога боку падпаўзуць да яго Пятроўскі і Ісачонак, паваляць салдата, зьвяжуць, заткнуць рот, каб крыкам ня выклікаў да сябе ўвагі сваіх таварышоў і пяройдзем пасьля гэтага шчасьліва мост.

Вышла зусім ня так. Паклаўшы, як было ўмоўлена, камень у мех, наблізіўся да паляка. Ён мяне рашуча спыніў, адмовіўшыся ад усялякіх гутарак са мной, запрапанаваў пакласьці мех на зямлю, а сам насунуўся на мяне, кабператрэсьці. Як толькі ён узьняў руку, каб абмацаваць мае кішэні, я з усяе сілы ўдарыў яго кулаком па галаве. Паляк паваліўся.

Тым часам да аглушанага, яшчэ не ачуняўшага, паляка падбеглі мае таварышы, якія хутка зьвязалі салдату ногі цьвёрдым скураным рэмя-

нем. Потым зьвязалі яго рукі тонкай вяроўкай, а ў рот загналі яму пальчатку.

Зроблена гэта было даволі добра, мы маглі спакойна рухацца далей, будучы абсолютна ўпэўненымі ў тым, што паляк ня здолее крыкнуць і ня так хутка апрастаецца ад путаў. Шпарка кінуліся бегма па мосьце, зусім выпусьціўшы з віду, што і на другім баку мосту павінна абавязкова стаяць варта.

Не дабегшы некалькі крокаў да канца мосту мы ўбачылі салдата, які стаяў каля будкі. Небарака, відаць, на наша шчасьце задрамаў. Ледзь, ледзь задумаліся, рашыўшы спачатку прабегчы міма яго, разьлічваючы, што ён нас не заўважыць. Шкода было рабіць яму зло... Ну, але раптам усхопіцца і пачне страляць па нас?

Ціхенька падкраліся да паляка і ўдарылі яго з усіх сіл па галаве мехам. Камень у мяху зрабіў сваю справу. Паляк упаў пад мост, а мы прабеглі яшчэ колькі крокаў і схаваліся ў лесе, які быў прыроднаю загародай на мяжы з Германіяй.

Мы ня ведалі, ці забіты паляк, ці ранены.

Па-першае, гэта быў наш першы злы ўчынак за ўсе тры ўцёкі. Было трохі не па сабе, але што заставалася нам яшчэ рабіць?

На вайне, як на вайне...

Паляк быў нашым ворагам... У дадатак ён загараджаў нам шлях да волі, у Савецкую Расію, а як за першую, гэтак і за другую мы гатовы былі аддаць наша жыцьцё, так што раздумваць не даводзілася.

У ноч з 16 на 17 чэрвеня—дата гэта запомнілася на ўсё жыцьцё—мы пачулі недалёка ад нас шум паравоза, а праз некалькі хвілін пасьля гэтага мы падышлі да палатна чыгункі. Спыніліся, глянулі на нашу карту. Па ўсім дадзеным, якія меліся ў нас, чыгунка праходзіла ўжо па тэрыторыі Германіі.

Няўжо канец, няўжо сапраўды дабраліся да Германіі, скончыўшы з эпопеяю польскага палону?

Рашыўшы выясьніць наша становішча, я пайшоў уперад на выведку, пакінуўшы таварышоў на беразе ракі. Узьняўся на горку і ўбачыў перад сабой нейкі горад. Паклікаў Пятроўскага і Ісачонка і ўсе разам рушылі па добра ўтрамбаванай шашы, кірункам на горад. Праз гадзіну нам насустрач трапілася нейкая жанчына. Спынілі яе і на палову па-нямецку, напалову па-польску сталі з ёй гутарыць. Вышла, што мы падходзім да нямецкага гораду Шнайдэмюлю. Болей яе ніхто ўжо ня слухаў—мы дасягнулі мэты.

Мы ў Германіі.

— Нават не заўважылі, як прайшлі мяжу,—ускрыкнулі мы ўсе адначасна.

Пазадзе застаўся польскі палон, яго жахі, зьверствы Маліноўскага і Вагнера, гасьцінны Іноўрацлаў, укаханы Барысюк.

НЯМЕЦКАЯ ТУРМА

Бадзёра і ўпэўнена рухаемся мы па гладка ўтрамбованай шашы ўперад у напрамку да нямецкага гораду Шнайдэмюлю.

І гэтыя ўрачыстыя хвіліны шэсьця на нямецкай тэрыторыі, мы адчуваем сябе вялікімі заваёўнікамі, якія вынайшлі невядомую зямлю. Мы цьвёрда намацвалі глебу пад нагамі, трывога зьнікла.

Усяго толькі некалькі дзён да Савецкай краіны... Жаданая воля... Мы толькі палонныя чырвонаармейцы, якіх рэволюцыя запаліла энтузіязмам і прагнасьцю змаганьня, але зараз у гэтыя незабытныя гадзіны мы здольны стварыць натхнёную поэму, кожны радок якой будзе гімнам вольнаму чалавеку.

Хлопчык з сівой галавой—Ісачэнка забягае наперад. Ён ня можа захаваць спакойны крок гаспадара зямлі, які цьвёрда топча яе нагамі... Ён то сыходзіць з шашы і глядзіць на шахматную гладзь палёў, то сьлізгае па паліраванай шашы, то ідзе задам да гораду, уголас марыць пра тое, што ў новай дэмократычнай Германіі, якая перамагла Вільгэльма, мы будзем не пачоскамі чалавецтва, а грамадзянамі...

— У лахманох,—гіранічна дадае Пятроўскі. Урачыстасьць парушана, мы зьдзіўлена глядзім на таварыша.

У Эўропе ня любяць людзей у салдацкай форме, ня ў строю. Буржуазная Эўропа любіць, калі яны ў казарме і пад наглядам. Дэмократыя выявіла сябе ўжо на 14-м годзе і нямецкія соцыялісты тады маліліся за дараваньне перамогі Вільгэльму. У Ісачонка старыя сьляды ад пабояў у лягерах,—буржуазія ня любіць гэткіх візытных картак. Не з радасьці, а з жаданьня хутчэй збыць нас дэмократычная Германія магчыма перакіне нас у Савецкую Расію.

— Мы ўцяклі з палону, але мы яшчэ ня дома.

— Памятайце, што ў Германіі комуністы лічацца ня меншым злом, як польскі легіонэр.

Мы адчуваем жорсткую праўду ў словах Пятроўскага. І ўсё-ж нам здаецца, што даволі падняць толькі невялікую заслону над тым, што хавалася ў Стралкоўскім лягеры, каб вялікае спачуваньне было забясьпечана.

Мы ў горадзе. Накіроўваемся проста ў паліцыю, памятаючы толькі аб тым, што трэба прасіць не затрымліваць нас па магчымасьці пустымі формальнасьцямі, а хутчэй накіраваць у Бэрлін у распараджэньне нашага консульства.

Гэтыя два словы—наша консульства мы смакавалі з нейкай асаблівай асалодаю. Цяпер-жа да яго было, што называецца—рукой падаць з Шнайдэмюлю. Якая радасьць чакала нас у консульстве, дзе мы адчувалі-б сябе, нарэшце, сярод савецкіх людзей, якія здолелі-б ацаніць перанесеную намі пакуту і расказалі-б нам, што робіцца ў нашай далёкай краіне.

Апошняя думка падганяла нас з усіх сіл і мы амаль беглі, не зьвяртаючы увагі на тое, што на нас зьдзіўлена паглядалі немцы,—імкнуліся хутчэй дабрацца да паліцыі, бо мы-ж менш ад усяго здагадваліся аб тым, што нас там чакае.

У бліжэйшым рэстаранчыку зусім вольна разьмясьціліся за сталом, заказалі, як вольныя грамадзяне, кавы, закуску, добра паелі. Пасьля гэтага зайшлі ў цырульню, з асалодаю выпрасталіся ў крэслах. Шчодра пакінулі там астачу нашых грошай на стале і пасьля ўсіх гэтых папярэдніх процэдур падышлі да будынку паўзьмежнай паліцыі. Увайшлі ў канцылярыю і даведваліся, як прайсьці ў габінэт начальніка паліцыі.

Ці маглі мы сабе ўявіць, што дзьверы, якія зачыніліся за намі, калі ўвайшлі мы да дзяжурнага, ужо адчыняцца перад намі зноў, як будзем ісьці ў турму пад канвоем?

— Навошта вам абавязкова патрэбен начальнік паліцыі? Можа быць вы згодзіцеся сказаць мне аб вашай справе?

Гутарка ішла на польскай мове.

Уперад выступіў я і заявіў:

— Нам ад вас нічога не патрэбна, мы хацелі-б толькі прасіць вас хутчэй адправіць нас на бацькаўшчыну.

— Ды хто-ж вы такія? І як сюды зьявіліся?

— А мы... Я замяшаўся, быццам нешта падсказвала мне, што ня трэба пускацца ў шчырыя тлумачэньні, але нейкая сіла імчала мяне наперад...

— Комуністы мы (я выконваю плян: не зацямняць справы, тады нас хутчэй адправяць дадому),—уцяклі з польскага палону. Прайшлі пехатою сотні вёрст, ледзь да вас трапілі.

Мы ўсе ўтрох насторожана чакаем. Неяк дзіўна на нас угледзеўся, доўга моўчкі нас разглядаў. Потым нечакана для нас гучна сьмяецца.

Што-б гэта магло значыць? Што сьмешнага ў нашых тлумачэньнях?

Узяўшы трубку, дзяжурны звоніць кудысьці па тэлефоне, з некім добра гутарыць па-нямецку. Нажаль, з намі няма Барысюка. Напэўна, пераклаў-бы нам „вясёлыя“ размовы дзяжурнага і тады наш настрой адразу-ж зьнізіўся-б на шмат градусаў. Дзяжурны скончыў гутарку па тэлефоне, зайшоўся вясёлым сьмехам, пазваніў, запрасіў перакладчыка і пачаў пісаць пратакол. Усьмешка ня сыходзіла з яго твару. Пакуль ён займаўся „літаратурай“, мы стаялі каля яго стала і раздумвалі. Ну і дурні-ж мы, чаго было пужацца, гэта-ж ў парадку рэчаў, што нас дапытваюць. Як-жа магло быць іначай...

Раптам зьявіліся тры чалавекі да паўзьмежнай паліцыі і заявілі пра свой уцёк з польскага палону. Мог-жа падумаць дзяжурны, што гэта толькі хітрая выкрутка з нашага боку. А, можа быць, мы зьяўляемся агентамі польскай контрвыведкі?

Пачаўся допыт—трэба прызнавацца, ён быў даволі падрабязны.

Таму мы сталі адказваць з некаторым абурэньнем. Нам здавалася нешта дужа цяжкім зноў гутарыць з чынамі паліцыі на тэму пра тое, з якіх мы месц, колькі нам год і г. д. Усё запісалі адпаведна нашым паказаньням, а паведамілі мы праўду. Пасьля гэтага трэба было чакаць далікатны ўклон у наш бок, загаду па канцылярыі прырыхтаваць нам дакуманты і... едзьце ўцекачы ў Савецкую Расію. Аднак, заместа гэтага дзяжурны пазваніў і ў пакой увайшлі два нямецкіх салдаты і запрасілі нас ісьці за сабой на двор.

— Ня бойся, Германія дэмакратычная краіна... Немцы нам нічога дрэннага ня зробяць,—сказаў Ісачонак, калі Пятроўскі першы выказаў сумненьне з поваду дзіўных манэр немцаў у адносінах да нас.

Рашылі пачакаць і паглядзець, што будзе далей. Прайшлі некалькі дзесяткаў крокаў і апынуліся перад трохпавярховым доўгім будынкам.

Дом, да якога мы падышлі, з фасаду быў афарбованы ў белы колер, меў нейкі вельмі прыветны выгляд. Увайшлі ў сярэдзіну, прайшлі доўгім калідорам і павярнулі налева. Апынуліся ў вялікім чатырохкутовым пакоі, устаўленым мноствам сталоў, за якімі засядалі акуратныя немцы.

— Куды гэта мы прышлі?—спытаўся я чорт ведае на якой мове канваіраў.

Стала зусім ясна, што нас прывялі ў Шнайдэмюльскую турму.

Вось так братэрская сустрэча... Ілюзіям нечакана прышоў канец. Шпарка прайшлі праз канцылярыю камэнданта турмы, у якой з нас зьнялі зноў допыт і павялі па калідоры ў камеру. Камера, у якой нас разьмясьцілі, была разьлічана на 13 чалавек. Увайшлі, уселіся і застылі ў нярухомасьці. Лютая туга заціскала ў сваіх д'ябальскіх абнімках. Пайшлі суцэльнай чарадой думкі пра волю.

Пятроўскі спакойны. Вось крэмень.

Трэба браць з яго прыклад. Разьмяшчаемся. Знаёмімся з суседзямі. Распытваем пра жыцьцё ў Германіі. Быць можа ў гэтым знойдзем мы прычыну нашага арышту. Аднак, нашы таварышы па турме трымаюць сябе сьцеражліва. Іхная адчужанасьць зьнікае, калі мы называем сябе бальшавікамі. Практыка з дзяжурным паўзьмежнай паліцыі павінна была-б, здаецца, навучыць нас не сьпяшацца з прызнаньнямі, але дужа вялікае наша хваляваньне, каб захаваць патрэбную вытрыманасьць.

У камеры даволі чыста. У першы-ж дзень нам прынесьлі кавы, далі бульбянога супу, потым вечарам зноў прынесьлі кавы з ячменю. Пад канец вечара ўлягліся—ня сьпіцца.

Заўтра дзень будзе такім-жа роўным, як і ўчарашні, з такім-жа цьвёрдым разьмеркаваньнем... І так без канца, і невядома сколькі. І адсюль не ўцячы, гэта ня шпіталь у Іноўрацлаве.

Прасынаемся і гутарым з суседзямі. Яны цьвёрда пераконаны, што мы прышлі з разбойніцкай краіны—Савецкай Расіі, дзе даўным-даўно зьнішчана прыватная ўласнасьць, дзе ўсе дазволена, дзе можна кожнаму браць, што падабаецца з рэчаў суседа.

Нам таксама ня ўсё зразумела ў суседзяў. Усё-ж мы высьняем, што трапілі ў кампанію канакрадаў. Нам толькі здаецца дзіўная гэткая значная колькасьць іх у турме. Палякі былі ў вялікім антогонізьме з немцамі, але гэта не перашкаджала польскім канадрадам красьці коняй на сваёй тэрыторыі з тым, каб прыводзіць іх да мяжы і перакідваць на той бок кардону і прадаваць немцам.

Немцам цяжка было ўявіць сабе спалучэньне польскага патрыотызму з ухілам у бок нажывы з коняй, прызначаных для польскіх патрыотаў. Гэта не вязалася з імкненьнем палякаў, нездаволеных Вэрсальскім догаварам, пашырыць тэрыторыю Польшчы за рахунак нямецкай рэспублікі.

Мы дазволілі сабе растлумачыць канакрадам, што такога роду ўчынкі, якія яны дазваляюць сабе ў Польшчы, бязьлітасна караюцца ў Савецкай Расіі. Гэта быў вялікі промах з нашага боку, мы ў гэтым потым пераканаліся.

Строгі, выразны рэжым.

Раніцай каманда: „падняць ложкі“. З гэтага пачынаецца дзень.

У турэмніка бравая ваенная выпраўка. Зьвязак ключоў у руках, як маршальскі жэзл. Патыліца паголена і на ёй тры складкі. У ім няма нянавісьці ні да нас, ні да канакрадаў. Ён толькі спраўны службовец. Ён вывучыў правілы Шнайдэмюльскай турмы.

У правілах сказана, што вартавы і зьняволены гутаркі не заводзяць. Немец не парушыць гэтага правіла.

Навошта-ж заводзіць сувязь з турэмнікамі—гэта ні да чаго не прывядзе.

Нам дрэнна. У Польшчы, ня гледзячы на ўсе катаваньні, мы ўсё-ж былі палоннымі, а тут мы вязьні.

Мы кідаемся па камеры, падганяемыя аднэй думкаю: як даць ведаць аб сабе Савецкаму прадстаўніцтву ў Бэрліне?

З гэтага моманту канакрады страцілі цікавасьць да нас, калі даведаліся, што за крадзеж коняй бальшавікі ня гладзяць па галаве.

Іх шмат, і, карыстаючыся гэтым, яны бесцарамонна трымаюць сябе ў адносінах да нас. Ад нуды яны лезуць біцца і Пятроўскаму трэба вялікая вытрымка, каб не рэагаваць на провокацыйныя штукарствы з іх боку.

З поўдня яны выкідваюць такі нумар: адзін гаворыць што-небудзь агіднае пра Ісачонка (чамусьці ён ім не падабаецца), а астатнія дружна сьмяюцца пры гэтым і дадаюць свае варыянты ў лаянку.

Пятроўскі, як воўк, пачынае хадзіць сярод іх.

Дзень канчаецца. У намеры сузмрок. Канакрады становяцца на малітву.

Усюды адно і тое-ж: у Калішы, Стралкове, Іноўрацлаве і нават Шнайдэмюлі. Усюды моляцца богу таксама, як сотні год таму назад.

У салдацкіх зямлянках ня любяць бога. У брудзе і вошах не да яго. Рэволюцыяй канчаткова вытручана з нас усё ўспрынятае ў дзяцінстве пра бога. Постаці зладзеяў на падлозе камеры агідныя.

Каму і аб чым моляцца канакрады? Сузмрок пераходзіць у ноч, доўгую турэмную ноч.

Напэўна, просяць бога, каб ён ім дапамог выйсьці з турмы для таго, каб яны маглі зноў адводзіць коняй з Польшчы ў Германію.

Раніца. Зноў каманда падняць ложкі. Другі вартавы, але з тым-жа тварам і гэткай-жа выпраўкай. Як быццам іх адлівалі па аднэй модэлі. Нават голас гэткі-ж хрыплы і густы ад люлькі і піва.

Зноў дзень і канакрады, суп, туга, сузмрок, набожныя католікі на каленях перад богам і сон—цяжкі, немарасны.

Праходзіць тыдзень, другі. Пра нас забываліся. Сколькі гэта часу пройдзе.

Зноў няпрыемнасьць. Нас выклікалі ўсіх трох на допыт. Тым часам у камеру прынесьлі для ўсіх каву. Канакрады справіліся за адно і з нашай порцыяй, зьеўшы і хлеб, што даваўся да кавы. Калі мы вярнуліся з турэмнай канцэлярыі пасьля допыту і ўбачылі, што наша сьняданьне зьнікла, патрабавалі ад іх тлумачэньняў. Яны кінуліся на нас з кулакамі, на шум прыбег салдат, які падступіў з лаянкаю на Пятроўскага.

Пятроўскі ўвайшоў у злосьць і штурхануў немца з усяе сілы. Той паляцеў у бок, упаў на падлогу, ускочыў і даў сыгнал трывогі. У камеру прыбег дзяжурны па турме. Канешне, канакрады засьведчылі, што Пятроўскі першы накінуўся на немца, ня гледзячы на тое, што той быў з ім абсолютна далікатны. Канакрады патрабавалі, каб нас прыбралі, як хуліганаў, з камеры. Тут-жа прышоў загад—мяне і Пятроўскага рассадзіць па адзіночках.

Пасьля жахаў Стралкоўскага і Калішскага лягераў, пасьля доўгіх начэй блуканьня па дарогах, пасьля напружаных дзён у Іноўрацлаве,—апынуцца ў Германіі толькі для таго, каб зноў сесьці ў каменныя мяшкі-адзіночкі.

Я ў адзіночцы. Цэлы дзень змрок. Як недарэчна, што толькі турэмная сьцяна аддзяляе ад сапраўднага жыцьця.

Першы дзень у шалёным абурэньні хадзіў па адзіночцы, стукаў у жалезныя дзьверы, патрабаваў выклікаць дзяжурнага і свайго вызваленьня. Нічога не дапамагло.

Вельмі было мне цяжка тое, што мяне разлучылі з таварышамі. З імі лягчэй зносіць пакуту.

Дзесяць цяжкіх дзён. Усё жыцьцё пераржыў спачатку. Рашыў уначы ня спаць, адлежвацца на ложку з тым, каб удзень умудрацца спаць на крэсьле.

Так будзе лягчэй.

Ляжу на ложку і думаю пра тое, што робіцца ў Савецкай Расіі. Ведаю добра, што народ прышоў у рух. Што на чале стаіць чалавек, гені, які ў гэтым віхры руху мільёнаў выразна паказвае дарогу.

Вакол яго сышліся ўсе, хто ціха без патосу і гэстаў гадамі змагаўся за прыгнечаных, ня ведаючы асабістага жыцьця. За імі мільёны рэзэрваў нявольнікаў, якія рашылі перарабіць агіднае праклятае жыцьцё і для гэтай мэты аддалі ўсё. Яны ідуць шляхам, якога ня ведала яшчэ чалавецтва, праз гора, пакуту, голад да волі, да вольнай працы, да комунізму.

Нават падзелены адлегласьцю, кінуты ў каменны мяшок, я не падзельны ад іх. Трэба толькі помніць, што змаганьне ня спыняецца і што ўвесь сэнс жыцьця ў гэтым змаганьні.

... Я ляжу на ложку ў маленькім кубіку турмы і бачу, як рухаюцца масы па неабсяжнай роўнядзі маёй краіны, як да старых байцоў падходзяць новыя, і мне ня страшны ні турма, ні вартавы, ні адзіночка... Я засынаю...

Праходзіць дзесяць дзён. Нас пераводзяць у новую камеру. Мы крыху заспакойваемся і прывыкаем, рашыўшы, што, нарэшце, усё ўладзіцца. Павінны-ж што-небудзь зрабіць з намі.

А час, між тым, ішоў, пачаўся трэці месяц нашага зьняволеньня.

Мы як маглі падганялі нашу справу, закідвалі камісію заявамі з просьбай паскорыць рашэньне па нашым пытаньні. Урэшце, мы мусібыць нашай настойлівасьцю досыць дадзелі немцам. У выніку ледзь сабе не пашкодзілі. Для таго, каб раз назаўсёды ад нас збавіцца, камісія рашыла адправіць нас назад.

Меркавалася накіраваць нас у паўзьмежную польскую комэндатуру— горад Торн.

Вось тут нам, нарэшце, павязло,—на наша шчасьце аказаўся нямецкі афіцэр, які добра валодаў расійскаю моваю. Ён уважліва нас выслухаў, доўга пытаўся аб нашых прыгодах, пацікавіўся аб нашых годнасьцях у арміі, запытаўся, што мы будзем рабіць, калі нас вернуць у Савецкую Расію. Відаць нашы тлумачэньні яго задаволілі.

Ен загадаў нас адправіць зноў у турму. Гэта было, канешне, лепей, як ісьці ў Польшчу. У гэты момант мы нават падумалі пра нашу турэмную камеру з некаторай палёгкай. Праходзіць марудлівы тыдзень. Нам паведамляюць новую пастанову камісіі: нас адправіць у Бэрлін у распараджэньне нашага консульства. Мы трацім цярпеньне. Нават Пятроўскі нэрвуецца. Ісачонак зноў пачынае хваліць немцаў.

Нас злуе яго оптымізм.

Мы тлумачым Ісачонку, што пара сьвядома ставіцца да падзей, але непапраўны оптыміст гатоў абнімаць турэмніка.

Не разумее, што мы ў палоне ў клясавага ворага, і што афіцэр, які згадзіўся не адпраўляць нас назад у Польшчу, меў сваю мэту.

Заўсёды і ўсюды ўмець орыентавацца—хто вораг і хто сябра, бяз гэтага наша справа прагуляна. Ісачонку забілі яго клясавае чуцьцё ў царскіх казармах.

Хаўрус з Пятроўскім, гутаркі з ім, лягеры ў Польшчы—загартавалі.

Для мяне ня можа быць добрага з Назарэту. Усё, што на другім баку маёй клясы—варожае мне. Я прымаю ад афіцэра кайзэра яго паслугу, але мэты, якія ён мае, чужыя мне. Я ня буду змагацца за социял-дэмократычную Германію з Антантай, я буду змагацца за сваю клясу і раней ад усяго ў сваёй краіне.

Не за абражаную вялікадзяржаўную „Фатэрлянд". Я прышоў праз пакуты і мукі і за сваё лепшае будучае маёй клясы, якая падзяляе сьвет эксплёататараў і эксплёятуемых, а не на немцаў, французаў, палякаў.

Падыходзіць дзень, калі нас выводзяць з турмы. Прыводзяць на вогзал і ўсаджваюць у вагон з канвойным. Пасажыры, сьпяшаючыся, ачышчаюць лаўкі побач з намі.

Канвойны мае даручэньне перадаць у Бэрліне нашаму консульству адпаведную адносіну з Шнайдэмюльскай комэндатуры.

Гэты вартавы ўжо нас не палохае, бо ён павінен не ахоўваць нас, а хутчэй суправаджаць.

Гэткія адчуваньні ў першыя часы нашага падарожжа.

А потым пачынаюцца сумненьні: мы ўжо ня раз пападаліся з-за нашай незразумелай і сьмешнай даверлівасьці.

— Ці ня кінуць нам гэтага праважатага і як-небудзь далей бяз яго ў дарогу рушыць.

Сталі шукаць выпадку збавіцца ад няпрыемнага спадарожніка-канвойнага.

Прыблізна, у вярстох 13—15 ад Бэрліна наш цягнік спыніўся. Мы папрасілі ў канвойнага дазволіць выйсьці напіцца кавы на вогзале. Той згадзіўся. Лёгка атрымаўшы ільготу, якую прасілі, пакінуўшы канвоіра ў купэ, вышлі на вогзал, зьмяшаліся з натоўпам і адразу-ж пайшлі ў працілеглы ад Бэрліна бок.

Адышлі не сьпяшаючыся з паўвярсты, улегліся на траве, паляжалі, адпачылі і рашылі пехатою накіравацца ўжо бяз варты ў Бэрлін.

У самым горадзе падышлі да першага сустрэчнага шуцмана і пачалі яго распытваць пра тое, дзе знаходзіцца організацыя, якая загадвае справамі расійскіх ваеннапалонных. Нас накіравалі на Кірхенштрасэ. Бегла паімчаліся туды, але гэта накіраваньне аказалася памылковым. Адтуль нам далі чамусьці кірунак на Фрыдрыхштрасэ.

Трамваі, аўтобусы, тысячы аўтомобіляў, чыгунка, людзі ў цывільным, людзі ў вайсковым, патокі людзей.

Роўныя вуліцы, бліскучыя вітрыны, шуцманы.

Адзічэлыя мы насіліся па Бэрліне, ня цікавячыся нічым. Мы заняты аднэй думкаю—дайсьці да консульства.

Мы на Фрыдрыхштрасэ перад вялікім будынкам.

Швайцар на дрэннай нямецкай мове пытаецца адкуль мы прышлі.

Пятроўскі і Ісачонак замяліся. Ці варта адразу гаварыць праўду. Швайцар і вэстыбюль наводзілі нас на сумненьне. Мы ўжо нікому ня верылі. Не падобна было на тое, каб будынак і людзі, якія ў ім жывуць, мелі дачыненьне да Савецкай Расіі,—так падсказвала нам інтуіцыя. У час нашых перамоў са швайцарам па сходках спусьціўся нейкі чалавек. Прыслухаўся і зараз-жа пазнаў у нас рускіх. Відаць, адразу скеміў у чым справа, бо адвёў нас у бок, ціха запытаўся хто мы. Засьмяўся, пачуўшы нашы даверлівыя тлумачэньні, назваў дурнямі і растлумачыў, што мы трапілі ў гішпанскае консульства, якое ўзяло на сябе абарону інтарэсаў белагвардзейцаў.

Дакладна растлумачыў, што нам трэба зьвярнуцца ў савецкае консульства, якое знаходзіцца на вуліцы Унтэрдэнліндэр. Заспакоеныя рушылі туды. Там нас дужа ветла сустрэў невядомы малады чалавек. На наша пытаньне, дзе знаходзіцца прадстаўнік Савецкай Расіі т. Копп, параіў ісьці на другую вуліцу, даўшы дакладны адрас дому. Путаніцы ня бачылася канца. Пайшлі па новым адрасе. Там сустрэліся ў вэстыбюлі з бабкай, дужа ветлівай і прыемнай. Было ўжо каля 7 гадзін вечара, мы блукалі добрых некалькі гадзін. Мы апынуліся, нарэшце, у рускім бюро ваеннапалонных.

Бабулька запрапанавала нам зайсьці на заўтра раніцою. Здагадалася, што нам няма куды дзецца і для таго, каб мы ўначы не пакутвалі, дала запіску да сваіх знаёмых. Сустрэлі нас добра, накармілі, напаілі.

Нашы „гаспадары“ аказаліся аднадумцамі.

Відавочна, мы былі каля мэты.

На другі дзень нас у нашым савецкім консульстве спаткалі, як мы гэтага даўным-даўно хацелі і марылі. Мы ўпяршыню за доўгія 18 месяцаў пачулі сябе грамадзянамі, за сьпіной якіх магутная пролетарская дзяржава. Трэба было падрыхтаваць для нас дакуманты, а там праз колькі дзён „дадому“. Зноў пакуты чаканьня.

Горад бурліць. На вуліцах пануюць чужаземцы. Зрэдку мы сустракаем рабочых, якія вяртаюцца з фабрык. Панурыя, закапцелыя постаці, бледныя малакроўныя твары.

Браты, якія таксама ляжалі гадамі ў сьмярдзючых акопах для таго, каб забясьпечыць здабыткамі ўладароў бліскучых асабнякоў і амэрыканцаў, што натоўпам фляную́ць ад вітрыны да вітрыны.

Нашых братоў здрадзілі іх правадыры. Штых, які яны прынесьлі з акопаў, вырваў вораг пад маскай сяброўства.

— Навука—мацней трымаць вінтоўку, як вернемся дамоў.

— Дамоў, дамоў...

Нарэшце! Эшалён ваеннапалонных сфармаваны, мы ўсаджваемся ў вагоны. Нас шмат. Раней, чым трапіць у гэтыя жаданыя вагоны, мы ўсе прайшлі суровую школу.

Потым з цягніка пасадка на карабель, морам у Нарву. Усюды на палубе групы. Гутараць пра перажытае. Спакойна расказваюць пра мінулае, рэдка ў каго абвільгочваюцца вочы.

Зноў цягнік. На астаноўках прагна бегаем па вогзале, прыслухоўваемся, даганяем цягнік ужо на ходу.

Ня хочам думаць пра мінулае. Ловім газэтныя радкі.

Краіна ажывае. Энтузіязм мас пераключаецца з ваеннага на працоўны фронт.

Мы перакідваемся кароткімі фразамі з суседзямі і зноў прагна на маленькіх паўстанках ловім родную мову...

Пэрон у Ленінградзе. Чакаем пакуль спадзе хваля пасажыраў, якая хлынула з прыгараднага цягніка.

Халодная Ленінградзкая вуліца. Чарадою ідуць рабочыя на фабрыкі. Начальнікі выгружаюць багажны вагон. Людзі працуюць, не заўважаючы нас.

У нас таксама мазолістыя рукі, якія занудзіліся па працы.

Мы заваявалі сваё права на працу цаной вялікай пакуты.

За нашай сьпіной катаваньні ў лягерах „Вялікай Польшчы": катаржны рэжым турмы „Вольнай" Германіі.

Мы з жалем успамінаем таварышоў, якія засталіся ў Стралкове.

Мы не абяцаем помсьціць за іх—гэта зробяць там, на месцы рабочыя і сяляне будучай вольнай Польшчы, але ўсё-ж мы ня можам гаварыць без праклацьцяў пра гэты маленькі кавалачак зямлі, дзе нашы таварышы, напэўна, знайшлі свой апошні прытулак.

Народ адлынуў. Абняўшыся, мы ўтрох выходзім з вогзалу ў горад і паволі ідзем ціхімі, у гэты раньні час, вуліцамі.

Нам добра—мы дома.

## ТАДЫ ПАЧЫНАЮ З ПАЧУЦЬЦЯМІ СПРЭЧКІ...

**Пятрусь Броўка**

Калі забушуе
мятлюга і сьцюжа,
Дрыжаць ліхтары
і мігаюць, як сьвечкі,
І ветры плююцца
ахапкамі стружак;
Тады пачынаю
з пачуцьцямі спрэчкі.

Тады я бяру—
расьпінаю самоту,
Тады мне, што ветрам—
на вуліцы цесна,
тады я шукаю—
на вуліцы ноты.
Тады пачынаецца
песьня.

І можа вы скажэце
лішні мой гэст,
Часамі наіўны,
зусім не да месца.
Што зробіш?!
Калі тады грудзі—оркестр,
А сэрца нэрвовы,
гарачы хормэйстр.

Жаданьні тады—
скалануць і ахопяць
Нястрымным разгонам
душы чалавечай...
Мне хочацца стаць
з камяніцаю ўпоплеч,
Такім-жа высокім,
шырокім у плечах.

Цябе я даўно
і ня помню як выракся.
Словам на працы
павінен расьці я.
Чаго-ж гэта ты,
непраглядная лірыка,
Тонкія пальцы
кладзеш мне на шыю.

Ты плачаш,
што рана цябе я пакінуў,
Табе без поэты
маркотна і цесна.
Пляваць, што чакае
такая дзяўчына,
Прыгодаў каханьня
ў альбомныя песьні.

Любоўна романтык
цяпер я нягеглы.
Я гэтай романтыкі
вырасту вышай.
Мне трэба, каб слова
падносіла цэглу,
А вершы ў альбом
і другія напішуць.
Я голую лірыку
выкіну ў ночы,
Хай месяц
халодным агнём яе паліць.
Муляр—таварыш!
Я твой, я рабочы.
У нашай будоўлі
Мы роўнымі сталі.
Высока стаяць
нам абодвым ня страшна.
Ты клічаш мяне.
І выходжу я першым,
Каб звонкіх поэм
і муроў неабсяжных
З табою ўзносіць
паверх
за паверхам.

Сьнежань 1930 г.
Менск

## ЧЫРВОНААРМЕЙЦАМ

**Пятрусь Броўка**

Яшчэ гарачы,
сьвежы сьлед,
Бацькі, што—
пракладалі,
Як госьцем быў ім
чорны хлеб
Ў кароткія прывалы.
Бяз вопраткі,
нямытымі
Яны ішлі
на бой.
На нашых сьцягах
літары
Абмытыя крывёй.
І мы ўдзень
і ўночы
Трымаем свой
штандар!
Мы пройдзем
кулямётчыкі
Цераз вайны пажар.
Трымай нагу
ў паходны такт.
Гарніст іграй,
зьвіні!
Мы звонкіх цэхаў,
гулкіх шахт,
Палёў сваіх
сыны.
Гатовы мы.
Сьмялей вядзі!
Таварыш камандзір!
Партыйны лёзунг
твой і наш

Пад пяцігодкі стройны марш
А-р-р-ш-ш!
Там пан
шарэнгі выстраіў
На нашу галаву...
І шабель звон за Віслаю
На Менск
і на Маскву.
І на спатканьне
вышаў
У авечай скуры воўк.
...Узьняліся міністры
служакі ўладароў,
Каб мы жылі
астачай
Ад панскага стала,
Каб мы ізноў
жабрачылі,
А ў нас скакаў улан.
Мы маршамі
ударных рот
Сваю гатоўнасьць
ўзьнімем.
Пільнуй палі!
пільнуй завод!
Глядзі за Нёман
пільна.
Трымай нагу
ў паходны такт.
Гарніст, іграй,
зьвіні!
Мы звонкіх цэхаў,
гулкіх шахт,
Палёў сваіх
сыны.
Гатовы мы.
Сьмялей вядзі!
Таварыш камандзір!
Партыйны лёзунг
твой і наш—
Пад пяцігодкі стройны марш
А-р-р-ш-ш!

Сьнежань 1930 г.
Менск.

Зусім зразумела, што дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў прасякла таксама і ў навуковыя ўстановы БССР (Беларуская Акадэмія Навук, Акадэмія сельскае і лясное гаспадаркі, Навуковыя Дасьледчыя Інстытуты, Дзяржаўны Унівэрсытэт і інш.) і кіруючы орган культурна-асьветнай працы—Наркамасьветы. У галіне аграрнай навукі, у галіне мовазнаўства, права, гісторыі, літаратуры, паэзіі і г. д. беларускія нацдэмакраты таксама мелі свой уплыў і пакінулі глыбокія сьляды сваёй дзейнасьці. Частка навуковых працаўнікоў-спэцыялістых пэўнага напрамку падводзіла тэарытычнае абгрунтаваньне „прышчэпаўшчыне“ і праводзіла эдпаведную апрацоўку настаўніцтва, навучаючайся моладзі, маладых навуковых працаўнікоў у галіне культуры і сельскае гаспадаркі. Катэдры Унівэрсытэту былі шырока выкарыстаны нацдэмакратамі для прапаганды ў захаванай, але даволі празрыстай форме, сваіх контррэвалюцыйных нацдэмаўскіх ідэй. Так падрыхтоўвалася інтэрвэнцыя супроць БССР і супроць Савецкага Саюзу.

У свой час органамі АДПУ была ўскрыта падпольная контррэвалюцыйная работа нацдэмаў па падрыхтоўцы інтэрвэнцыі і вайны супроць Саюзу ССР. Беларускія нацдэмакраты, як аказалася, былі зьвязаны ня толькі з дзейнасьцю аднадумнікаў і саратнікаў па чорнай працы ў Саюзе ССР, але і за мяжой. Прабраўшыся ў такія адказьнейшыя вучасткі працы па сацыялістычнаму будаўніцтвв, як Наркамзем, НКАсьветы Дзяржплян, Акадэмія Навук, Унівэрсытэт, Белдзяржвыдавецтва і г. д., Лёсік, Ластоўскі, Некрашэвіч і інш. здраднікі імкнуліся ўсімі мерамі і сродкамі затрымаць сацыялістычны рост краіны, тэмпы індустрыялізацыі, шырокі размах калектывізацыі, падрыхтаваць неабходныя ўмовы для зьнішчэньня савецкай улады, для замежнай капіталістычнай інтэрвэнцыі. Вось чаму барацьба з беларускім контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам павінна быць глыбокай і бязьлітаснай.

Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі разам з усім пралетарыятам вяла і вядзе (асабліва востра ў апошнія два гады) рашучую барацьбу з усімі скажэньнямі тэорыі і практыкі ленінскай нацыянальнай палітыкі. На пленумах ЦК КП(б)Б, на апошнім партыйным зьезьдзе КП(б)Б з усёй бязьлітасьцю ўскрываліся і разьбіваліся погляды і дзеяньні „прышчэпаўшчыны“, беларускага нацыянал-дэмакратызму, вялікадзяржаўнага шавінізму, нацапартунізму і іншымі праявамі і ўхіламі ад генэральнай лініі партыі ў нацыянальным пытаньні і зямельнай палітыцы.

З бальшавіцкай няпрымірымасьцю былі ўскрыты, даказаны і рашуча асуджаны погляды і памылкі адказьнейшых кіраўнікоў паасобных вучасткаў працы—Прышчэпава, Баліцкага, Алеся Адамовіча [1]), Ігнатоўскага, Жылуновіча і інш. Асаблівае становішча, якое займае Беларуская ССР, умовы барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі абавязваюць нас пасьлядоўна і яшчэ больш рашуча весьці барацьбу за ажыцьцяў-

---

[1]) Прышчэпау, Баліцкі і Алесь Адамовіч у свой час выключаны з шэрагаў КП(б)Б.

леньне ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі, за ўзмацненьне дыктатуры пралетарыяту, за баявыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва і разьвіцьцё сацыялістычнай культуры.

Вынікі выяўленьня беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму спрабуе выкарыстаць вялікадзяржаўны шавінізм сваёй агітацыяй, што быццам нацдэмакратычныя вылазкі і праявы сьведчаць аб правале ўсёй палітыкі партыі і савецкай улады ў нацыянальным пытаньні. Вялікадзяржаўны шавінізм, спэкулюючы на паасобных памылках, гэтым робіць напад, робіць атаку на палітыку ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня. У гэтай сувязі барацьбы з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, рознымі шавінізмамі і апартунізмамі, асаблівую ўвагу павінен прыцягваць да сябе вялікадзяржаўны шавінізм, які на даным этапе зьяўляецца галоўнай небясьпекай. XVI Зьезд УсеКП(б) у сваім рашэньні паказаў: „Зьезд адзначае, у сувязі з абвастрэньнем клясавага змаганьня ў краіне, актывізацыю ў шэрагах партыі нацыянальных ухілаў у бок вялікадзяржаўнага і мясцовага шавінізму. Галоўную небясьпеку на даным этапе становіць сабой вялікадзяржаўны ўхіл, які прабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі і які пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьні аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарасійскай нацыі зьвярнуць сабе страчаныя прывілеі. Разам з гэтым актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыяналізму, які паслабляе адзінства народаў СССР і які грае на руку інтэрвэнцыі. Партыя павінна пасіліць барацьбу з абодвымі ўхіламі ў нацыянальным пытаньні і з прымірэнцтвам да іх, узмацніўшы адначасова ўвагу да практычнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі, зьнішчэньня элемэнтаў нацыянальнага неравенства і шырокага разьвіцьця нацыянальных культур народаў Савецкага Саюзу“.

Рашэньні партыйнага зьезду, прамова тав. Сталіна па нацыянальным пытаньні павінны быць наказам для кіраўніцтва і бязумоўнага выкананьня пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня ў Беларусі, як на адказьнейшым вучастку Саюзу ССР.

Вялікадзяржаўны шавінізм у Беларусі за апошні час меў некалькі яскравых праяў. Напрыклад, яшчэ ў мінулым годзе праф. Шчапоцьеў, працаваўшы ў БССР 5 год, падаў заяву аб аслабаненьні яго ад абавязкаў прафэсара біалёгіі і зоолёгіі бесхрыбетных таму, што „надыходзячая беларусізацыя маёй катэдры, незнаёмства з беларускай мовай і немагчымасьць чытаць лекцыі на замежнай мове (хаця-б я яе і разумеў)“ не даюць яму магчымасьці працаваць далей у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. Праф. Афанасьеў, даючы друкаваць свой артыкул, піша ў рэдакцыю: „вельмі прашу мой артыкул надрукаваць на расійскай мове“. Нічога дзіўнага няма ў тым, што пад уплывам такіх прафэсароў, адзін студэнт у ананімнай анкеце піша: „на беларусізацыі сацыялізма не пабудуеш і няма чаго ёю асабліва займацца“. Адзін выкладчык рабфаку Ценцюкоў, у адказ на прапанову весьці свой прадмет на беларускай

мове, адказаў, што „беларуская мова штучная, гэта выдумка беларускіх шавіністых, да і сама Беларусь ёсьць „белая Русь“, ёсьць Расія і ніякае асобнае мовы ня мае“. Яшчэ шмат можна было-б прывесьці розных прыкладаў, якія яскрава сьведчаць, што вякікадзяржаўны шавінізм, які адбівае інтарэсы варожых эксплёататарскіх клясаў, клясы панаваўшай раней нацыі, зьяўляецца на даным этапе сапраўднай галоўнай небясьпекай.

Адначасова з праявамі вялікадзяржаўнага шавінізму, э праявай беларускага нацдэмакратызма, мы наглядаем у Беларусі праявы таксама шавінізму яўрэйскага, польскага і інш. Гэтыя шавінізмы праяўляюцца галоўным чынам у нацыянальнай замкнутасьці, на імкненьні адмежавацца ад агульнай хвалі сацыялістычнага будаўніцтва, у зацішваньні клясавай барацьбы ўнутры данай нацыянальнасьці, ідэалізацыі дробнабуржуазных партый—Бунда, ППС і інш. Само сабою зразумела, што ўсе гэтыя праявы шавінізму і нацыяналізму, праявы антыпралетарскія і контррэвалюцыйныя, якія аб'яднаюцца ў агульнай барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту, у барацьбе за аднаўленьне капіталізму. Вось чаму, ажыцьцяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, Беларуская ССР змагаецца і будзе змагацца на нацыянальным фронце і наперад са ўсімі ўхіламі, са ўсімі антыпралетарскімі праявамі, з клясава-варожымі элемэнтамі, якія стаяць на шляху будаўніцтва сацыялізму. Беларуская ССР уцягвала і будзе ўцягваць і ў далейшым працоўных усіх нацыянальнасьцяй у сацыялістычнае будаўніцтва. Пралетарыят Беларусі будзе будаваць і разьвіваць культуру—нацыянальную па форме і пралетарскую па зьместу.

Пры вялізарнейшай дапамозе Саюзу ССР, Савецкая Беларусь да XII гадавіны свайго існаваньня мае вялікія дасягненьні ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, у ленінскім вырашэньні нацыянальнага пытаньня. Пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, актыўнасьць рабочых мас, батрацтва, калгасьнікаў, беднаты і серадьнякоў накіравана на забясьпечаньне бальшавіцкіх тэмпаў індустрыялізацыі, на разгортваньне і ўзмацненьне калектывізацыі і на яе падставе ліквідацыі кулацтва, як клясы, на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, што забясьпечыць і ў далейшым правільнае практычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня.

У барацьбе за генэральную лінію нашай партыі і ленінскага ЦК з правым ухілам, права-„левацкім“ блёкам, з апартунізмам усіх відаў, з ухіламі і контррэвалюцыйнымі праявамі на нацыянальным фронце, БССР яшчэ больш узмацнее палітычна, эканамічна і ў культурных адносінах, як перадавы аванпост Савецкага Саюзу—супроць капіталістычнага захаду.

Далейшы шлях Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі—ёсьць шлях будаўнійтва сацыялізму ў нашай краіне пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і яе Ленінскага Цэнтральнага Камітэту.

## ЯК ПРЫГОНЬНІК СТАЎ НАРОДНІКАМ

*(Пра В. Дуніна-Марцынкевіча)*

**З. Жылуновіч**

Беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм увесь час стараўся падвесьці пад сябе як найшырэйшую пъдставу. З гэтай мэтаю нацыянал-дэмократы выкарыстоўвалі ўсе магчымасьці, засьмечваючы сваімі буржуазна-рэакцыйнымі ўстаноўкамі розныя галіны навукі, пачынаючы ад этнографіі і канчаючы антрополёгіяй. Для ўгрунтаваньня сваіх поглядаў на закон гістарычнага разьвіцьця, яны прыцягалі за чуб, скажаючы і перавяртаючы, уздуваючы і прыстасоўваючы шэраг фактаў.

Асабліва ўлюбёнай галінай для сваіх „вопытаў“ нацыянал-дэмократы лічылі гісторыю Беларусі. На гісторыі яны будавалі свае концэпцыі беларускай самабытнасьці, выводзілі законы нацыянальнае героікі, раскопвалі анналы старасьветчыны, ідэалізуючы яе падзеі і ўдзельнікаў гэтых падзей. Фр. Скарына, Аўрам Смаленскі, Кірыла Тураўскі, розныя князі і сьвятыя, уздыманыя з пагнілых трун, з патлеўшых абразоў, ажываліся і складаліся ў хронолёгію „Беларускае мінуўшчыны“. Стосы гістарычных „прац“ Акадэміі прысьвечаны сярэднявяковай гнілі, якая смакуецца нацыянал-дэмократамі, як пікантная страва, прыхарошваецца і атульваецца орэолам нацыянал-дэмократычнае героічнасьці.

У пазьнейшым пэрыодзе гісторыі высуваецца на выдатнае месца Кастусь Каліноўскі. Гэта асоба, цесна зьвязаная з нацыяналістычнымі буржуазна-памешчыцкімі коламі ў часе польскага паўстаньня 1863 году, перавяртаецца ў гарачага прыхільніка працоўных Беларусі. Вакол Кастуся Каліноўскага складаецца поўны культ „Беларускага героя“, апетага ў вершах, узьнесенага ў тэатры, прыхарошанага ў кіно. Яго буржуазны шовінізм замазваецца выпукленьнем народніцка-рэволюцыйнай чыннасьці.

Ад дванаццатага стагодзьдзя да апошніх гадоў, праз восем стагодзьдзяў праводзіцца нацыянал-дэмократамі суцэльная нітка, на якую нанізваюцца рознастайныя факты, увабраныя ў махрастыя колеры нацыянальнае фарбы. Бачыце, кажуць нац.-дэм., нацыянальна-вызваленчы рух мае сваёю падставаю не марксыцка-ленінскі закон клясавага змаганьня, якое вырастае на глебе экономічна-соцыяльнае няроўнасьці, а беларускі рух мае эволюцыйную непасрэднасьць з даўных часоў і вядзе ўсяго да заснаваньня дэмократычнае рэспублікі мірным шляхам грамадзянскага burgfrieden'у.

На аснове гэтага ўсе заваёвы рабочых і сялян Беларусі з часоў Кастрычніку—ёсьць нешта непатрэбнае і незаконнае, а таму з ім павінна змагацца, кажуць нацыянал-дэмакратычныя контррэволюцыянэры. У гэткі бок паварочваюць яны гісторыю.

На тую-ж дарогу абгрунтаваньня сваіх контррэволюцыйных установак і дзейнасьці нацыянал-дэмократы ўсьцягаюць і гісторыю беларускае літаратуры. Яе ўвязваюць з дзесятым стагодзьдзем, з царкоўна-славяншчынай, з „залатою парою" шаснаццатага стагодзьдзя і інш. Цэлы сонм „сьвятых" і „божых угоднікаў" уключаны ў гэты нацыянал-дэмократычны ланцуг, якім імкнуцца нацыянал-дэмократы зьвязаць сучасную беларускую пролетарскую літаратуру з літаратураю Вас. Цяпінскіх. Ізноў-жа яны абарочваюць гэта ў зброю для барацьбы супроць рабочае клясы Беларусі, супроць яе будаўніцтва пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, пролетарскіх навукі і літаратуры.

Характарнай уласьцівасьцю нацыянал-дэмократычнае дзейнасьці на фронце гісторыі беларускае літаратуры зьяўляецца ідэалізацыя буржуазна-памешчыцкіх пісьменьнікаў дзевятнаццатага стагодзьдзя. Шукаючы гістарычных падстаў для абгрунтаваньня самабытнага шляху ў літаратуразнаўстве, беларускія нацыянал-дэмократы яшчэ з дарэволюцыйных часоў хапіліся за шэраг польска-дваранскіх пісьменьнікаў, перарабляючы іх у беларускіх дэмократаў і народнікаў. Пры гэтым, у процэсе „перарабкі", каб зьвесьці іх (пісьменьнікаў) да ўзроўню „народнасьці Беларусі", „якая ня мела ні сваіх паноў, ні начальнікаў", нацыянал-дэмократычныя дасьледчыкі затушоўвалі соцыяльнае паходжаньне і клясавую сутнасьць дваранска-ўласьніцкіх пісьменьнікаў, іх мэтаімкнёнасьць і іх ідэолёгію. За асноўнае бралася „чалавечнасьць", „любасьць да беднага народу", як нешта самадаўлеючае, і на аснове гэтага падавалася характарыстыка данае пісьменьніцкае асобы [1]). І перад намі апынуліся пісьменьнікі, якія ў сапраўднасьці былі аполёгетамі прыгону, заядлымі ворагамі працоўных гушчаў, нават рэакцыянэрамі, у тогах народнікаў, з „чулымі душамі", „з добрымі сэрцамі", „прыяцелямі мужыка" і „бічавальнікамі паноў".

Гэта мы і прагледзімо, як адзін з гэткіх пісьменьнікаў В. Дунін-Марцынкевіч, дзякуючы стараным нацыянал-дэмократычным дасьледчыкам, з прыгоньніка-рэакцыянэра стаў народнікам.

В. Дунін-Марцынкевіч нарадзіўся ў фальбарку Панюшкевічы, Бабруйскага павету, на Меншчыне; яго бацька быў арандатарам. Пасьля сканчэньня бабруйскае сярэдняе школы ў 1824 г. дзядзька В. Дуніна-Марцынкевіча, ксёндз-мітрапаліт С. Богуш-Сестранцэвіч аддаў яго ў навуку да ксяндзоў-базыльянаў у Вільні. Адтуль Марцынкевіч паехаў у Пецярбург і паступіў на мэдычны факультэт, але, ня скончыўшы яго, вярнуўся

[1]) На асове гэтых установак нацыянах-дэмократаў загулялі па старонках гісторыі беларускае літаратуры шкодныя агляды эпох і асоб, нажаль, падтрыманыя некаторымі літаратарамі-комуністамі, у тым ліку і мною.

дамоў. З 1827 г. В. Дунін-Марцынкевіч пачаў служыць у Менскай духоўнай каталіцкай консысторыі, а з 1829 году быў, апрача таго, і сябрам менскіх гранічных судоў. У 1832 годзе ён перашоў з консысторыі на службу ў канцылярыю Менскай крымінальнай палаты. Праз два гады вярнуўся ён зноў у консысторыю і працаваў у ёй да скасаваньня вуніі ў 1839 г. У 1840 годзе В. Дунін-Марцынкевіч купіў сабе пад Менскам маёнтак Люцынку і жыў то ў Люцынцы, то ў Менску, дзе працаваў пры шляхецкай дэпутацыі. Галоўная аўтарская работа Марцынкевіча прыпадае на час ад 1846 да 1859 г. Памёр ён 17 сьнежня 1884 г. [1]).

Як бачым і соцыяльнае паходжаньне і, тым болей, выхаваньне В. Дуніна-Марцынкевіча, кажуць за тое, што пісьменьнік быў зьвязаны з шляхецка-зямляўласьніцкімі клерыкальнымі коламі. Трэба таксама дапускаць, што яго бацька быў ня дробным арандатарам, аб чым сьведчыць мітрапаліцкая радня пісьменьніка. Зусім зразумелым стае намер яго дзядзькі, мітрапаліта С. Богуш-Сестранцэвіча, даць свайму нябогу закончаную духоўную асьвету, якую Марцынкевіч бярэ ад манахаў-базыльянаў.

Паспытаўшы базыльянскае мудрасьці, ён не падабае унівэрсытэту, дзе ў 40 гадох ужываліся лібэральныя плыні, і які пісьменьнік пакідае. Дадзеная базыльянамі і раней дзядзькам мітрапалітам духоўна-рэлігійная зарадка накіроўвае пісьменьніка на службу ў каталіцкую консысторыю, дзе ён застаецца на працягу досыць доўгага часу. Таксама ён доўгі час служыць пры шляхецкай дэпутацыі. Служба, а мо' і дапамога раднякоў, робяць яго ўласьнікам двара.

Гэткі жыцьцёвы шлях В. Дуніна-Марцынкевіча поўнасьцю спрыяў таму, каб з яго выпрацаваўся дасканалы прыхільнік рэакцыйна-прыгоньніцкага ладу, абаронца яго існаваньня. Тыя-ж умовы робяць з пісьменьніка шчырага прыхільніка рэлігіі і богапаважальніка. Набыцьцё-ж хоць і невялікага двара цалкам ушчыльняе Марцынкевіча ў асяродзьдзе зямляўласьніцкай прыгоньніцкай шляхты. Калі маемасны стан і не дазваляў яму ўзьняцца да ўзроўню вялікіх магнатаў, то мэтаімкнёнасьць, псыхоідэолёгія Марцынкевіча была поўнасьцю зьвязана з мэтамі і інтарэсамі ўсяго зямляўласьніцтва, як стану. Ад гэтае сувязі выплываюць і ўсе настроі, і клясавае пачуцьцё пісьменьніка. Ня маючы іншых сродкаў для актыўнага ўдзелу ў абароне зямляўласьніцкіх інтарэсаў, В. Дунін-Марцынкевіч знаходзіў гэтыя сродкі ў пісьменьніцкай дзейнасьці. А ў яго час былі карыснымі ўсе сродкі, накіраваныя на самаахову клясавых прывілеяў, на ўтрыманьне пануючага самадзяржаўна-памешчыцкага ладу. Апошні якраз пачынаў адчуваць для сябе рэальную небясьпеку. Па-за межамі самадзяржаўнае Расіі, у Нямеччыне, у Францыі і ў Вэнгрыі грымелі стрэлы рэволюцыйных боек. Трэці стан—гарадзкая прамыслова-гандлёвая буржуазія пры дапамозе рабочых заваёўвала сваё месца ў гісторыі барыкаднымі сражэньнямі на вуліцах і пляцох эўропэйскіх

[1]) М. Гарэцкі. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1920 г.

сталіц. Зусім сьвежымі ўспамінкамі насіліся па ўсіх канцах мікалаеўскай Расіі цені герояў 25 сьнежня 1825 году. Аракчэеўшчына і Бекендорфшчына тэрорызавалі вагромністую краіну нячуваным паліцэйска-жандарскім уціскам.

Мікалай накіраваў сваё войска на *ўсьмірэньне* Вэнгрыі, адцягаючы ўвагу ад унутранага становішча Расіі, гэтак яскрава аголенага ва ўсёй сваёй гніласьці сэвастопальскаю кампаніяй. Але па-за бляскам паліцэйска-жандарскае славы „усьмірыцеля дэкабрыстаў і бунтоўнае Эўропы“, выразна насьпявала пагроза мікалаеўскага рэжыму ад унутранага ўврыву. Дайшоўшы да нячуванага зьдзеку і ўціску, памешчыцкі праізвол у вёсцы пачынаў сустракаць сабе належнае жорсткае супраціўленьне з боку даведзенага да адчаю сялянства. Па абшары вялікае краіны ўспыхвалі паўстаньні вышаўшых са сьцерпу прыгонных. Час-ад-часу наглядаліся асобныя напады сялян на памешчыкаў і іх забойства, а побач падымаліся на паноў цэлыя вёскі. Якраз у тым годзе, калі В. Дунін-Марцынкевіч перайшоў на службу ў консысторыю, у Люцынскім павеце на Віцебшчыне адыграліся вялікія здарэньні: сяляне Янавольскай воласьці, падуладныя графу Борху, паднялі агульнае паўстаньне супроць бязьлітаснай экспляатацыі свайго прыгоньніка. Для ўсьмірэньня паўстаньня пасылаўся з Дзьвінскай крэпасьці ў вёску Янаволь батальён салдат у ліку 653 чалавек. Разам з батальёнам прыехаў віцебскі віцэ-губарнатар Дамброўскі. Сялян угаварвалі і пераконвалі сам віцэ-губарнатар, духоўнікі, чыноўнікі, афіцэры батальёнаў. З вялікімі труднасьцямі ўдалося ўсьмірыць паўстанцаў. Аб гэтым міністр унутраных спраў дакладаў цару.

Бязумоўна тое, што весткі аб янавольскіх падзеях разышліся па ўсёй Беларусі і навялі сполах на ўсіх зямляўласьнікаў. Ня мог ня ведаць пра гэта і В. Дунін-Марцынкевіч. Ведаў і добра адчуваў ён, як і ўсё панства, пра тую хвалю абурэньня сялян, якая нясупынна бурліла на Віцебшчыне на працягу з 1832 па 1855 г., захапіўшы ўсе паветы губэрні і асабліва востра выявіўшыся ў 1847 годзе (Дрысенскі, Сеньненскі, Невельскі, Полацкі і Люцынскі паветы).

Але не адна Віцебшчына знаходзілася ў гэткім становішчы. Сялянскія паўстаньні пераліваліся па ўсёй Беларусі, ня гледзячы на жандарскі рэжым Мікалая першага, на суровыя меры ў падаўленьні паўстаньняў,— памешчыкі не маглі заставацца ў супакоі. Пагрозная небясьпека выразна вісела над добрачыннасьцю кожнага з іх. Трэба было шукаць усялякіх спосабаў узьдзеяньня на сялян, каб астудзіць іх нездаваленьне і клясавае абурэньне супроць сваіх прыгнятальнікаў. Тым болей гэта было ў інтарэсах для меней капіталізаваных маёнткаў, дзе прыгонная праца зьяўлялася неад'емнай сілай і давала ўласьніку шляхам нячуванага ўціску выцягаць з селяніна ўсе сокі. „Уласьнік менш буйных двароў,—кажа М. Пакроўскі,—патрапляў зьліцца з сваёю гаспадаркай—уставаць раніцой, удосьвітку і праводзіць увесь дзень на полі, з бізуном у руках, а ўвосень на таку пры малацьбе. Пры добрым веданьні гаспадарчае

тэхнікі такі гаспадар мог выбіць з сваіх сялян многа, але ў такім чыстым відзе сыстэма была ўжытна ўсяго ў малых маёнтках".

За гэтым дробна-маянтковыя дваране асабліва заядла чапляліся за прыгоннае права, у той час, калі буйныя двары ўжо стыкануліся з фактам малавыгоднасьці старой формы прыгоннае працы і ліквідацыі прыгону не спрачаліся.

Аднак, апошняя акалічнасьць зусім ня выключала пытаньня сярод зямляўласьнікаў аб патрэбе з іх боку настойна абараняць пакорлівае паслушэнства сялян да паноў за іх няшчадную эксплёатацыю.

З гэтаю-ж мэтаю можна было выкарыстаць і сродкі пісьменьніцкай чыннасьці. Пляяда так званых шляхецка-беларускіх дваранскіх пісьменьнікаў ахвотна ўзяла на сябе выкананьне гэтага соцыяльнага заказу.

Сярод гэтых пісьменьнікаў быў і В. Дунін-Марцынкевіч. Цесна прымыкаючы да стану зямляўласьнікаў, поўнасьцю падзяляючы іх клясавую ідэолёгію, В. Дунін-Марцынкевіч чым мог, тым стараўся праводзіць яе ў жыцьцё. На яго долю выпала гэта зрабіць праз літаратурную творчасьць.

В. Дунін-Марцынкевіч пачаў займацца літаратурай з 1846 г. Ён пісаў па-польску і па-беларуску, але „званьне пісьменьніка далі яму беларускія творы". Большая частка гэтых твораў надрукавана, часткаю яшчэ знаходзіцца ў рукапісах.

Чаму-ж, будучы ідэолёгам польскае зямляўласьніцкае клясы, якая карысталася польскаю моваю, В. Дунін-Марцынкевіч у сваёй літаратурнай працы аддае перавагу беларускай мове? Вельмі ясна. Селяніну-прыгоннаму, хоць у большасьці сваёй і няпісьменнаму, будзе лягчэй азнаёміцца з пісаньнем на зразумелай яму мове, чым на мове тэй, якую ўжывалі яго прыгоньнікі.

Гэта адчуваюць і самі зямляўласьнікі-памешчыкі, якія, вызнаўшы некаторыя здольнасьці В. Дунін-Марцынкевіча да пісаньня, націскаюць яго на пераход у гэтай працы на беларускую мову. Гэтак, у сваёй прадмове да нядаўна знойдзенага твору „Халімон на каранацыі" [1]), адрасаванай да Т. Чудоўскага, В. Дунін-Марцынкевіч кажа, што яму ўспала ў галаў напісаць яго першы твор „Сялянка" з мэтаю накіраваць мужыка да пісьменства краёвага. Адкуль-жа ў яго знашлася гэта ахвота заняцца асьветай селяніна на яго роднай мове? Выключна з пабуджэньняў клясавага характару. Зрабіць селяніна пісьменным трэба было таму, каб наблізіць яго да пана, каб даць яму ўразумець панскую ласку і прымірыць з існуючым становішчам. Гэта становішча, як мы ўжо бачылі, цалкам адпавядала і настрою і ідэалам В. Дуніна-Марцынкевіча. Значыць, яно павінна цягнуцца як надалей спакойліва і непарушна. А дзеля гэтага мусяць быць зьнішчаны ўсе перашкоды. Асноўную з гэтых перашкод, парушаўшых гармонію прыгоннае добрачыннасьці, пісьменьнік даваў

[1]) Знаходзіцца ў рукапісу ў Акадэміі Навук.

выгляд, што бачыў паперш усяго ў аканомах, якія „для ўласных інтарэсаў зьдзекуюцца над працавітым народам“. Сваю поэму „Гапон“ В. Дунін-Марцынкевіч якраз і прысьвячае гэтаму пытаньню. У „Гапоне“ ён чытае навуку паном і сялянам наступнага зьместу: паны павінны ведаць, якія добрыя і слаўныя сяляне, завошта іх трэба любіць і асьцерагаць ад крыўды аканомаў. Сяляне-ж няхай ведаюць, што дрэнных паноў няма, што паноў трэба слухаць, як родных бацькоў. У прадмове да гэтай аповесьці В. Дунін-Марцынкевіч кажа: „Пішучы яе, я меў на мэце, каб памешчыкі нашы, выбіраючы сабе на дапамогу афіцыялістых, чуйную зварачалі ўвагу на іх характар і абычаі: яны-бо, надужываючы часамі даверанай ім улады для ўласных інтарэсаў, зьдзекуюцца над працавітым народам і праз гэта часта бяз усякай віны выклікаюць яго нянавісьць да паноў“.

Цікава тое, што на напісаньне поэмы „Гапон“ уплывалі на В. Дуніна-Марцынкевіча „заслужаны літаратар і знаны пан П. А. Пенкевіч і П. Кароль-Масальскі“—чалавек сьветлы і „роўна са мною мілуючы селяніна“ (kmiotka). Апошні нават даў пісьменьніку некалькі матэрыялаў для напісаньня гэтага твору.

Такім чынам „Гапон“ зьявіўся ў скутку непасрэднага заказу В. Дуніну-Марцынкевічу з боку зямляўласьнікаў. І як заказ, быў выкананы даволі добра, згодна з усімі запатрабаваньнямі заказчыка. Праз усю поэму праходзіць ідылія лагоднага сужыцьця між панам і мужыком. Калі апошні пакорліва і паслухмяна нясе свой крыж, ён за гэта ўзнагароджваецца і на небе і на зямлі. Прыклад з простага мужыка—Гапона—які вышаў на афіцэра, а простая сялянка Кацярына—зрабілася сапраўднай паненкай. Пры гэтым ні Гапон, ні Кацярына не адыходзяць ад сялянскае грамады і ня цураюцца беларускае мовы. Moралы напрашваюцца самі сабой: на зямлі існуе рай і гэты соцыяльна-клясавы рай павінен квітнець для дабра прыгоньніка-памешчыка.

Гэтую сваю ідэю В. Дунін-Марцынкевіч настойна і выразна праводзіць і ў далейшых сваіх творах. Болей таго, ён яе разьвівае, паказваючы свае сапраўдныя клясава-варожыя адносіны да сялян. Калі ў „Гапоне“ пісьменьнік ідэалізуе ўзаемаадносіны паміж панамі і мужыкамі, то ў „Купале“ ён кажа:

> — Што-б шляхціц з мужыцкай дачкой ажаніўся?
> Я-ж бы між сваімі тады ня ўжыўся!

Ды як-жа можа тое стацца, каб прыгоньнік паў да гэткае нізасьці, як пабраньне з мужычкаю? Разьвязка поэмы выразна гаворыць за тое, што аўтар яе цьвёрда стаіць на гэтым пункце гледжаньня. Хваліць перад панамі мужыка добра раз-два, але куды карысьней у сваіх і панскіх інтарэсах убіваць селяніну любасьць і павагу да пана. Бач, толькі тады і можаісьці непарушным шляхам добрасуседзкае сужыцьцё між двума варожымі клясамі, калі сяляне нічога ня мецьмуць супроць зьдзекаў і эксплёатацыі сябе з боку паноў.

У гэту кропку В. Дунін-Марцынкевіч настойна ўдарае і ў сваіх творах і ў прадмовах да іх. Ён добра разумее тую ісьціну, якая кажа, што „ўсе ідэолёгіі ўганяюць адну агульную мэту, а іменна: замацаваць так ці іначай (ці ў форме адцягненых навуковых або філёзофскіх ідэй, або мастацкіх вобразаў) пануючае становішча камандуючае клясы, ідэалізуючы, як тыя грамадзкія адносіны, якія служаць падставаю для яго панаваньня, так і яго „мораль“, г. ё. тыя нораўныя адносіны паміж людзьмі, якія выцякаюць з дадзеных грамадзкіх адносін і тыя нораўныя якасьці, якія вынікнуты на глебе даных грамадзкіх адносін, разам з тым дазваляюць ім моцна існаваць“ [1]).

У апавяданьні „Стаўроўскія дзяды“ В. Дунін-Марцынкевіч дае гэткую характарыстыку герою апавяданьня князю Грамабою: „Коратка дзяржаў ён радных паноў, не папушчаў у крыўду бедных мужыкоў“. Калі варочаўся з вайны, усе яго спатыкалі, як родненькага бацьку.

Наданьне князю бацькаўскае дабраты ў адносінах да селяніна, ці-ж гэта не адна з характарнейшых уласьцівасьцяй з боку духоўных і сьвецкіх езуітаў у іх службе на карысьць рэакцыйных прыгоньніцкіх інтарэсаў зямляўласьніцкага капіталу і яго ахавайцу—мікалаеўскаму жандарскаму рэжыму? Дзе-ж і калі селяніну лепей давядзецца жыць, як ня пры пану, ня пры яго добрай ласцы? Хто-ж аб ім падбаў, як ня пан, пастаўлены богам у апякуны над сваім смэрдам-прыгоньнікам? З гэтага выплываюць В. Дунін-Марцынкевічавы моралы: маўчы і спакойліва, сьцерпна падавайся на ўсе зьдзекі, на ўсе драпежныя праявы готэнтоцкай паншчыны. У аповесьці „Шчораўскія дажынкі“ асабліва выпукла выступае праслаўленьне паноў і іх добрых адносін да сялянства. Каб падмацаваць свае „мастацкія“ доказы гэтага, ён засьведчае: „Бо гэта, браткі, праўда, а ня казка“.

Клясавае самазахаваньне ўпарта націскала на яго творчыя сілы і застаўляла падаваць продукцыю.

Пяцідзесятыя гады, гады агоніі прыгоньніцкай гаспадаркі якраз і адзначаюцца найбольшаю плённасьцю В. Дуніна-Марцынкевіча.

Ён стараецца прылажыць усе свае пісьменьніцкія здольнасьці на аўтар абароны ўласьніцка-эксплёататарскіх станаў. Тое, што некаторая частка багатая зямельнай магнатэрыі абыходзіць малою ўвагаю стараньні свайго вернага слугі абараніць іх, па сіле, інтарэсы, В. Дунін-Марцынкевіча дратуе і мучыць. Што за няўдзячнасьць за шчырую паслугу? У сваёй прадмове да свайго-ж перакладу на беларускую мове „Пана Тадэуша“ Адама Міцкевіча—В. Дунін-Марцынкевіч піша: „Аповесьць Адама Міцкевіча „Пан Тадэуш“, што так ясна, так шчыра малюець характар, звычаі і абычаі нашых беларускіх паноў часу Напалеона, ужо цяпер (1859 г.) перакладаецца на маскоўскую мову. Чаму-ж, думаю, наш народ просты, што з гэтымі панамі так блізка жыў, чаму-ж дробная акалічная шляхта,

---

[1]) В. Фрычэ. Нарысы па мастацтву. Масква, Выд. „Новая Москва“. 1923 г.

што жывучы у лясным зацішшы, у хаце, між сабою, сваёй роднай ужывае мовы—чаму-ж яна ня мае пазнаць абычаяў сваіх бацькоў?“ Далей аўтар жаліцца, што яго праца „у гэтай мове“ не знайшла прыяцеляў сярод „тых багатых людзей нашае старонкі, што паводле бога і сумленьня павінны-б памагчы адкрыць цёмнаму народу вочы“. „І вось,—канчае Марцынкевіч,—я сёньня ахвярую „Пана Тадэуша“, прыбранага ў мужыцкую сярмягу, паном і простаму народу з-за Дняпра, Дзьвіны, Бярэзіны, Сьвіслачы, Вільлі і Нёмну“.

Гэта прадмова В. Дуніна-Марцынкевіча асабліва цікава сваёй устаноўкай на сяброўскае пагоджаньне мужыкоў з панамі, на засыпаньне між імі глыбокіх клясава-экономічных супярэчак.

У вершы „Павіншаваньне войта Навума ў дзень імянін панны W. S. (1854 г.)“ пісьменьнік кажа імяніньніцы: „Пацехай будзь у старасьці бацьком, а маткай роднай сваім мужычком“. Гэту думку ён пераказвае і ў вершы „Навума прыгаворкі на прыезд да места Менску А. Контскага, У. Сыракомлі і С. Манюшкі“.

Аддаўшыся цалкам, з усім стараньнем ваяўнічага абаронцы прыгоньніцкіх інтарэсаў, для ўгавору сялянства на пакорлівасьць сваім эксплёататарам, В. Дунін-Марцынкевіч прагна чакаў пахвалы за гэта з боку сваіх протэктароў. Мы ўжо прыводзілі вышэй яго захлёбваньне ад выказанай яму спагады з боку пана Т. Чудоўскага, з боку пана П. Пенкевіча, П. Масальскага, якія падбівалі яго на абранай працы, разумеючы ад гэтага ўсю выгаду для клясавых інтарэсаў зямляўласьнікаў. У лісьце да таго-ж Т. Чудоўскага В. Дунін-Марцынкевіч, растаючы ад лісьцівасьці, піша: „Дажынкі складзены на адозву П. Юльюша Р. Найбольшым аднак штурхачом да далейшых спробаў таго роду сталася для мяне спачуваньне многіх паважаных абываталяў (паноў) Беларусі, у ліку якіх стаіш і ты, найпаважанейшы пане Тадэуш!—Вы-ж гэта, панове!“ І далей: У „Дудару злажыў падзяку ўсім беларусінам,—тут-жа з глубіны душы выкладаю маё ўдзячнае пачуцьцё асабіста табе, паважаны Тадэушу, як высокаму протэктару мае працы і замілаваньня ва ўсім, што толькі ўплывае на моральнае палепшаньне быту селяніна“. Аб якіх-жа моралах В. Дунін-Марцынкевіч дбаў для сялян—кажуць наступныя словы з прадмовы да „Гапона“: „Таму ў мове сялян яе я пісаў, каб часамі ў сьвятошны дзень прачытаная ім, магла пацягнуць іх сэрцы да паноў, у інтарэсах супольнай карысьці шчыльней аб‘яднаць“.

Ён піша свайго „Гапона“ і для таго, „каб зьнішчыць тую, амаль прыроджаную неахвоту, з якой селянін наш становіцца на паслугі краю. Тут-бо (у „Гапоне“), бачачы, што цьвярозы, несапсуты моральна, да таго чужны, працавіты і пільны ў службе мужычок, заўсёды ў *бацькаўскага ўраду* атрымлівае нагароду, не адзін з ахвотай пойдзе на службу краю, спадзяючыся таксама ў будучыне і сабе ўдачы“.

Гэта і цэлы рад іншых прадмоў да „Гапона“ наяўна паказваюць нам на зьмест і мэты самое поэмы. Поэма цалкам накіравана на тое, каб

убіць селяніну ў голаў не патрэбу шукаць выйсьця з свайго прыгнечанага палажэньня, а здавальняцца „шчасьцем“ панскай апекі і будучаю для сябе ўдачаю. За шчырую службу пану і ўраду селянін атрымае добрую ўзнагароду, за непаслушэнства—кару. Д.-Марцынкевіч лічыў асноўнай мэтай праводзіць гэткія моралы абароны прыгоньніцкага стану і ўгаворваньня да пакоры „добрых мужычкоў. У прывадзімай прадмове ён кажа: „Шчасьлівым сябе палічу, калі гэта повесьць будзе адпавядаць пастаўленай мэце“.

Пісьменьнік мог быць спакойным: яго творы поўнасьцю адпавядалі мэце прыгоньнікаў, у адносінах да якіх мужыкі павінны былі:

„Хваліць толькі бога, шчыра працаваць, любіць добрых паноў, маўляў, родных браці, вось вашае дзела“.

Для большага ўзмацненьня сваіх прыгоньніцкіх ідэй у вачох сялянства Д.-Марцынкевіч ужываў мэтод езуіцтва—гэта ахутваньне гэтых ідэй у туль набожнасьці, у нябесную пераемсьцьвенасьць. Селянін павінен не забываць, што панства і ўрад—гэта божыя служкі; яны выконваюць яго, бога, заданьні ў апякунсьцьве над „мужыкамі“. Прыгоньніцтва—то інстытут, заснованы з божай дапамогай. І той, хто супроць пана—супроць бога.

Праз усе яго творы праходзіць непарыўная сувязь між панам і богам. Дзякуючы богу, удалося Гапону прайсьці так ўдачліва жыцьцёвы шлях. Дзякуючы богу, можна ўлагодзіць на зямлі цеснае сужыцьцё між гэткімі двойна супроцьлежнымі станамі, як памешчыкі і іх прыгонныя сяляне. „Бяз бога ні да парога“—з гэтаю езуіцкі-прыгоньніцкаю прымаўкаю Д.-Марцынкевіч опэруе ва ўсіх сваіх творах.

У „Шчароўскіх дажынках“ вось як маралізуе пісьменьнік аб земнай ідыліі ў панска-сялянскіх адносінах, над якімі неадлучна вітае „вока божа“:

> Добры вечар, паночак!
> Зьнімі з галоўкі вяночак;
> З зялёнага поля,
> З ядронага аўса
> Даў бог пажаці
> Судзі, божа, спажыці.
> У карысьці, у радасьці,
> У добрым здароўі.
> Судзі, божа, нашаму пану
> Жонку харошую,
> Свайму дому гаспадыню—
> Нам добрую паню.

„Добры паночак“—гэта квінт-эсэнцыя поглядаў Д.-Марцынкевіча на памешчыцкую клясу. І стараньне беларускіх „літаратураведаў“ надаць гэтым поглядам народніцкую афарбоўку—зьяўляецца нацыянал-дэмократычным падсалоджваньнем наяўна выразнага ворага сялян. Д.-Марцынкевіч ні ў адным месцы не спрабуе заступіцца за селяніна перад панам. У селяніне ён ня бачыць нічога людзкага, нічога іншага, апроч покор-

лівага слугі памешчыку, „добраму пану“, апроч крыніцы цягавае сілы на дабро прыгоньніку.

У вялікай колькасьці сваіх твораў на польскай мове Д.-Марцынкевіч яшчэ цясьней пераплятае панскі дабрабыт з боскім абсьледваньнем. Цэлы шэраг вершаў ён прысьвячае рэлігійным тэмам, залязаючы ў густыя нетры клерыкалізму. Выразьнейшай праявай гэтага яго настрою зьяўляецца верш „Малітва на дзень задушны“. Гэтыя рэлігійнасьць і богаўклонства ў сваёй творчасьці Дунін-Марцынкевіч выкарыстоўвае для непасрэднай увязкі праз гэта памешчыцкага панаваньня з самадзяржаўным парадкам.

Да апошняга часу заставалася мала вядомым апавяданьне Д.-Марцынкевіча „Халімон на каранацыі“. Зараз мы маем магчымасьць пазнаёміць з ім нашага чытача. Поэма ня мае складанага сюжэту; форма напісаньня—самая прымітыўная. Аўтар падае нам апісаньне паездкі старшыні Забалотнага ў Маскву на каранацыю. Паездка з Магілеўшчыны ў Маскву і быцьцё ў Маскве яскрава перадана ўражаньнямі старшыні, якія, зразумела, зьяўляюцца адбіткам пачуцьцяў, настрою і ідэолёгіі аўтара поэмы, Д.-Марцынкевіча. У сваім лісьце да Т. Чудоўскага, „протэктара маёй працы“, Д.-Марцынкевіч адводзіць шмат месца прыведзенай поэме. Вось як ён адзываецца пра яе: „Яшчэ па адным пытаньні я павінен аб'ясьніцца перад Беларусьсю. Калі ўжо я напісаў палову гэтай аповесьці, дык даведаўся, што фантастычная асоба старшыні, дзякуючы адвольна атрыманаму прозьвішчу Забалотнага, супала з сапраўдным прозьвішчам старшыні дзяржаўных маёнткаў Магілеўскае губэрні.

Ня думаецца мне, каб ён сам, або хто-колечы іншы на падставе гэтага супаданьня лічыў, што тутака аўтар выяўляе сапраўдную асобу. Я меў на мэце сялянскі народ і ў сваім апавяданьні прыстасоўваўся да яго мовы і спосабаў разуменьня; у сувязі з гэтым старшыня ў маім апавяданьні павінен у інтэлектуальных адносінах амаль-што зраўняцца з сялянамі. Якраз я меў на ўвазе тое, каб гэтаму тыпу старшыні не надаць выгляду надта ненатуральнага, нязгоднага з фактычным роўнем адукацыі сучаснага сялянства“.

Адным словам, В. Дунін-Марцынкевіч тонка і старанна будаваў сваё апавяданьне ў напрамку яго большага ўплыву на сялянства. Асоба старшыні павінна была ў воку сялян набыць большае даверра, як „роўнае па адукацыі сучаснага сялянства“. Ня дзіва таму, што Забалотнага слухалі з замілаваньнем, хвалячы „цара дабрэнька“. У вуснах старшыні мёдам цякло апавяданьне.

Згодна аўтару, цырымонія каранацыі навеяла на Халімона божаскае пачуцьцё. Ен усёю істотаю аддаўся хваленьню цара. Цар у разуменьні Халімона—памазаньнік божы, бацька народу. Да яго з усіх краёў ідуць біць уклон, выказваць пакору і любасьць. Калі паны зьяўляюцца дабрадзеямі сялян, то цар Маскоўскі—агульны благадзецель, пасланец божы.

Усё апавяданьне занята ўсхваленьнем царскае славы і магутнасьці. Ужо ў пачатку апавяданьня мы сустракаем гэткія радкі:

Вялікі баш цар маскоўскі
Аб'явіў указ такоўскі,
Што абойме бацькаў трон;
Ўложыць царскія кароны,
Падданых сваіх паклоны
У сталіцы прыме ён.

Цар думае пра сваіх дзетак. І дзеткі яго прагнуцца пазнаць свайго цара „дабрэнькага“.

Падумаў царок дабрэнькі,
Што вось Халімон старэнькі,
Гарадэцкі старшына,
На прозьвішча Забалотны
Мо аб, дзеткі, быў ахвотны
Спазнаць свайго цара.

Забалотнага нарадзілі ў пасольства, далі на дарогу грошы і паслалі ў Маскву засьведчыць цару сялянскую пакору і адданасьць. Па дарозе ад гарадка да Масквы герой поэмы асаладжаецца панскімі палацамі, любуецца дарагімі помнікамі на панскіх магілах і захлёбваецца волатам царкоўных кумпалаў у Маскве. Навакол яго, праз пяцьсот з лішнім вёрстаў—сапраўдны рай, без адзінага драбочку адмоўнага. Забалотны (Д.-Марцынкевічу тож) ня хоча бачыць ні мукі заняволеных сялян, ні глуму над імі з боку прыгоньнікаў-паноў, ні ўгону з боку паліцэйскае ўлады. Забалотны ня цікавіцца бедным выглядам вёсак, зморанымі тварамі прыгонных, не адчувае іх жыцьцёвае нэндзы, не заўважае дзікіх распраў і зьдзеку. Ды ці-ж гэта можа быць тады, калі

Крычыць на ўсё горла народ весяленькі,
Што навясьціць горад царочак дабрэнькі.

Д.-Марцынкевіч растае ў пацэсе з царскае пыхі, тоне ў прэсмыканьні перад вялікасьцю і бліскучасьцю царскаю, як адданая гаспадару чатырохногая служка.

А як рай за маткай, за царком паночкі,
Радня, энаралы, заморскі князёчкі,
Парадкам уедуць і места па чыне;
Ў залатых карэтах белыя княгіні,
А на іх брыльлянты, маўляў, на абравках.
Гэткая-ж дзіва чуваць толькі ў казках!.

Ахутаны рабскаю адданасьцю цару, Д.-Марцынкевіч вуснамі Забалотнага зводзіць „царскую ласку“ ў міласьлівае дбаньне цара аб народзе, аб мужыках.

Ён паляку, рускім, сынам Русі белай
Без выбару бацькай для грамады цэлай.
Яму-б са сьлязінай у ногі пакланіўся,
Прасіў да маліў-бы, вось пакуль дабіўся,

Што-б над мужычкамі шчыру меў апеку,
Вялеў справіць розум цёмну чалавеку,
Што-б дзетачак нашых чытаць навучылі,
Што-б бога на ксёнжках за цара малілі.

У прыведзеных словах поўнасьцю ўскрываецца і твар пісьменьніка прыгоньніка, апавяйцы раю паншчыны, цесна і фігуральна прымацаванай адным канцом да бога—другім да цара. Гэта трохпавярховая будыніна клясавага прыгнечаньня становіцца ідэалам Д.-Марцынкевіча. Яго ўвага поўнасьцю занята адным пытаньнем—прыцягнуць селяніна да гэтай будыніны, пераканаць яго ў яе сьвятасьці, у вечнай яе непахіснасьці. Фэўдальна-памешчыцкая Расія, на чале якое стаіць памазальнік божы, „бацька грамады цэлай"—вось куды накіроўваліся погляды нацыянал-дэмократычнага „народніка" Д.-Марцынкевіча. Ласьне можна парушаць гэту соцыяльную гармонію? Чаго хацець селяніну, апрача цара, які— „Быстрае вока ён, дзетачкі, мае. Анёльскае сэрца ў грудзях яго таець".

Забалотны за здароўе цара абедае, ён дрыжыць ласкаю і спагадаю да „добрага царочка"; ён марыць дастаць ад цара паперку, праз якую „на ўсё жыцьцё шляхціцам стане". Д.-Марцынкевіч добра разумее сугучнасьць клясавых інтарэсаў між дваранствам і самадзяржаўнаю ўладаю. За клясавыя прывілеі, якія дараваліся царом, Д.-Марцынкевіч ахвотна аддаваў і сваю польскасьць і свае пісьменства. Гэта нябольш, як прыдатак да тае паперкі, праз якую „на ўсё жыцьцё шляхціцам стане".

Як бачым, клясавыя інтарэсы сьціраюць усякія межы. Цар рускі— „бацька палякам, рускім і беларусам". Самадзяржаўна-памешчыцкі лад аднакава выгадны дваранству-зямляўласьніцтву ўсіх нацыянальнасьцяй. Д.-Марцынкевіч добра разумеў гэта і сьвядома праводзіў у сваіх творах апяваньне самадзяржаўнае пыхі, хваліў дабрабыт і бацькаўства цара, зьвязваў царскую волю з воляй бога.

Урачыстасьці каранацыі густа пераплецены з пыхаю касьцёльных модлаў—а над усім лунае гарачае замілаваньне Забалотнага, рабская прыніжанасьць вернае службе цару.

Што было ў касьцеле, сказаць вам ня ўстане,
Як там адбылося царка памазане,
Як хадзілі яны ў касьцёлы другія,
Ды як у палаты пашлі залатыя;
Баюсь рот разінуць,—вось дзеле сарому,—
Весьць аб тым расказы, баш, ня мне дурному.

Тут не праглядае ў Забалотным ні каліва гумару, як то стараліся давесьці некаторыя комэнтатары гэтага выразна монархічнага твору Д.-Марцынкевіча; наадварот, ён прасычаны шчыраю ўмільнасьцю. Каранацыя хвалюе яго, як адданага царскай уладзе чалавека. Забалотны (аўтар таксама) баіцца нават сваімі словамі расказаць пра бачанае ім, каб ні на каліва не ачарніць „сьвятасьці" бачанага. Апавяданьне Заба-

лотнага вялося з гэткім захапленьчем, што моцна кранула ўсіх слухаўшых яго. Калі ён скончыў казаць, дык

Усе выхвалялі царочка дабрэнька,
Усім баш на сэрцы стала весяленька.

Гэтым апавяданьнем Д.-Марцынкевіч хоча даказаць, апяяць непарушную гармонію ў адносінах цара да простага народу і апошняга да цара.

Не шкадуючы ружовых фарбаў, ён убіраў імі прыгоньніцка-самадзяржаўны лад і паказваў яго сялянству ў выглядзе божых ангельчыкаў. Сам-жа з усёй істотаю аддаваўся яго абароне, яго ўсхваленьню і ідэалізацыі.

Ды гэта натуральна і лёгічна. Сярэдняе і дробнае дваранства, адстойваючы свае клясавыя прывілеі, бачыла ў абсолютыцкім рэжыме Мікалая першага вярнейшага свайго апякуна. З гэтым усерасійскім жандарам яна зьвязала сваё далейшае панаваньне. Ня дзіва, што Д.-Марцынкевіч, як аполёгет яго, цьвёрдымі і роўнымі крокамі праходзіў свой шлях ад езуіта да зацятага царыста.

У другім сваім, яшчэ таксама ненадрукаваным творы „Травіца брат-сястрыца", у якім ідзе апяваньне добрага князя Барыса—праводзіцца Д.-Марцынкевічам усё-ж тая асноўная думка—паказаць дабрату і дбайлівасьць валадароў сьвету да сваіх нявольнікаў. Князь Барыс якраз уяўляе сабою ўзор гэткіх апякуноў. Пры ім быў сапраўдны рай для мужыкоў, куды ляпей за сучасны Д.-Марцынкевічу.

Чэсьць была ў хаці,—
Пан, мужык праўдай суліў...
Рэдка хто тагды с'умеў,—
Верылі ў казкі, дзівы,
Маліліся, як хто прысьпеў,
Ледзь дзесяты налучыўся,
Што рад кланяўся Хрысту.

А князь Барыс быў

Дарагім кладам дамашняй чэлядцэ,
Для мужыкоў бацькай,—усякі старацца
Аб панскае дабро сэрцам, дзеткі, рад!
Зато ў яга зямлі вялікі быў лад!

На прыкладзе Барыса Д.-Марцынкевіч стараўся маралізаваць сучасныя яму адносіны паміж прыгоньнікам і нявольнікам.

Ён не прамінае адвесьці віну за глум над прыгоннымі на аканома, падказаць на другарадную прычыну, але ні словам не заікаецца аб віне пана. Князь Барыс у „Травіцы брат-сястрыца"—ідэальны бацька сваіх сялян. Калі аканом

Разазліўся,
Да крыві з Данілам ён старым пабіўся
і мужык
Пажурыўся князю на сваю нядолю
І пажалеў Барыс верняка старога,
І прыказаў выгнаць са двара Батога.

Уся поэма густа перасыпана падобнымі мораламі і ўснашчана касьцельнаю сьвятасьцю.

Ня трэба казаць, якую паслугу рабіў Д.-Марцынкевіч свайму протэктару, дваранскаму зямляўласьніцтву, клерыкалізму і самаўладзтву гэтымі сваімі творамі.

Расцэненыя па заслугах перш далёкабачнымі адзінкамі, якія натхнялі Д.-Марцынкевіча на гэту працу, пазьней за яго творы хапіліся шырокія колы панства. Д.-Марцынкевіч, скардзячыся на недаацэнку сваіх паслуг для зямляўласьніцтва, скора цешыцца аказанаю яму ўвагаю. Яго творы чытаюцца па маёнтках, яму памешчыкі даюць грошы на іх выданьне, яго запрашаюць у госьці, як свайго чалавека. Польскі пісьменьнік А. Рустэйка зайздросьціць Д.-Марцынкевічу і называе яго „шчасьлівым“. Пасьля выданьня „Гапону“, „Вечарніц“ і „Купалы“—гэта падтрыманьне набывае шырокія формы. Нейкі памешчык Юліуш з двара Шчарова прысылае за Д.-Марцынкевічам чацьверку коні з запрашаньнем у госьці да сябе.

Сваю падарож да пана Юліуша і гасьціны ў яго пісьменьнік вылівае ў натхнёнае поэмацкае апісаньне. Яго захапляе аказаная яму ўвага на прыёме, абставіны, у якіх гэты прыём адбыўся, гонар і ўшанаваньне, выказаныя яму.

Зразумела, што пры гэткіх настроях, будучы ўсёю істотаю зьліты з прыгоньніцкаю клясаю, ацэнены ёю па заслугах, змагаючыся за яе інтарэсы, Д.-Марцынкевіч ніколі і ня думаў пра дабрабыт селяніна, і не заікаўся аб палепшаньні яго долі.

Селянін для Д.-Марцынкевіча быў об'ектам для ўгавору яго цалкам і поўнасьцю аддавацца ў распараджэньне пану, слухаць яго і выконваць яго волю. Іншых поглядаў на сялянства Д.-Марцынкевіч ня меў. Гэта, вядома, не перашкодзіла яму ў рэдкіх выпадках, паміж іншым, выраніць кракадзілаву сьлязінку аб бедным мужычку. Але ў гэтай сьлязінцы і пад мікраскопам не знайсьці пісьменьніцкіх спагады і спрыяньня да селяніна. Наадварот, Д.-Марцынкевіч нават не знаходзіў людзкага звароту да сялян, празываючы іх агідліва—„мужычкамі“. У слова „мужычкі“ ён выліваў усю сваю клясавую пагарду да селяніна, падкрэсьліваючы яго нікчэмнасьць перад дваранінам, патрэбную апошняму [illegible] яго сілу.

Яшчэ адна характарная рыса з творчай чыннасьці Д.-Марцынкевіча.

Гэта супаданьне яе з уздымам сялянскіх выступленьняў супроць зямляўласьнікаў. Як толькі была праведзеаа рэформа 1861 году, даўшая забясьпеку абшарніцтву для далейшага свайго панаваньня—Д.-Марцынкевіч заспакоіўся і кінуў пісаць.

Седзячы ў сваім маёнтку, ён асалоджваўся зямляўласьніцкім дабрабытам.

І вось гэта паказаная намі асоба Д.-Марцынкевіча, як пісьменьніка дваранскага стану, езуіта-клерыкала і выразнага царыста—ніяк не пера-

шкодзіла нацыянал-дэмократычным гісторыкам літаратуры ўзяць яго пад сваю ахову.

Надзяючы каўпак спагадніка да прыгоннага сялянства, апранаючы яго ў тогу народалюбца, нацыянал-дэмократы з дапамогаю нацыянал-опортуністаў падносілі чытачу ахарошанага ў народніцкі-сапраўднага прасычанага да мозгу касьцей, прыгоньніка-царыста.

Нават у апошні час катэдра гісторыі Беларускай Акадэміі Навук падрыхтавала да друку апошнія два апавяданьні Д.-Марцынкевіча „Халімон на каранацыі“ і „Травіца брат-сястрыца“, у якіх гэта асаблівасьць поўнасьцю ўскрыта.

Паглядзімо-ж, якім чынам складалася вакол Д.-Марцынкевіча легенда аб яго народніцтве і хто тварыў гэту легенду.

На першым месцы тут трэба паставіць проф. Доўнар-Запольскага [1]). Гаворачы аб поэме Д.-Марцынкевіча „Гапон“, проф. Доўнар-Запольскі кажа: „Марцынкевіч аддаў доўг свайму часу. Аднак дыдактызм яго аповесьці ўганяе і больш глыбокую мэту, чым адно простае нраванаўчаньне: жадаючы сваімі працамі прынесьці паможную карысьць як „панам“, гэтак і „хлопам“, аўтар мае ў выглядзе яшчэ і другую мэту“.

І далей: „Гледзячы ў той час на літаратуру, як на сродак для праведзеньня рознастайных ідэй, яны (пісьменьнікі) і звярачаліся да яе дзеля свае пропаведзі... Тагочасныя пісьменьнікі (пераважна, зразумела, мясцовыя беларускія і літоўскія нараджэнцы, якім бліжэй былі гэтыя пытаньні), навучаючы паноў, не разумелі прычын, у скутку якіх вынікала разьяднаньне мясцовых беларускіх і польскіх інтарэсаў“. Як бачым, проф. Доўнар-Запольскі выразна залічае Д.-Марцынкевіча да тых, хто „жадае сваімі працамі прынесьці паможную карысьць як „панам“, гэтак і „хлопам“. Але, бачыце, бяда ў тым, што пісьменьнік не разумеў прычын, „у скутку якіх вынікала разьяднаньне мясяцовых беларускіх і польскіх інсарэсаў“. Будучы ярым вялікадзяржаўным западна-русам, проф. Доўнар-Запольскі стараўся выкарыстаць Д.-Марцынкевіча ў мэтах русыфікатарскае політыкі на ўскраінах. Выходзячы з гэтага, ён паказвае нам пісьменьніка, як ворага [illegible]ольскага панства, але прыхільніка беларускага [illegible]нсэ.

[illegible] мацаваць гэтую сваю концэпцыю, Доўнар-Запольскі першы [illegible]вае Д.-Марцынкевічу вядомы верш пакуль невядомага аўтара „Вясна—голад перапала“. Гэты верш па сваім зьмесьце мала розьніцца ад усякае творчасьці Дуніна-Марцынкевіча. Аднак некаторыя ўложаныя ў яго думкі кажуць за спробу аўтара вершу крыху ў іншым аспэкце, чым Дунін-Марцынкевіч, глядзець на прыгоньніцтва. У гэтым вершы зычаць крохкія ноткі апяваньня вызваленьня сялян. „Перастануць нашым братам, як скацінай таргаваць“. Мужык будзе не скацінай—чаго

---

[1]) М. В. Доўнар-Запольскі. „Исследования и статьи“, т. І. Изд. А. П. Сапунова, Киев, 1904 г.

зусім няма ў творах Д.-Марцынкевіча. Спыняючыся на гэтым вершы, пазьнейшы тэорык нацыянал-дэмократызму ставіць кропку над народніцтвам Д.-Марцынкевіча.

„Але канцовай мэтай яго жаданьняў, аб чым ён мог пісаць, але ня мог у той час друкаваць,—гэта было поўнае вызваленьне сялян ад прыгоньніцкага ярма. Што іменна гэта мэта складала заветную мару Марцынкевіча, відаць з аднаго нявыданага вершу, які мы, карыстаючыся выпадкам, тут і прыводзім“.

Зьмясьціўшы далей памянёны намі верш без належных на тое комэнтараў, Доўнар-Запольскі заключае: „Дык вось канцовае жаданьне поэты—гэта воля селяніна“. „Галоўнае, перакazваем, што натхняла леру поэты, гэта бескарысная любасьць да селяніна, жаданьне прынесьці карысьць асабова і падштурхнуць да таго-ж другіх; нарэшце, ён адчуваў і сябе частачкаю гэтага вагромнага „сьвету“ (сялянскага)“.

Сьледам за бессупярэчнай прыпіскай Д.-Марцынкевічу вершу „Весна, голад перапала“,—Доўнар-Запольскі безапэляцыйна адносіць да твораў Д.-Марцынкевіча і вядомую поэму „Тарас на Парнасе“.

Гэтыя погляды, упарта абстойваныя арыгінальным тыпам гісторыка заxадна-руса, перароджанага ў тэорэтыка нацыянал-дэмократызму, аднačасна служаць цэмантуючым сродкам у сувязі ідэолёгічна-сваяцкіх буржуазных плыняў, выцякаючых з аднэй дваранска-клясавай крыніцы—гэта русыфікатарска-чарнасотніцкага краёўства і беларускага нацыянал-дэмократызму.

Погляды Доўнар-Запольскага акурат прышліся да густу беларускім нацыянал-дэмократам і яны цалкам палажылі іх у аснову сваіх концэпцый у досьледах і вывучэньні Дуніна-Марцынкевіча і яго творчасьці.

У 1910 годзе адбылося 25-годзьдзе з дня сьмерці Д.-Марцынкевіча. З гэтай прычыны „Наша Ніва“ ў нумары сорак восьмым прысьвяціла яму ажно чатыры артыкулы. Аўтар аднаго з гэтых артыкулаў, Р. Зямкевіч, дае наступную характарыстыку Д.-Марцынкевічу: „Значэньне Марцынкевіча для беларускай літаратуры ды народнага адраджэньня аграмадная. Ён ужыўся ў душу простага селяніна, зразумеў яго думкі, яго гора, яго тайныя душэўныя жаданьні, палюбіў яго горача і ўвесь свой літаратурны талент пасьвяціў падняцьцю яго да лепшага, людзкога жыцьця, каб цёмны, загнаны, забіты беларус мог свабодна аджыць і разьвівацца ў лепшай долі. Праз усе творы Марцынкевіча праходзіць цягнецца, быццам чырвоная нітка, яго праўдзівы дэмократычны погляд, які апіраўся на шчырым зразуменьні патрэб і жаданьняў беларусоў, каторых ён любіў усім сэрцам і душой“.

Гэта ўсхваленьне Д.-Марцынкевіча, гэта яго ідэалізацыя, як „народніка-беларуса“, будзе больш зразумелай, калі мы кранем аналізам тую эпоху, у якую пісаліся гэтыя гімны.

1910 год трэба лічыць годам цьвёрдага ўсталеньня буржуазнага нашаніўскага адраджанізму. Апошні выкрышталізоўваўся ў акрэсьленую

нацыяналістычна-буржуазную плынь, шукаючы для сябе абгрунтаваньня ў гістарычным мінулым. Па лініі пісьменства больш, як дзе можна было штукаваць тэорыі гістарычнай пераемсьцьвенасьці. XIX стагодзьдзе, даўшае плеяду польска-шляхецкіх пісьменьнікаў краёўцаў, як найлепш спрыяла нацыянал-дэмократычнаму штукаваньню і падтасоўцы гістарычнай непасрэднасьці. Але, разам з тым, аднэй гістарычнай непасрэднасьці для беларускіх буржуазных адраджэнцаў не хапала. Ім важней было прыпаднесьці пакаленьню сваю дзейнасьць у адэмократызаванай афарбоўцы. Беларускія адраджэнцы імкнуліся абгрунтоўваць на працяганай імі тэорыі аднаклясавасьці і соцыяльнай адналітнасьці беларускага насельніцтва ўсе свае тэорыі. Абмежаваць гэту адналітнасьць кароткаю эпохаю нашаніўства—ня мела соліднасьці і рацыі. Трэба было яе працягнуць і ў мінулае, у гісторыю. І нацыяналістычна-буржуазныя адраджэнцы падтасоўваюць эпохі і людзей пад свой нацыянал-дэмократычны ранжыр. Перацягаючы з лягеру польска-зямляўласьніцкага асяродзьдзя ў лягер беларускага адраджанізму рад польска-краёвых дзеячоў (Чачот, Сыракомля, Дарэўскі, нават Манюшка і Ожэшка) і ў тым ліку Д.-Марцынкевіча, яны зводзілі іх да народнікаў-дэмократаў, вартых папярэднікаў братоў Луцкевічаў, Зямкевічаў, памешчыкаў Іваноўскіх... Такім чынам сувязь набірала знадворную афармоўку і паступова ўваходзіла ў гістарычную нацыянал-дэмократычную схэму.

Ідэолёгічны пасьлядовец Д.-Марцынкевіча, памешчык і быўшы грамадавец В. Іваноўскі ў сваім артыкуле ў тым-жа нумары „Нашай Нівы" ўзводзіць свайго вартага папярэдніка ў нейкага нацыянальнага героя і прарока, пры гэтым прарока працоўных сялянскіх мас: „Вінцук Д. Марцынкевіч быў шчыры сын нашай бацькаўшчыны—Беларусі,—піша В. Іваноўскі:—Хаця ён і радзіўся сярод шляхты і паноў, у той час ужо добра спольшчаных, вырас ён ня панскім-шляхецкім сынком, а сынам усёй зямлі—роднай. Ён любіў яе, нашу родную зямельку, любіў і народ, што твар зямлі плугам, бараною дзярэць і, калі думаў аб добрым краю, то прад яго вачыма станавіліся тысячы мужыкоў-працавікоў. І таму-то ўсе думкі аб лепшай долі краю лётаюць, трапечуцца каля палепшаньня долі беларуса-мужыка. А палепшыць долю мужычую можна было двуяка: першая—зьняволіць паноў, у руках каторых была ўся доля і нядоля мужычая, зрабіць што-кольвек для мужыкоў, другая—асьвяціць самога мужыка, даць яму навуку і тым памагчы яму выбівацца з нядолі. З гэтых двух дарог пясьняр ня зьбіваецца ўсё сваё працавітае жыцьцё".

Гэта бессаромная ідэалізацыя Д.-Марцынкевіча не знаходзіць сабе прыкладу ў гісторыі. Аўтар артыкулу абсолютна ня лічыцца ні са зьместам творчасьці пісьменьніка, ні з яго соцыяльным паходжаньнем, і голаслоўна, з паветра, суча яго характарыстыку, як найдасканалейшага барацьбіта за інтарэсы беларуса-мужыка. Трэба мець распранутую бессаромнасьць і нахабнасьць зацятага фальсыфікатара фактаў, каб так адчынена і няпрыкрыта перакручваць гэтыя факты. Але тут справа,

зразумела, не ў пераўраньні фактаў,—справа ў разьвіцьці і ў абароне нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі.

М. Гарэцкі ў сваёй „Гісторыі беларускае літаратуры“ ў крыху завуаляванай форме пераказвае думкі В. Івапоўскага. „Трэба адзначыць тую памяркоўную бесстаранасьць, з якой Д.-Марцынкевіч малюе адваротныя стораны прыгоннага жыцьця, хаця карэнь зла шукае і ня там, дзе трэба. Гэта яшчэ большая заслуга, дзеля таго, што нават паступовыя сучасьнікі рабілі яму закіды за „нагату жыцьця“,—піша ён. Гэту нацягнутую на Д.-Марцынкевіча нац-дэмаўскую „народнасьць“ Гарэцкі прыхарошвае нацыяналістычнымі сэнтэнцыямі, што ў яго разуменьні асабліва каштоўна: „Бацькі (Кацярыны—поэма „Гапон“)—Мірон і Ўсьціньня, і Грыпіна апісаны кароценька, але ўдачна, з пэўнасьцю, што гэта старыя беларускія бацькі“. Гарэцкі шкадуе, „што ў кірунку „Стаўроўскіх дзядоў“ Марцынкевіч не разьвіўся. Тут быў-бы вялікі прастор для яго сантымэнтальнай романтычнасьці і карысьць для нашай чыста-нацыянальнай творчасьці. У „Стаўроўскіх дзядох“ у Д.-Марцынкевіча найболей і выяўляюцца пачаткі сьвядома-нацыянальнага чуцьця, хоць, так сказаць, надворна (крывічы-беларусы, слаўны крывіцкі князь Грамабой, гаспадарсьцьвенная тэрыторыя і г. д.). Не натуральна толькі, што аб гэтым апавядае аўтар не сам ад сябе, а ўкладае гістарычна-міфолёгічную веду ў вусны неадукаванага Ананіі“. Яшчэ нацыянал-дэмократычны гісторык бачыць заслугу Д.-Марцынкевіча і ў тым, што пісьменьнік аднаўляе ў сваіх творах словы з беларускай „залатое пары“. Вось гэтыя падабраныя і нацяганыя нацыянал-дэмокр. якасьці Д.-Марцынкевіча і служылі нацыянал-дэмократычнаю шырмаю для таго, каб з дадаткам да іх народніцкіх пачуцьцяў аўтару зрабіць яго з наяўнага прыгоньніка—замілавальнікам „простага народу“. Як-жа, сапраўды, каб дэмократычная „адналітная беларуская нацыя“ магла мець у сваёй сям'і панскага паслугача і ідэолёга? Ніколі! Не здарма-ж ідэолёгі адраджанізму з замілаваньнем прымалі ў сваю сям'ю „прыяцеляў беларускага мужыка“: княгіню Радзівіл, памешчыкаў Ваніловіча, Булгака, Аколава, епіскапа Шаптыцкага; не здарма-ж, пазьней, беларускія нацыянал-дэмократы так цесна схаўрусаваліся з памешчыкамі Скірмунтам, Вярнікоўскім і інш. І прымаючы і хаўрусуючыся—мелі нахабнасьць упарта пераказваць аб адналітнай сялянскасьці Беларусі, аб адсутнасьці сярод беларусоў памешчыкаў.

І Д.-Марцынкевіч, заядлы клерыкал і царыст, адкупны зямляўласьніцкага абшарніцтва, вылазячы з сябе ў стараньні спаралюшаваць сярод сялянства пачуцьцё клясавай нянавісьці і помсты да сваіх прыгнятальнікаў—гэты Д.-Марцынкевіч апынуўся ў ролі сялянскага прарока.

М. Гарэцкі сьледам за Доўнар-Запольскім і з тою-ж мэтаю, што і ён, прыпісвае верш „Вясна, голад перапала“ Д.-Марцынкевічу.

Але для Гарэцкага важней тое, што: „Пісьменьнік дужа любіў беларускую прыроду і беларускае жыцьцё і надта добра ведаў сялянскі

побыт". Чаго-ж, па Гарэцкаму, больш жадаць? Нацыя—як цэлая самамэта. У імя нацыі павінна ахвяраваць і клясавым змаганьнем і соцыяльным вызваленьнем працоўных. Навошта-ж вымагаць ад якога-колечы Д.-Марцынкевіча соцыяльнага зьместу ў яго творчасьці? Ён-жа, „як сторож, стаў сьмела на варце радзімых запушчаных гоняў, стаў сеяць па-свойску ўсё тое, што мы далей сеем сягоньня"—казаў Я. Купала.

Гэта характарыстыка Д.-Марцынкевіча застаецца непахіснай і ў другіх нацыянал-дэмократычных аглядчыкаў яго творчасьці. Яна абараняецца, як ісьціна, як нацыянал-дэмократычны сьцяг і набывае стандартнасьці, часам толькі злёгку, у паасобных штрышкох, відазьмяняючыся, але ўпарта захоўваючы сваю прынцыповую сутнасьць.

У зборніку „Дыямэнты", выданым у 1919 годзе ў Кіеве, аўтар уступнага артыкулу, Лявон Леўш, празывае Д.-Марцынкевіча „праўдзівым бацькам беларускага сучаснага пісьменства. Ён (Д.-Марцынкевіч) трымаўся тое думкі, што пясьняр сваімі творамі павінен будзіць у чалавеку лепшыя стораны яго душы, што, зьвяртаючы ўвагу чытачоў на тыя ці іншыя крыўды, якія робяцца простаму народу, магчыма зьніштожыць іх, што, урэшце, твор пісьменьніка мусіць намаўляць і заахвочваць „нашага беларускага мужыка і бедную шляхту да навукі". Марцынкевіч апроч гэтага вельмі кахаў свой родны край, любіў просты народ, спагадаў яго цяжкай долі і з усіх сіл сваіх стараўся праканаць памешчыкаў-прыгоншчыкаў, што мужык ёсьць такі самы чалавек, як і яны. Спагадаючы вясковаму люду, Марцынкевіч надта добра звучыў яго жыцьцё-быцьцё, усе звычаі і мову".

„Бацькам" беларускага сучаснага пісьменства называе Д.-Марцынкевіча не адзін Леўш. У сваім артыкуле, прысьвечаным 20-гадоваму юбілею Янкі Купалы („Сав. Бел." ад 1925 г.) Ул. Чаржынскі вялічае Д. Марцынкевіча і Ф. Багушэвіча волатамі беларускае літаратуры, асноўнымі яе слупамі, праз якія толькі і можна, абмінаючы ўсіх і ўсё, перакрочыць з „залатое пары" да Янкі Купалы, „які доўгія гады ўвасабляў у сабе беларускую літаратуру".

Гэта схэма беларускіх нацыянал-дэмократаў у літаратуразнаўстве служыла ім ня чым іншым, як пляцдармам у змаганьні з разьвіцьцём беларускае пролетарскае літаратуры. Прасачыўшы нацыянал-дэмократычныя выкладкі, мы можам выявіць выразную, простую лінію, якую старанна праводзілі нацыянал-дэмократы ў мэтах падзелу беларускае літаратуры на беларускую і савецкую, бальшавіцкую. У гэтым напрамку яны працавалі з тэю зацятасьцю, на якую вымагала іх контррэволюцыйная чыннасьць па ўсім культурным фронце. Але гэта павінна будзе служыць тэмай для асобнай працы; гісторыя з Д.-Марцынкевічам—найболей выпуклы эпізод з угрунтаванай нацыянал-дэмократычнай концэпцыі.

Нявольны ад падзелу гэтае концэпцыі і проф. М. Піотуховіч. У сваёй працы „Нарысы гісторыі беларускай літаратуры" (частка першая)

ён падае нам портрэт Д.-Марцынкевіча ў асьвятленьні пералічаных вышэй нацыянал-дэмакратаў. Адводзячы ў сваёй працы паважнае месца для разгляду творчасьці Д.-Марцынкевіча, проф. М. Піотуховіч амаль абыходзіць яе клясавую сутнасьць. Ён больш усяго спыняецца на разглядзе формальнага боку творчасьці, як-бы баючыся выкрыць пясьнярскае *я*. Але там, дзе гэта спрабуецца рабіцца, мы сустракаем пераказ нацыянал-дэмакратычных поглядаў на „бацьку“ беларускай... нацыянал-дэмакратычнай літаратуры.

Адмячаючы Дунін-Марцынкевічаву „сфабрыкаванасьць і размалёванасьць“, „суровае і трагічнае па сваёй сутнасьці прозы жыцьця“, прыпамінаючы мімаходзь аб тым, што „ў такім аднабокім скрыўленьні жыцьцёвай праўды досыць яскрава выяўляецца клясавая сутнасьць творчасьці Д.-Марцынкевіча, падказваючы на поэтаву рэлігійнасьць— проф. М. Піотуховіч, аднак, не дае нам сапраўднага твару Д.-Марцынкевіча, як дудара прыгоньніцтва, клерыкала-монархіста, ідэолёга эксплёататарскага стану зямляўласьніцкай шляхты. Болей таго—Д.-Марцынкевіч па проф. М. Піотуховічу, калі і не прарок, як у В. Іваноўскага, то народнік (народалюбца) гуманіст—бясспрэчны.

Праўда, у проф. М. Піотуховіча „Дунін-Марцынкевіч наверваецца выходзіць з гэтай позыцыі чыстага і бесстароньняга народалюбца“, але... „самая галоўная загана яго творчасьці ёсьць у ідэалізацыі панства. Калі ён імкнецца падгледзіць сьветлыя рысы селяніна, то яшчэ ў вялікшай ступені абмалёўваецца ім добрачыннасьць паноў“. Між тым, у Д.-Марцынкевіча толькі „часам выяўляецца тыпова шляхецкі нахіл пасьмяяцца над селянінам, вывесьці яго на зьдзек, як істоту дурную і сьмешную“. Аднак і гэтыя „часовыя“ мудрагельствы прыгоньніцкага падхаліма гінуць пад тым, што і ў Д.-Марцынкевіча „пачыналі ўжо выказвацца сантымэнтальна-гуманныя адносіны да мужыка. Ён спачувае народнаму гору, імкнецца паказаць нам сьветлыя бакі селяніна, глыбока чалавечыя струны яго душы; часам у Д.-Марцынкевіча заўважваецца нават некаторая ідэалізацыя селяніна, асабліва любіць ён ідэалізаваць сялянскую жанчыну... Гэты ідэал... уяўляе сабой тыповыя патрыархальна-шляхецкія погляды на жанчыну, але надзвычайна характарна, што ўвасабленьне данага ідэалу зьяўляецца сялянская жанчына, а не якая-небудзь іншая“. У лепшым выпадку—Дунін-Марцынкевіч па проф. М. Піотуховічу,—народнік-утапіст, які хацеў дабра простаму народу, але ня ведаў, як яго зрабіць...

Паказаная намі нацыянал-дэмократычная концэпцыя ў поглядах на Д.-Марцынкевіча знашла сабе падтрымку і з боку нацыянал-опортуністаў. „Калі мы ўглядаемся ў творы Марцынкевіча, то адразу бачым, што перад намі пясьняр-народнік“,—піша ў сваей „Гісторыі Беларусі з XIX і ў пачатку XX стагодзьдзя“ У. Ігнатоўскі. „Об'ектам яго творчасьці зьяўляецца просты беларускі люд і наогул вёска. Па свойму ён любіць беларускага селяніна, добра ведае яго побыт, гора і радасьці,

і шчыра жадае палепшаньня цяжкай долі яго". Чаго-ж болей чакаць ад пісьменьніка XIX стагодзьдзя? Ды яшчэ ад шляхціча? Перад намі, згодна поглядаў У. Ігнатоўскага, закончаны ваяк за просты люд. „Часам Марцынкевіч асьмельваецца патрабаваць ад паноў, каб яны ня толькі ў імя карысьці сялянства, але і для сваёй карысьці зьвярнулі ўвагу на селяніна, на яго працу і цяжкую долю. А ў адным з вершаў („Вясна, голад перапала") аўтар дайшоў нават да такой сьмеласьці, што загаварыў аб волі для прыгнечанага селяніна... Цікава тое, што наогул рахманае і далікатнае народніцтва Д.-Марцынкевіча спатыкае опозыцыю ў шляхецкіх колах".

Гэткая атэстацыя, само сабою зразумела, магла поўнасьцю здаволіць любога нацыянал-дэмократа. Д.-Марцынкевіч—народнік і, як „бацька беларускае літаратуры", цесна і непасрэдна зьвязаны з усёй беларускаю літаратурай ад часоў Васілёў Цяпінскіх да апошніх дзён. Нацыянал-дэмократам больш нічога ня трэба. Ім трэба супроцьставіць Д.-Марцынкевічаў і іх творчасьць—творчасьці, народжанай вялікім Кастрычнікам. Ім трэба даказаць прававаськь свае рэакцыйнае тэорыі аб самабытнасьці ў разьвіцьці беларускае культуры, у нязьвязанасьці яе з агульнасоцыяльнымі законамі грамадзка-экономічнага разьвіцьця.

Згодна нац-дэмаў Беларусь мае свой асаблівы закон разьвіцьця, які ня мірыцца з соцыяльнай рэволюцыяй Кастрычніка, а вымагае нацыянал-дэмократычнага, буржуазнага шляху. Тут-жа і вывады—бальшавізм—гэта нешта чужое (кацапскае), наноснае, ня ўсвойнае для беларускага народу. І сьледам—нацыянал-дэмократычная лёгіка—змагайся супроць Кастрычніка, супроць справы рабочае клясы, супроць соцыялістычнага будаўніцтва. Паварочвай да заходу, у бок Польшчы, гатуючы глебу для прыходу „гаспадара зямлі беларускай Я. Пілсудзкага".

Нічога дзіўнага, што характарыстыку творчасьці Д.-Марцынкевіча, зробленую Ігнатоўскім, бяз усякіх агаворак нацыянал-дэмократ У. Чаржынскі поўнасьцю зьмясьціў у зложаным ім падручніку „Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.".

Не зрабіў нічога і я для таго, каб разьбіць нацыянал-дэмократычную концэпцыю на народнасьць Д.-Марцынкевіча. Наадварот. У сваіх нарысах па гісторыі беларускай літаратуры я аддаваў Д.-Марцынкевічу вялікую ўвагу, як аднаму з першых выдатных беларускіх пісьменьнікаў. Называючы яго шляхцічам і панам, які звысока глядзеў на селяніна, я, тым ня меней, не паказаў з усёй паўнатою клясавай сутнасьці яго твораў, ня выявіў яго дваранска-зямляўласьніцкай прыгонна-абароннай ідэолёгіі. У сваім артыкуле „Беларускае пісьменства" (зб. Беларусь", 1924 г.) я так характарызую Д.-Марцынкевіча: „Шмат пладавіцейшым за іх (Я. Чачот, А. Рыпінскі і Я. Баршчэўскі), можна сказаць, першым сапраўдным беларускім песьняром быў В. Дунін-Марцынкевіч. Апошні адразу рашуча пераходзіць да пісаньня на беларускай мове, бо пераконваецца, па яго словах, што „беларускі селянін, бачучы кніжку на роднай

мове, ахвотней яе чытае і дзетак сваіх ахвотней прыцягвае к асьвеце". („Дудар беларускі"—прадмова). В. Д.-Марцынкевіч паходзіць з шляхтаў-арандатараў, асьвету дастае ў Пецярбурзе і пасьля становіцца чыноўнікам каталіцкай консысторыі ў Менску. Бяручы на ўвагу, што радня яго таксама была духоўнага роду, В. Д.-Марцынкевіч увесь час адчуваў на сабе духоўна-хрысьціянскі ўплыў, які выяўна адбіўся на яго падыходзе да простага народу. Некаторая зацікаўленасьць ідэямі 40-гадоў, багатых рэволюцыйнымі падзеямі ў Заходняй Эўропе (француская рэволюцыя 48 году, нямецкая рэволюцыя таго-ж году, польскае паўстаньне 31 году і г. д.), усё-ж патроху нахіляе Марцынкевіча к народніцтву, аднак шляхецкая мяшчанскасьць упарта прытрымоўвае поэту ў рамках „гжэшнасьці". І ён глядзіць на мужыка-беларуса, як і яго таварышы, з пачуцьцём спагады. Пад кутом гэтага пачуцьця і разьвіваецца яго творчасьць. Як відаць з апошняе, В. Д.-Марцынкевіч ня бачыць ніякае клясавае супярэчнасьці ў адносінах між панамі і запрыгоненымі мужыкамі. Калі і ёсьць якія шурпатасьці ў сялянскім жыцьці, то, па ягонаму, віною гэтаму не паны. Нават, трэба сказаць, што яму мала ўдаецца бачыць чорных плям у сялянскім жыцьці. Мужык часта п'е, весяліцца, грае вясельле, рабіць дажынкі і вясёлы—чаго-ж хацець? Прыгон—то асоб стацьця. За мукі селяніна можна пашкадаваць, паспагадаць яму".

Гэту сваю нацыянал-опортуністычную характарыстыку, цесна змыкаючуюся з нацыянал-дэмократычнаю концэпцыяй, я паўтараю і ў другім сваім артыкуле („Прасторы"—этапы разьвіцьця беларускай літаратуры) у наступным зьмесьце: „Дунін-Марцынкевіч, ня гледзячы на яго шляхецкае паходжаньне і выхаваньне ў умовах польскае культуры, апошняю мала цікавіўся. Яго захоплівае жыцьцё беларускага селяніна, якому В. Дунін-Марцынкевіч і прысьвячае сваю літаратурную творчасьць. Гэтаму спрыяе ў значнай меры ўдзел беларускага сялянства ў польскім паўстаньні 1863 г. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

Аднак, соцыяльныя і нацыянальныя моманты, унесеныя Каліноўскім у змаганьне беларускіх сялян супроць расійскага самадзяржаўя і польскага панства, мала закранулі Д.-Марцынкевіча. У яго багатай літаратурнай спадчыне мала знойдзем падкрэсьліваньняў клясавых адносін сялянства і памешчыкаў, а тым больш—паміж рамесьнікамі і іх гаспадарамі-прадпрыемцамі".

Прыпісваючы, як і нацыянал-дэмократцкія гісторыкі, Д.-Марцынкевічу верш „Вясна, голад перапала", я хапаюся за яго з мэтаю паглыбіць у творчасьці Д.-Марцынкевіча соцыяльныя мотывы і падагнаць яго пад народніка. „У гэтым вершы В. Дунін-Марцынкевіч паказвае нам соцыяльныя бакі беларускага сялянскага жыцьця выключна ў шляхецкім праламленьні. Але па таму часу і гэтага было дастаткова. Тым болей, што сам В. Д.-Марцынкевіч цалкам быў пад клерыкальным уплывам, панаваўшым вакол яго з дзяцінства. За гэтым ён мала аддаваў увагі

і беларускім нацыянальным мотывам, якія былі цесна пераплецены з мотывамі соцыяльнымі. Тым ня меней значэньне Д.-Марцынкевіча ў беларускай літаратуры значна большае, ніж усіх яго папярэднікаў". „Мёртвы хапае жывога". Пакідаючы Д.-Марцынкевіча ў лягеры шляхецка-клерыкальным, адмаўляючы яго спагаду да мужыка, я разам з гэтым надаю поэту зацікаўленасьць сялянскім жыцьцём і ні словам не ўспамінаю, у якім разрэзе выглядае гэта зацікаўленасьць. Я, таксама, як і нацыянал-дэмократы, прыпісваю Д.-Марцынкевічу асабліва значную ролю ў разьвіцьці беларускае літаратуры, прыдаю яму прэслаутае „бацькаўства" яе. Выдзяляючы яго з рубрыкі народнікаў, я, тым ня меней, не паставіў Д.-Марцынкевіча на належнае месца акрэсьленага ідэолёга-змаганьніка за інтарэсы зямляўласьнікаў. Я не паказаў, чым гэты пясьняр прыгоньніцтва кіраваўся, праліваючы зрэдку кракадзілавы сьлёзы пра цемнату мужыка. У гэтым хаваюцца мае спробы ныведіраваць гісторыю беларускае літаратуры пад нацягнутае нацыянал-дэмократамі народніцтва. „Мёртвы хапае жывога". Мае супярэчлівыя разважаньні аб клясавай існасьці творчасьці Д.-Марцынкевіча падпіралі сабою шкодныя творыі нацыянал-дэмократаў...

Гэткім чынам халат народніка на плячох прыгоньніка вісеў непарушна да апошняга часу. Д.-Марцынкевіч падносіўся нацыянал-дэмократамі з дапамогаю нацыянал-опортуністаў чытачу ў ружовым асьвятленьні народалюбца, слупа (бацькі) беларускае літаратуры, выяўніком перадавых думак свайго часу. На гэтай падставе ад яго пачыналі новую эпоху ў гісторыі беларускае літаратуры, якую ўвязвалі з новай, кастрычніцкай эпохі, літаратурай.

Згодзімся, што для поўнага высьвятленьня асобы Д.-Марцынкевіча нералічаным аглядчыкам яго творчасьці нехапала пад рукамі нова знойдзеных твораў поэты—„Халімон на каранацыі" і „Травіца, брат-сястрыца". Апошнія пралілі больш яскравае сьвятло на Д.-Марцынкевічу істоту. Яны выявілі ў асобе Марцынкевіча, што і можна было дапускаць, у дадатак да прыгоньніка-двараніна—яшчэ прыгоньніка-монархіста. Пры гэтым монархічныя яго погляды бралі сабе ў ахвяру і нацягнутую беларускасьць пісьменьніка. Але, і без новаадшуканых твораў одыёзнасьць Д.-Марцынкевіча, як наяўнага апявайцы і абаронцы эксплёататарскае клясы прыгоньнікаў—была зусім рэльефнай. Тым ня меней і новыя творы ня далі штуршка распрануць, нарэшце, нацыянал-дэмократычны халат з плеч Д.-Марцынкевіча. Наадварот, інстытут літаратуры БАН пастараўся зашпіліць яго, як найшчыльней. Адшуканыя апавяданьні Д.-Марцынкевіча „Халімон на каранацыі" і „Травіца, брат-сястрыца" занялі пачэснае месца ў нарыхтаваным інстытутам зборніку па гісторыі літаратуры. І ў артыкулу проф. І. Замоціна, якім справодзяцца памянёныя творы Д.-Марцынкевіча, мы не знаходзім і намёку на выяўленьне іх рэакцыйна-монархічнае сутнасьці. Ніяк! Апавяданьне „Халімон на каранацыі", дзе, як мы бачылі, падаецца нам у самай яскравай форме поўзаньне

героя апавяданьня, Забалотнага, перад царом, дзе ўсхваляецца царская пыха, узносіцца царская дабрата, даюцца ўказаньні аб бессупярэчлівай пакоры цару, як бацьку, прасоўваецца цеснае клясавае зьвязаньне між шляхтай і царскаю ўладай—гэта апавяданьне характарызуецца проф. І. Замоціным, як конкрэтная і дэталёвая перадача Забалотным сваіх уражаньняў „ад розных сустрэч, падзей, здарэньняў і сцэн, якія разгарнуліся перад ім, Забалотным, у дні маскоўскай урачыстасьці. Пасьля яго расказу ўсе разышліся па хатах“. Ціха і гладка. Поўная аўтарская нявінасьць. „Расказ вядзецца ад асобы старшыні Халімона Забалотнага. Ён стаіць у цэнтры ўсіх падзей, якія разгорнуты ў апавяданьні, і яго ўспрыйманьне навакольнай рэчаіснасьці вызначае клясавую прыроду гэтага твору. Халімон Забалотны—заможны гаспадар і, як гэткі, ён зьяўляецца носьбітам тэй-жа самай псыхоідэолёгіі аўтара, Дуніна-Марцынкевіча, г. зн. псыхоідэолёгію дробна-маёнткавага шляхціца—кажа проф. І. Замоцін.

Аднак ён ня хоча падрабязьней спыніцца на выкрыцьці гэтае псыхолёгіі, якая ў даным апавяданьні набывае закончаную псыхолёгію монархіста. Ніводнага конкрэтнага прыкладу, малюючага гэту псыхолёгію з вялікае колькасьці апошніх у „Халімон на каранацыі“, проф. І. Замоцін ня прыводзіць. Ён спыняе ўвагу чытача на дробных, другарадных эпізодах, у якіх зусім не паказана сутнасьць псыхоідэолёгіі пісьменьніка ў монархічнай інтэрпрэтацыі... Болей таго, проф. І. Замоцін уціскае яе вострую выпукласьць у рамкі „псыхоідэолёгіі і дробна-маенткавага шляхціча“, які мае і „некаторыя свае дэмократычныя настроі“.

Цяжка, вельмі цяжка пагадзіць апошнія з сапраўдным, монархічным настроем Забалотнага, так квяціста паказаным у яго захапленьні каранацыяй. І яшчэ цяжэй згадзіцца з вывадамі проф. І. Замоціна адносна таго, што Д.-Марцынкевіч у „дабрадушна-жартаўлівым выглядзе падае чытачу і дэмократычныя мары свайго героя, Забалотнага, аб тым, што яму, „вот-бы хацелася зблізку падзівіцца добраму царочку з ім разгаварыцца“ і прасіць, „што-б над мужычкамі шчыру меў апеку, вялеў справіць розум цёмну чалавеку“. Цікава дэмократычнасьць, якая выказваецца ў просьбе перад царом, каб ён меў над мужычкамі апеку! Якая прызывае цара „добранькім царочкам“! Нельга згадзіцца з тым, каб Д.-Марцынкевіч па-свойму не разумеў царскае дабраты ў адносінах да прыгоннага сялянства і, тым болей, царскае апекі над сялянствам і ня тлумачыў яе па-свойму. Тут ужо далёка ад „наіўна-ліберальных разважаньняў Забалотнага“, ад яго „напоўсур'ёзнай, напоўгіронічнай жальбы на тое, што ён і не дачакаўся таго часу, калі „добры царочак“ „з Забалотным рады чыніць стане“.

Даволі рызыкоўным дапускаць думку, што з-за гэтых прычын „цэнзура не дазволіла друкаваць іменна гэтага апавяданьня“. Ды ці, наогул, яно пападала ў цэнзуру? Апавяданьне, якое, фактычна, зьяўляецца гімнам царызму і разам цэнзураю не дапускаецца да друку—сапраўды, нешта

падобнае на цуда. Апавяданьне і тон, у якім яно Забалотным расказана, і ўражаньне, зробленае на слухачоў, поўнасьцю сьведчаць пра гэта. Слухачы зусім не па праф. І. Замоціну—„пасьля расказу разышліся па хатах", як бы нічога ня бывала. А калі

Кончыў Забалотны расказы шчасьліва,
Глянуў кругом важна, выпіў шклянку піва,
Усе выхвалялі царочка дабрэнька,
Усім баш на сэрцы стала весяленька.

Да гэтага і імкнуўся Забалотны, а праз яго Дунін-Марцынкевіч.

Апавяданьне іменна і ўганяла мэту ўчыненьня належнага ўплыву на слухачоў, прыгарненьня іх да выхвалы „царочка дабрэнька". Дунін-Марцынкевіч знарок пабудаваў сваё апавяданьне ў мэтах паказу перамогі вернападданіцкага пачуцьця сялян да цара. У гэтым іменна закончана і выяўляецца псыхоідэолёгія аўтара-монархіста, і пра гэта іменна ў праф. І. Замоціна—ні слова, Д.-Марцынкевіч—дробны шляхціц, з дэмократычнымі настроямі, з найўна-лібэральнымі разважаньнямі—гэта-ж той самы абнароджаны нацыянал-дэмократычны народнік...

У другім апавяданьні „Травіцца" брат-сястрыца, як ужо мы паказвалі, Дунін-Марцынкевіч выказвае сябе сьвядомым ідэалізатарам фэўдальнага ладу і ўсяго яго побыту. Толькі пры гэтым ладзе, па Д.-Марцынкевічу, „чэсьць была ў хаце, пан, мужык праўдай суліў". Герой апавяданьня, князь Барыс—„добры пан", „з князей Крывічан" (ідэал нацыянал-дэмократаў) „і з літоўскім мацарам вось родны брат жыў".

Нечага казаць, што гэта ўстаноўка пісьменьніка складае непарыўнае зьвяно ў ланцугу яго дваранска-прыгоньніцкіх, клерыкальна-рэакцыйных перакананьняў.

На фоне гэтых перакананьняў Д.-Марцынкевіч паўстае перад намі закончаным тыпам прыгоньніка, роўнага, калі не апярэдзіўшага нават расійскага царыста Карамзіна. Гэта згладжана, абойдзена ў артыкуле праф. І Замоціна. Нават прыхована нявыразнай „дробна-шляхетнасьцю".

У падагульненьні сваіх заўваг да гэтых новых рукапісаў В. Д.-Марцынкевіча, праф. І. Замоцін яшчэ пільней прыкрывае ідэолёгічную сутнасьць іх, кажучы: 1) „Новыя рукапісы Д.-М. перш за ўсё значна павялічваюць літаратурную спадчыну пісьменьніка і ўвойдуць у склад поўнага збору яго твораў як новы, дасюль невядомы матэрыял. 2) Новыя рукапісы Д.-М. маюць даволі многа матэрыялу для назіраньняў над яго мовай (лексыкай, фразолёгіяй, граматычнай, і ортографічнай устаноўкай). 3) Апроч таго, яны дапамагаюць больш стала ўгрунтаваць аналіз яго мастацкага стылю. 4) Нарэшце—і гэта галоўнае—яны даюць падставу больш дакладна выявіць клясавы твар пісьменьніка. Гэта апошняе пытаньне і было асноўнаю тэмаю майго нарысу, паколькі мяне цікавіла ўласна соцыяльна-клясавая позыцыя ў творчасьці Д.-Марцынкевіча".

Аднак апошяга праф. І. Замоціну не ўдалося зрабіць—Д.-Марцынкевіч у яго артыкуле не прадстае перад намі тым, чым ён па сутнасьці

выяўляе сябе ў разгледжаных намі творах „Халімон на каранацыі“ і „Травіца брат-сястрыца“.

У агульную схэму ідэалізацыі В. Д.-Марцынкевіча, як і належыла быць, уключаецца і фашыстоўская характарыстыка яго, як народніка. У сваім артыкуле „Вінцэнты Д.-Марцынкевіч“ нацыянал фашыст М. Ільляшэвіч[1]) так кажа пра Марцынкевіча: „Марцынкевіч, ідучы, як народнікшляхціч, на сустрэчу сярмяжнаму люду, спушчаецца пры помачы беларускае кніжкі ў сялянскую хату, бае песьні, казкі, цікавячы і разьвіваючы любоў у цёмных масах да ўсяго роднага, беларускага. Марцынкевіч сваёй працай стрымаў значна той шалёны бег асыміляцыі нашага народу непрыяцельмі, што вялася ўсялякімі мэтодамі“.

Комэнтарыі лішнія. Перад намі закончаная фігура нацыянал-дэмократычнага героя, як перадатнага слупа да „залатое пары“ беларускага жыцьця, як пачынальніка нацыяналістычна-буржуазнага адраджанізму.

Асоба Д.-Марцынкевіча ў руках беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, асымпатызаваная нацыянал-опортуністамі, служыла прыладай для барацьбы на літаратурным фронце супроць маладой, пролетарскай, народжанай Кастрычнікам, беларускай літаратуры. Яго творчасьць выкарыстоўвалася для ўгрунтаваньня нацыянал-дэмократычных разважаньняў аб пераемсьцьвенасьці і цеснай сувязі паміж фэўдальна-прыгоньніцкім часам і пасьлякастрычніцкім пэрыодам. Надзяваючы халат народніка на плечы заядлага прыгоньніка-клерыкала, нацыянал-дэмократы, з падпораю іх нацыянал-опортуністамі, працягалі рэакцыйную думку аб дэмократычнасьці і народнасьці нацыяналістычна-буржуазнага адраджанізму. Яны скажалі гістарычную праўду марксыцка-дыялектычнага разьвіцьця гісторыі Беларусі, затушоўваючы ў галіне літаратуры клясавую дыфэрэнцыю і клясавую барацьбу. На асобе Д.-Марцынкевіча, як і на іншых шляхецка-буржуазных і дробна-буржуазных пісьменьніках і на іх творчасьці, нацыянал-дэмократы рабілі ўпор для свайго наступленьня на будаўніцтва беларускае культуры, соцыялістычнае па зьместу і нацыянальнае па форме.

Яны доўгі час гаспадарылі на гэтым адказьнейшым фронце соцыялістычнага будаўніцтва. Зараз гэта іх гаспадараньне ў асноўным разбурана.

На абавязку беларускай марксыцка-ленінскай крытыкі ляжаць адпаведныя заданьні па канчатковым зруйнаваньні ўсіх сьлядоў нацыянал-дэмократычных умацаваньняў на фронце літаратуры. Літаратурны вучасток павінен быць цесна ўключаны ў адзіны фронт соцыялістычнага будаўніцтва, якое пасьпяхова і пераможна вядзе рабочая кляса СССР на чале з сваім правадыром—партыяй Леніна.

6-XII-30 г.

---

[1]) „Родныя гоні“, месячнік літаратуры і культуры Заходняе Беларусі, № 5 за 1927 г.

# КНІГАПІС

### Валеры Маракоў.—Вяршыні жаданьняў

*Поэзія. Выданьне БДВ. Менск, 1930 г., стар. 85.*

Малады поэта Валеры Маракоў вызусьціў за параўнальна невялікі час сваёй літаратурнай дзейнасьці 3 зборнікі вершаваных твораў.

Літаратурная творчасьць Маракова ў першыя часы насіла на сабе сьлед нявыразнасьці, грамадзкае жыцьцё пісьменьнікам было адбіта слаба, але за тое асабістыя настроі займаюць у вершах надзвычайна вялікае месца.

Інтэлігенцкая настраёвасьць прыводзіла вельмі часта маладога пісьменьніка да самакапаньня ў душы, а адсюль нязьбежныя ў яго вершах ноткі пэсімізму, што дало нават повад некаторым нашым крытыкам залічаць Валерыя Маракова ў катэгорыю пісьменьнікаў, якія знаходзяцца пад непасрэдным уплывам Есеніна і інш. упадачных поэтаў.

Пісьменьнік, перш за ўсё, імкнуўся фармальнымі прыёмамі аздобіць свае вершы і зусім мала цікавіўся ідэолёгічным іх зьместам. І адсюль, як вынік, мы вельмі часта сустракаліся ў Маракова з такімі вершамі, у якіх фармальны бок пераважаў і займаў больш пачэснае месца чым тэматыка, якая ў той-ж час была абмежаванай і прыблізна далей вершаў на тэмы каханьня і г. д. ня ішла.

Больш таго, мы сустракаліся ў маладога пісьменьніка з такім зьявішчам, калі ў яго вершы ўкладвалася надзвычайна многа перажываньняў, амаль кожны верш аўтар імкнуўся пісаць, чэрпаючы матэр'ял з глыбіні душы, і адсюль, як вынік, некаторая хвараватасьць перажываньняў, інакш кажучы — надрыў, які не пасуе да маладога песьняра.

„Ты бачыш ў крыві мае рукі,
„Я сэрца з грудзей вырываў,
„Каб вольныя дзіўныя гукі,
„Краіне сваёй даравань".

Мы ня хочам гэтым сказаць, што ад гэтага падае каштоўнасьць і апрацаванасьць вершаў Маракова. Уся справа ў тым, што, імкнучыся да фармальнага аздабленьня сваіх вершаў, пісьменьнік мімаволі не звартае ўвагі на іх зьмест.

Соцыяльная вартасьць першых зборнікаў Валерыя Маракова была невялікай і вельмі доўга (а нават можна сустрэць такія гутаркі і зараз) шлі размовы аб тым, што Маракоў добра піша, вершы яго мілагучныя, але на гэтым і ўсё.

Перад маладым пісьменьнікам жыцьцё паставіла пытаньне: ці здольны ты адбіць нашу сучаснасьць, даць у сваёй творчасьці адбітак нашага жыцьця і будаўніцтва і ці зможаш ты сам прымаць удзел у гэтым будаўніцтве?

Выпушчаны ў 1930 г. зборнік вершаў Валерыя Маракова „Вяршыні жаданьняў" зьяўляецца адказам на гэта пытаньне.

Зборнік „Вяршыні жаданьняў" зьяўляецца яркім паказьнікам, як пад уплывам нашага соцыялістычнага будаўніцтва зьмяняецца сьветапогляд пісьменьніка і як ён сам хоча прыняць актыўны ўдзел у гэтым будаўніцтве.

У гэтым зборніку мы ўжо маем новыя тэмы, новыя „Жаданьні". Пісьменьнік сам рашуча адмяжоў-

ваецца ад таго „балота“, якое ён „славіць пачынаў“ і яму ўжо агідна глядзець на тых, якія:

„Па асьлінаму падняўшы горда вушы,
„Гавораць так,
„Што ім абрыдла жыць“.

Усёй сваёй істотай пісьменьнік зразумеў, што яго шлях ня з імі і ён свае прызначэньне знаходзіць зусім у іншай працы:

„І вось цяпер,
„У напружнай творчай працы,
„Знаходжу ўсё,
„І радасьць
„І любоў.
„Я знаю шчасьце,
„Верыць і змагацца,
„І йсьці, гарэць,
„Упівацца,
„Барацьбой“.

Ідэолёгія пісьменьніка накіроўваецца ў бок пролетарыяту, і ранейшыя яго „лятуценьні“ зараз зьмяняюцца выразна выяўленымі настроямі рэволюцыйнасьці і барацьбы. У вершы „Жыцьцё, як мора акіян“, пісьменьнік кажа наступнае:

„Шчасьлівы я, што тут жыву.
„И за гэты край вясной вялікай
„Быць можа зьнімуць галаву,
„Праколяць цела вострай пікай.
„Дзе песьні
„Новых дзён гудуць,
„І сьцяг праменіцца Саветаў,
„Другія творцы павядуць,
„Наш край да Ленінскае мэты“.

Праз увесь зборнік праходзіць адна характэрная адзнака; гэта тое, што пісьменьнік рашуча парывае з сваімі ранейшымі настроямі, тугі і бездарожжа.

„І сёньня я другі...
„Я новы...
„Пачуў з палаючых раўнін,
„І вуліц гул, і шум дубровы,
„І песьні новыя турбін.
„І зразумеў я ў шуме ветраў,
„Прастор зямлі і ўсіх марэй,
„Дзе будзе горад сад сусьветны,
„Адна краіна СССР“.

Добра зразумеў пісьменьнік і тое, што наша сучаснасьць патрабуе новых песен і мы бачым, як у яго матывы жальбы і імпрэсіі зьмяняюцца матывамі бадзёрымі і рэволюцыйнымі. Свой ранейшы прынцып „сьпяваць і ня ныць“, які яшчэ ў зборніку „На залатым пакосе“ не знайшоў сабе цалкам прымяненьня, у зборніку „Вяршыні жаданьняў“ зьяўляецца кіруючым прынцыпам, прынцыпам, організуючым усю яго творчасьць

„Дзе ўзрастаюць людзі, сонца,
„Патрэбны песьні новых дзён,
„Каб па абуджанай старонцы,
„Прайшоў надзей і дум цыклён“.

Упэўнівае нас у тым, што пісьменьнік рашуча павярнуў у адносінах сваёй тэматыкі, нават беглы прагляд зьместу яго трох зборнічкаў.

Займеньні „Я“, „Яна“ скланяюцца аўтарам на розныя лады, гэтым самым пісьменьнік творчасьць сваю будаваў па прынцыпу індывідуалістычнаму, замыкаўся ў сваім „Я“ і адмяжоўваўся ад грамадзкасьці.

Прынамсі такія разважаньні ўзьнікалі ў нас пасьля выхаду ў сьвет першага зборніка Валерыя Маракова „Пялёсткі“ (выданьне Маладняка— Менск 1926 г.). Другі яго зборнік на „Залатым пакосе“ (выданьне Маладняка Менск, 1927 г.) ужо гаворыць аб некаторым пераломе, які наступіў у пісьменьніка і вось, нарэшце, у трэцім зборніку „Вяршыні жаданьняў“ (выданьне БДВ, Менск, 1930 г.) поэта падыходзіць да абмалёўкі тэм сугучных нашаму жыцьцю.

Асабовае яшчэ трымае пісьменьніка ў сваей уладзе, але тэмы, якія аўтар бярэ з асабовага жыцьця, напрыклад: „Таварыш Нюрын“ атрымоўваюць тут ужо іншае вырашэньне і мы ўжо ня сустрэнем тут такіх радкоў, якія ў зборніку „Пялёсткі“ вызначалі ўсю настраёвасьць поэты:

„Прайшло ў жыцьці ўсё залатое,
„Прайшло і зьнікла ў трысьцё.
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

„І так усё, усё праляцела
„Чым я тут жыў, і чым гарэў
. . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

„Ці забыцца на сінім кургане,
„Ці каменьне зубамі ламаць“.

Зборнік „Вяршыні жаданьняў“ зьяўляецца моцным доказам, што пісьменьнік больш ня вернецца да апяваньня нуды і ня будзе даваць больш месца разважаньням аб тым, што Маракоў пагрузіўся ў тэмы абывацельшчыны і мяшчанства, у перадачу іх настрояў і ідэй.

Што хочам давесьці мы сваёй невялікай рэцэнзіяй?

А менавіта наступнае: дзейнасьць БелАПП‘у па перабудове літаратуры на новыя рэйкі, па стварэньню літаратуры, сугучнай нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву, ужо дала свае вынікі і мы маем зараз конкрэтныя факты гэтай працы.

Творчасьць Александровіча (асабліва апошнія яго творы), Галавача (Хочацца жыць), Звонака (Каршун), Лынькова (Андрэй лятун) і г. д. яскравы прыклад набліжэньня беларускай літаратуры да тэм сучаснасьці.

Ні чым іншым, як актывізацыяй пролетарскага літаратурнага руху на Беларусі можна тлумачыць перавыхаваньне Валерыя Маракова і зьяўленьне яго зборніка „Вяршыні жаданьняў“.

Нельга сказаць, што тое, што зьяўляецца зьместам „Вяршыні жаданьняў“ ёсьць ужо і сапраўды вяршыні жаданьняў.

У творчасьці Валерыя Маракова яшчэ многа агульнасьці, у яго вершах яшчэ мала конкрэтнасьці, пісьменьнік яшчэ слаба ўявіў і зразумеў наша соцыялістычнае будаўніцтва ва ўсёй яго паўнаце. Двойчы вялікай памылкай было-б сьцьвярджэньне, што, дасягнуўшы гэтых вяршынь, можна спыніцца.

Варта ўспомніць словы Луначарскага, які сказаў наступнае: „Писатель должен приспособить свое творчество к требованию массового читателя. Для этого писатель должен не присесть, а стать в полный рост своих художественных возможностей“.

З гэтых слоў відаць, што посьпехі пісьменьнік можа мець толькі тады, калі ён будзе пісаць для мас, на зразумелай масам мове, калі ён даб‘ецца ў сваіх творах прастаты канцэпцыі, высокай яркасьці ў перадачы зьместу і калі ён зможа даць тэму не абстрактную, а дзейную.

Валеры Маракоў сваім зборнікам „Вяршыні жаданьняў“ даў перад чытачом абавязак глыбей унікнуць у жыцьцё, якое нараджаецца на зямлі, пазбавіцца імкненьня апяваць „струны душы“, зьмяніць досыць застарэлую і ні ў якім разе не падыходзячую да новай тэматыкі, фармальную абалонку сваіх твораў, даць у выніку вялікай і напружанай працы над сабой твор сугучны нашай эпосе.

Разьвіцьцё ідэолёгіі поэты няўхільна рухаецца ў гэтым напрамку.

„Асушым твань старых балот
„І змрок ўзьвядзем,
„На гільотыну“...

Гэта радкі, якія дасканала вызначаюць імкненьні нашага паэты.

Першы крок, зроблены Валерыям Маракавым у зборніку „Вяршыні жаданьняў“, гаворыць нам аб няўхільным жаданьні перавыхаваць сябе.

І гэты крок, сваей рашучасьцю і сьмеласьцю ў адыходзе ад старога, упэўнівае нас, што малады поэта стаіць на правільным шляху.

**Эд. Галубок.**

**Т. Кляшторны—„Палі загаманілі“**

*Бел. Дз. Выд.—1930 г. Бал. 80, Цана 70 кап., тыраж 3.000 экз.*

Хто ведае час творчасьці Кляшторнага, які нарадзіў рэчы характару поэмы „Калі асядае муць“, той з надзвычайным зьдзіўленьнем, а разам з тым з глыбокім здавальненьнем павінен аднатаваць новы зборнік поэты, у які ўваходзяць поэмы—„Палі загаманілі“ і „Сны“. Патрэбна зьвярнуць грамадзкую ўвагу на гэты зборнік Кляшторнага таму, што творы, зьмешчаныя ў ім, ёсьць творы, у якіх поэта ўпяршыню распрацоўваў тэмы жывой, кіпучай сучаснасьці, тэмы соцыялістычнай перабудовы вёскі.

Да гэтага часу ў Кляшторнага можна было назіраць толькі набліжэньне да тэм социялістычнага будаўніцтва да тэм сёнешняга дня, але непасрэднага, шчырага падыходу да іх, як гэта ёсьць у адзначаным зборніку, аднатоўваць было яшчэ немагчыма. Поэма „Сны" ў пэўнай частцы сваёй зьяўляецца прызнаваньнем аўтарам сваёй віны ў тым, што ён не адлюстроўваў у сваёй творчасьці тэм жывой сучаснасьці, у тым, што ён, кажучы словамі героя гэтай поэмы Швэйка, „праспаў... дзесьці цэлае стагодзьдзе". Поэта кажа, што ён „зблудзіў, згубіўшы прыстані былыя", ён не шкадуе выразаў у абвінавачаньні самога сябе і ў шчырым прызнаньні сваіх памылак. І ў гэтай шчырасьці прызнаньня—залог перараробкі творчасьці поэты. Поэма „Сны" прыблізна ў палове зьяўляецца як-бы гімнам соцыялістычнаму будаўніцтву, у пэўных частках яе (II) адчуваецца дынамічнасьць, энтузіязм, энэргія.

У другой палове аўтар бярэ пэўных тыпаў сучаснасьці. Але яны ў Кляшторнага ня выліліся яшчэ ў орыгінальных герояў. Ён карыстаецца героямі Гашэка—Швэйкам і Балуном. Але ў той час, як клясавая сутнасьць Балуна Гашэка выражана як кулацкая часу імпэрыялістычнай вайны. Балун Кляшторнага выступае ўжо як падпальшчык колгасу, як кулак, які ня мае далейшых шляхоў свайго грамадзкага разьвіцьця. Самой дзеі ў поэме аддаецца мала ўвагі. Яе разьвіцьцё часта перарываецца разважаньнямі аўтара аб сёнешнім дні краіны, дзея не становіць сабой адзінага струменю ў творы. І неорыгінальнасьць тыпаў і перарываньне і няцэльнасьць дзеі—усё гэта апраўдвае назву „Сны". Здаецца, што аўтару толькі сьняцца пэрсонажы сёнешняга клясавага змаганьня, яны яшчэ цьмяныя ў яго, яны яшчэ не становяць асновы твору. Малы (параўнаўча) памер поэмы разам з другімі чыньнікамі пераконвае ў тым, што гэта поэма ёсьць толькі падыход, ёсьць толькі прэлюдыя да больш значнай рэчы і што героі „Сноў" зьяўляецца таксама прэлюдыяй да герояў „Палі загаманілі".

Дзеі тут прысьвечана пераважная частка поэмы, агульныя разважаньні ёсьць толькі ў прадмове ды там, дзе яны абумоўліваюць ідэолёгію пэўнага героя. Тыпы поэмы зьяўляюцца орыгінальнымі. Тэма поэмы—актуальная, а іменна клясавая барацьба ў колгасе. Момант асабісты ў герояў падаецца ў шчыльнай сувязі з момантам грамадзкім. Але разам з усімі гэтымі якасьцямі ў поэме ёсьць шмат недахопаў.

Пачнем з герояў. У творы ёсьць героі, да якіх сымпатыя аўтара відавочна і другія, да якіх відавочна яго антыпатыя. Першым у поэме зьяўляецца Сормавец, другім аграном. Гэта—процілеглыя полюсы поэмы, паміж якімі знаходзіцца рэшта герояў (Жамота, Сініцкі і г. д.). Як-жа паказаны ў поэме дадатныя і адмоўныя героі? Сормавец—гэта воля і організатар колгасу. Ён кіруе масай, орыентуе яе імкненьні („там не падкупны крок кіраўніка, компартыі і Сормаўца рука..."), у ім адчуваецца нявычэрпны запас энэргіі. Але ў абмалёўках гэтага тыпа Кляшторны зусім не надае яму клясавай пільнасьці. Пры выказваньнях агранома аб тым, што „наш дзень раўняецца нулю", Сормавец зусім не заўважае ў ім клясавага ворага, ён ня верыць, каб „аграном ды гэтак разважаў" і нават пасьля стрэлу агранома, пасьля раскрыцьця агіднай справы падпалу колгасу ён толькі з жахам пытае, як той мог „пад маскай савецкага спэцыялісты насіць у сэрцы камень?" Тут бачна поўная адтутнасьць клясавай уважлівасьці, пільнасьці. Другое—гэта тое, што тып Сормаўца застаўляе часам сваёй постацьцю масу. Часам чытачу здаецца, што колгас трымаецца толькі воляю Сормаўца. Нездарма факт часовай адсутнасьці Сормаўца дае магчымасьць актывізавацца ворагам пролетарыяту. Пры адсутнасьці клясавай пільнасьці ў адным выпадку

Сормаўцу нябачна для чытача прыдаецца вялікая клясавая пільнасьць (адна яго прысутнасьць не дае магчымасьці ворагам выявіць свае падрыхтоўкі да злачынства). Гэты момант, а іменна тое, што гэтая пільнасьць прыдаецца нябачна для чытача, утварае хутчэй толькі намёк на пільнасьць—усё гэта робіць тып Сормаўца незразумела дужым. І гэта аддаляе Сормаўца ад дадатных тыпаў пролетарскай літаратуры. Бо ўсякая моц тыпа ў літаратуры пролетарскай павінна быць абумоўлена як яго клясавай сутнасьцю, так і агульным характарам акаляючага асяродзьдзя твору. Тыпаў, дужасьць і моц якіх застаюцца для чытача незразумелымі, ці цьмянымі, у пролетарскай літаратуры быць ня можа.

Зьвернемся да адмоўных тыпаў. Пролетарскі пісьменьнік у гэтых адносінах павінен концэнтраваць увагу на варожасьці і шкоднасьці рэгрэсыўных клясаў сучаснасьці, ён павінен орыентаваць увагу пролетарскага чытача на барацьбу з варожымі пролетарыяту клясавымі групоўкамі. Таму тып ворага ў пролетарскай літаратуры павінен быць такім, каб у чытача вынікала ўражаньне патрэбы барацьбы з ім, а не ўражаньне ўжо дабытай перамогі, свайго роду „почивание на лаврах“. Таму тып ворага павінен быць паказаны ва ўсеўзброеньні, яму павінна быць нададзена ўся сіла, усе магчымасьці, якімі распалагае клясавы вораг у час, калі адбываецца дзея ў творы. Што-ж мы маем у поэме? Аграному ніхто і нішто ня спрыяе. Шалюта адмаўляецца ад хаўрусу з ім і выкрывае яго злачынства, адзіны супольнік яго па працы—Сіміцкі і той досыць не рашуча ідзе за ім. Адзінага фронту клясавы вораг устанавіць ня можа (мы наўмысьля не кранаем сувязі з сэктантамі, паколькі яна фактычна ў поэме не паказана). Аграном ня мае ніякай хітрасьці ў справе вербаваньня сваіх аднадумцаў, думак сваіх ён не хавае і толькі з-за адсутнасьці клясавай пільнасьці ў Сормаўцы, яго, як ворага, ня выкрываюць адразу, асьцярожнасьці і ўважлівасьці да шкодніцкай справы ў яго няма (ды як асьцярожны вораг можа пераблытаць лісты, адзін з якіх выдае яго з галавой?). Такі тып ворага не концэнтруе ўвагу гэтага на барацьбу з ім, ён хутчэй можа абудзіць у чытача разважаньні накшталт „гісторыя зьмяце ворагаў пролетарыяту ўсё роўна, нашто-ж нам клапаціцца“?

Але разам з усімі недахопамі зборнік „Палі загаманілі“ яскрава паказаў, што ранейшыя творчыя хістаньні Кляшторнага ўжо зьніклі, а таксама, што зробленыя гэтым зборнікам памылкі ёсьць памылкі росту і ня маюць нічога супольнага з ранейшымі памылкамі Кляшторнага часу поэмы „Калі асядае муць“.

Можна толькі пажадаць, каб поэта сур'ёзна ўзяўся за працу па органічным далучэньні да пролетарскай літаратуры, каб ідэолёгія і псыхолёгія аўтара ўтварылі дыялектычнае адзінства на аснове пролетарскай ідэолёгіі.

**Ал. Цітоў.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* На „Тыдзень беларускай культуры“, які праводзіўся ў Маскве з 3-га па 10-га студзеня (г. г.) выяжджала дэлегацыя БССР у складзе:

Ад БелАПП—т. т. Александровіч, Лынькоў, Галавач, Мурашка, Хведаровіч, Звонак, Бэндэ, Юдэльсон, Харык, Мысьлінскі, Ліманоўскі; ад „Узвышша“—Кузьма Чорны, Крапіва, Пятро Глебка; ад літзгуртаваньня „Полымя“—Міхась Чарот, Я. Нёманскі, В. Сташэўскі.

Ад „РОМБУ“ (аб'яднаньня мастакоў Беларусі) скульптар Грубэ і ад Галоўмастацтва т. Гурскі; ад Белдзяржвыдавецтва т. А. Некрашэвіч і ад ЦК КП(б)Б—т. т. Чарнушэвіч, Сянькевіч, Канакоцін; ад ЦО ЦК КП(б)Б—Будзінскі, ад Наркамасьветы т. Платун; ад Белдзяржкіно т. Галкін.

Навуковых працаўнікоў прадстаўлялі чатыры прафэсары і адзін дацэнт.

Былі таксама—БДТІ, БДВТ, вандроўны яурэйскі тэатр, беларуская капэля і два самадзейных гурткі.

Вылучаны былі і езьдзілі—16 рабочых-ударнікаў (з чыгункі, Бабруйскага камбінату, саўгасаў —„Прылукі“ і імя Чарвякова, „Палесдруку“, Гомсельмашу, Магілеўскай гарбарні, гуты імя Домбаля, Белжылсаюзу, фабрыкі „Комунарка“) і колгасьнікаў.

Старшынёю дэлегацыі быў загадчык культпропам ЦК КП(б)Б— т. Чарнушэвіч.

У Маскве на вакзале беларускую дэлегацыю сустракалі: дэлегацыя раённай партконфэрэнцыі Краснай Прэсьні, прадстаўнікі профсаюзаў, грамадзкіх і навуковых організацый, пісьменьнікі: Леонаў, Селіваноўскі, Паўленка, Корэнеў, Салаўёў, Кірылаў, Багданаў, Яноўскі, Расоўскі, М. Аляксееў, Ромашоў, Матэ Залка, Ройзман і інш.

Тут-жа на пляцу перад вакзалам адбыўся мітынг. Дэлегацыю савецкай Беларусі віталі: т. Коппэ—ад Комакадэміі, т. Гэльф—ад рабочых Краснай Прэсьні, т. Селіваноўскі—ад пісьменьніцкіх організацый. З адказным словам выступаў т. Чарнушэвіч.

— Урачыстае адчыненьне „Тыдню беларускай культуры“ адбылося 3-га студзеня ў Вялікай залі Комуністычнай акадэміі. У сваім выступленьні т. Фэлікс Кон адзначыў прыезд беларускіх дэлегатаў, як гістарычны момант у жыцьці народаў Савецкага Саюзу. „Тыдзень савецкай Беларусі,— кажа т. Кон,—азнаёміць з вялікімі дасягненьнямі нашай брацкай рэспублікі. У Беларусі нам ёсьць чаго навучыцца!“. Аб дасягненьнях Савецкай Беларусі выступіў т. Шарангові́ч, сакратар ЦК КП(б)Б, які ў сваім выступленьні кранууўся і контррэволюцыйнай дзейнасьці нац.-дэмократаў, якія меціліся спыніць соцыялістычнае будаўніцтва ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі і культуры.

* 4 студзеня ў рабочых клюбах наладжаны былі вечары Савецкай Беларусі з дакладамі, выступленьнямі пісьменьнікаў і поэтаў (расійскіх і беларускіх), концэртамі беларускіх артыстых.

У кіно-тэатрах—фільмы Белдзяржкіно.

У памяшканьні МХТ2 пачаліся гастролі Першага беларускага дзяржаўнага тэатру.

— У доме друку адбыўся вечар сустрэчы з журналістамі і пісьменьнікамі Беларусі. Пасьля выступленьня А. Халатава, дакладу А. Сянькевіча і прывітаньня беларускага рабочага—друкара, ударніка т. Батвіньніка, слова было дадзена Андрэю Александровічу і Ізі Харыку, якія заместа прамоў чыталі вершы. Вечар скончыўся прамовай А. Багданава (ФОСП).

* 5 студзеня ў праўленьні ГІХЛ адбылася нарада працаўнікоў выдавецтва з беларускімі пісьменьнікамі. Старшынёю нарады быў Л. Леонаў. На парадку нарады: плян выданьня перакладаў беларускай літаратуры. У абгаварэньні пляну прымалі ўдзел—т. т. Некрашэвіч, Галавач, Александровіч, Сташэўскі, Харык, Дунец, Уткін, Сьвятлоў і інш.

Вырашана: разам з прадстаўнікамі беларускіх пісьменьнікаў пераглядзець плян выданьня перакладной беларускай літаратуры.

— У Колённым залі Дому саюзаў рабочыя—ударнікі БССР сустрэліся з рабочымі ўдарнікамі Масквы.

— У клюбе ФОСП на таварыскай вячэры беларускія пісьменьнікі пазнаёміліся з пісьменьнікамі Масквы.

* З 6 па 8 студзеня адбываліся сустрэчы з пісьменьнікамі, вечары ў рабочых клюбах, нарады.

— Пасьля шматлікіх вечароў у рабочых клюбах, мітынгаў на прадпрыемствах, выставак, нарад—прысьвечаных Савецкай Беларусі, 10 студзеня скончыўся „Тыдзень беларускай культуры“. На працягу тыдню на клюбных вышках, на сцэне МХТ гастралявалі беларускія тэатры, у кіно дэмонстраваліся беларускія фільмы. Савецкая Беларусь рапартавала пролетарыяту ўсяго саюзу аб соцыялістычных перамогах на гаспадарчым і культурным фронтах, заваяваных пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі.

Шчырая сустрэча, якую зрабіла пролетарская грамадзкасьць Масквы прадстаўніком БССР, стала моцным ударам па вялікадзяржаўным шовінізьме, рвучы нацыянал-дэмократычныя ланцугі, якім контррэволюцыянэры мкнуліся ўзросшы пры дыктатуры пролетарыяту край зьвязаць з буржуазным захадам, з фашыцкай Польшчай.

„Тыдзень беларускай культуры“ зьявіўся сапраўднай сувязьзю працоўных брацкіх савецкіх рэспублік.

* Перад „Тыднем беларускай культуры“ 21 сьнежня 1930 г. у Менск прыяжджала дэлегацыя ФОСП—Тодар Гладкоў, Уладзімер Кірылаў, Марк Коласаў, Ал. Багданаў, каб запрасіць беларускіх пісьменьнікаў у Маскву.

Асноўным пытаньнем, якое абмяркоўвалася на сустрэчах пісьменьнікаў і на прыёме ў Наркамасьветы БССР тав. Платуна—было замацаваньне сталай жывой сувязі нацыянальных культур, у прыватнасьці нацыянальных літаратур народаў Савецкага Саюзу. Гаварылася аб выданьні Ўсесаюзнай часопісі, якая-б асьвятляла жыцьцё усіх савецкіх рэспублік. Адзначалася неабходнасьць рэорганізацыі „Литературной газеты“ ФОСП РСФСР у ўсесаюзную „Литературную газету“.

Прыезд дэлегацыі ФОСП—гэта пачатак цеснай сувязі савецкіх літаратур БССР і РСФСР.

* На супольнай нарадзе дэлегацыі ФОСП з беларускімі пісьменьнікамі ў Менску было пастаўлена пытаньне аб організацыі ў БССР Таварыства сялянскіх пісьменьнікаў.

* 4-га студзеня ў Політэхнічным музэі ў Маскве, была наладжана вялікая выстаўка, прысьвечаная Савецкай Беларусі. Выстаўка была прастаўлена шасьцю аддзеламі: прамысловым, сельскагаспадарчым, друку, аддзел выдавецтва, „Беларусь у грамадзянскай вайне“ і аддзелам—„становішча ў Заходняй Беларусі.

* 7-га студзеня ў клюбе ФОСП адбыўся вялікі дыспут аб беларускай літаратуры пры ўдзеле беларускіх пісьменьнікаў, прадстаўнікоў ВОАПП і Комакадэміі.

* У „тыдзень беларускай культуры“ ў Маскве былі зьмешчаны ў „Литературной газете“—у перакладзе на расійскую мову творы: М. Чарота, М. Лынькова, А. Звонака, М. Хведаровіча, А. Александровіча, К. Чорнага, В. Сташэўскага.

* Мікола Хведаровіч працуе над поэмай „Лжэколгас“. У поэме паказваецца хваля колектывізацыі ў 1930 г.

— Выходзіць з друку новая кніга яго вершаў пад назваю „Тэмпы—Контрасты“.

* М. Лынькоў працуе над аповесьцю „Бацькаўшчына“.

— У выданьні ГІХЛ выходзіць зборнік апавяданьняў М. Лынькова ў расійскім перакладзе.

* Алесь Звонак падрыхтаваў да друку новую кнігу вершаў.

* Рыгор Мурашка працуе над трылёгіяй „Чалавек-маска“.

* Сымон Баранавых скончыў новую аповесьць „Дым“.

* Андрэй Александровіч скончыў роман у вершах.

— Ім падрыхтаваны да друку першы том твораў.

— У гэтым годзе споўніцца дзесяцігодзьдзе літаратурнай дзейнасьці Андрэя Александровіча.

— У ГІХЛ выходзіць кніга вершаў яго ў перакладзе на расійскую мову.

— У Белдзяржвыдавецтве другім выданьнем выходзіць яго поэма „Цені на сонцы“ і трэцім выданьнем—зборнік вершаў „Угрунь“.

* Ізі Харык (яўрэйская сэкцыя БелАПП) канчае вялікую поэму „Бесьперапынка“.

— Працуе над п'есай для Яўрэйскага дзяржаўнага тэатру Беларусі.

— ГІХЛ (Масква) выдае зборнік вершаў і поэм І. Харыка ў перакладзе на расійскую мову.

* Юдэльсон (яўрэйская сэкцыя БелАПП) канчае поэму „Камбінат“.

— Падрыхтаваў да друку зборнік вершаў.

* Ян Скрыган рыхтуе да друку кніжку прозы пад назваю —„Смага“.

— Выходзіць з друку кніжка яго нарысаў пад назваю „Шугае сонца“ і ў сэрыі „мастацкае слова масам“—аповесьць „Затока ў бурах“.

* Друкуецца асобнай кніжкай вершаваная комэдыя А. Бязыменскага „Стрэл“ у перакладзе на беларускую мову Юлія Таўбіна.

* У 1931 годзе пры літаратурна-лінгвістычным аддзяленьні пэдфаку БДУ організоўваецца сэкцыя літаратурна-выдавецкіх кадраў. Сэкцыя будзе складацца з 2 груп: літаратурнай творчасьці і крытыкі і літаратурна-выдавецкай.

* А. Куляшоў здаў у БДВ новую кніжку вершаў пад назваю „Па песьню, па сонца“.

* Барыс Мікуліч здаў у друк зборнік апавяданьняў „Удар“.

* Вышла з друку, выданьнем БДВ, кніга Ал. Некрашэвіча „БДТ 1“ у багатым мастацкім афармленьні мастака Барыса Малкіна.

* 27 сьнежня брыгада БелАППА'у ў складзе т. т. С. Барановых, Ал. Кучара і Юр. Лявоннага па спэцыяльным запрашэньні рабочых-хэмікаў выяжджала ў г. Барысаў. У клюбе хэмікаў быў наладжаны літаратурна-мастацкі вечар з дакладам аб беларускай пролетарскай літаратуры і выступленьні пісьменьнікаў.

Перапоўненая заля клюбу, а таксама шматлікія, дзелавыя запытаньні сьведчылі аб значнай зацікаўленасьці рабачых мас становішчам і разьвіцьцём пролетарскай літаратуры.

* Згуртаваньне „Ўзвышша“ вядзе работу па выяўленьні літаратурных рабочых кадраў, творы якіх будуць рэгулярна друкавацца ў органе згуртаваньня.

* Сябры „Ўзвышша“ прымацаваны да заводу „Комунар“, дзе вядуць масавую культурна-асьветную работу.

* Максім Лужанін рыхтуе да друку шэраг крытычных аглядаў і нарысаў пра сучасную літаратуру пад назваю „Збор—дружына“. Значная частка працы будзе прысьвечана разгляду ўплыву і дзейнасьці нацыянал-дэмократаў у згуртаваньні „Ўзвышша“.

* Адначасна М. Лужанін здае ў БДВ кніжку апошніх вершаў „Кастрычнікам, Ліпенем, Маем“.

* Выйшла з друку другая кніжка вершаў Пятро Глебкі, пад назваю „Урачыстыя дні“.

* Скончыліся друкаваньнем у часопісе „Ўзвышша“ роман К. Чорнага „Ідзі, ідзі“ і сатырычная поэма „Хвядос—чырвоны нос“ Крапівы, якія зараз Белдзяржвыдавецтва выпускае асобнымі кніжкамі.

* Выходзіць другое выданьне роману „Язэп Крушынскі“ З. Бядулі. Рыхтуецца да асобнага выданьня другая частка роману.

* Цішка Гартны напісаў апавяданьне „Дні роўныя гадом“, прысьвечанае трыкутніку заводу „Комунар“.

— Рыхтуе да другога выданьня разам усе тры часткі свайго роману „Сокі Цаліны“.

* Міхась Чарот піша поэму пра соцбудаўніцтва ў БССР.

— У выданьні ГІХЛ (Масква) вышаў зборнік яго апавяданьняў у перакладзе на расійскую мову.

* Васіль Сташэўскі канчае аповесьць „Шуміць бярозка“ з жыцьця дзяцей Заходняй Беларусі.

— Ён-жа сабраў матар'ял для роману „Сымфонія Прыпяці“, над якім будзе працаваць з наступнага году.

* Скульптар З. Азгур працуе над цэлым шэрагам бюстаў рэволюцыйных дзеячоў.

* Мастак Я. Ахрэмчык канчае вялікую карціну „Падпісаньне маніфэсту БССР“.

* Мастак В. Волкаў працуе над эскізамі дэкорацыйнага росьпісу новага вагзалу ў Негарэлым.

* Мастак М. Філіповіч зьвярнуўся з падарожжа ў Аджарыю, прывёз шмат малюнкаў, якія мяркуе перапрацаваць на вялікія карціны.

* Барыс Малкін скончыў працу над малюнкамі „Вайна“, якія здае ў друк.

— Ён-жа аформіў кнігу „БДТ—1“ А. Некрашэвіча.

— Працуе над кнігай М. Лынькова „Гой“, якую мяркуюць выдаць у багатым мастацкім афармленьні.

* Міжнародны камітэт пропаганды чыгуначнікаў і транспортных рабочых прыслаў у Белдзяржкіно водгук аб кіно-фільме „Рубікон“ вытворчасьці БДК. Камітэт адзначае, што фільм політычна вытрыманы і актуальны як па асноўнай тэмэ, так і па рэжысэрскай трактоўцы. У фільме правільна паказаны быт і ўмовы працы замежных маракоў і ўдала проціпастаўлена жыцьцё на савецкім судне жыцьцю маракоў у капіталістычным флёце.

* 6-га студзеня адкрыўся ў Маскве другі пашыраны пленум цэнтральнага савету ВОКП. На пленуме прысутнічалі прадстаўнікі ад БССР: т.т. Бэндэ, Галавач, С. Баранавых і інш. Т. Галавач вітаў пленум ЦС ВОКП ад імя БелАПП і ад сялянскіх пісьменьнікаў БССР.

Пленум ЦС ВОКП ухваліў перайменаваць ВОКП ва Ўсерасійскую організацыю пролетарска-колгасных пісьменьнікаў (ВОПКП). Генэральным сакратаром ВОПКП зацьверджаны т. Батрак.

Створаны камітэт па стварэньню Ўсесаюзнага аб'яднаньня організацыі пролетарска-колгасных пісьменьнікаў. Ад беларускіх сялянскіх пісьменьнікаў у камітэт увайшлі—т.т. Галавач і Баранавых.

Скончыўся пленум 11 студзеня.

* 24 сьнежня м. г. у Магілеве адкрыўся новы кіно-тэатр „Чырвоная Зорка“. Тэатр пабудаваны за 6 з паловай месяцаў.

* БДВТ у пачатку студзеня г. г. вярнуўся з Барысава, куды быў накіраваны Наркамасьветы для абслугоўваньня рабочых барысаўскіх прадпрыемстваў і чырвонаармейскіх часьцей. Тэатр прабыў у Барысаве 17 дзён і даў 19 спэктакляў і концэртаў.

Усе 19 паказаў прайшлі з вялікім посьпехам пры перапоўненых аўдыторыях. Тэатр абслужыў больш за

20 тысяч рабочых і чырвонаармейцаў. Ішлі п'есы—„Ярасьць", „Дыктатура" і „Гальштук".

Зараз тэатр працуе над п'есай В. Сташэўскага „Эпоха".

— Тэатр рыхтуецца да веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі. У пачатку красавіка тэатр выедзе ў раёны БССР для абслугоўваньня калгасаў і савгасаў.

Тэатр папоўнены новымі сіламі з музтэхнікуму.

* Высунуты два проекты пляцоў пад пабудову новага вялікага тэатру ў Менску. Першы проект—супроць цяперашняга будынку і другі—на Камароўцы (Залатая Горка). У хуткім часе гэта пытаньне будзе вырашана.

* Наркамасьветы БССР арганізаваны ансамбль беларускіх народных музычных інструмантаў. У ансамбль уваходзіць 12 чалавек.

* Польсэктар БАН'у разам з інстытутам мовазнаўства прыступілі да складаньня польска-беларускага слоўніка. Ужо здадзены ў друк словы першых літар альфабэту. Поўнасьцю слоўнік будзе здадзены ў друк да 1-га жніўня 1931 году і будзе налічваць 60.000 слоў.

* Музэй рэволюцыі ў Менску організоўвае аддзел „1905 год". Аддзел будзе дадаткова ўзбагачаны новымі гістарычнымі матэрыяламі. Вялікае месца ў аддзеле займуць матэрыялы 1905 году ў Беларусі.

## УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Вышлі з друку новыя кніжкі членаў ВУСПП:

І. Кулік—„Шісьць поэм“; Л. Первамайскі—„З фронту“—поэзії; Ю. Зора—„Депо“, вытворчы роман; М. Гаско—„Обабіч кордону“, поэзії; І. Кірыленка—„Натиск“, аповесьць; М. Ірчан—„На півдорозі“, нарысы; М. Майскі — „Новелі“; І Мікітэнка—„Тринадцята весна“, нарысы пра колектывізацыю.

Друкуюцца новыя творы: І. Мікітэнка—„Диктатура“, п'еса; яго-ж—„Кадры“, п'еса; Н. Забіла—„Тракторобуд“, аповесьць, і „Выбрані поэзії“; М. Бірукоў—„Збірка комсомольскіх нарысів“; В. Кузьміч—фрагмэнты з роману—„Диіпрельстан“ і „Караблі“, зборнік апавяданьняў; Г. Аўгароў—„Критичні нариси“; І. Ле—„Наливайко“, гістарычны роман; Г. Шышоў — „Донбас“; І. Топчый — „Шахтарська повість“; І. Кірыленка — „З металевага фронту“; К. Гардзіенка—„Повість найміта“; М. Даленга—„Фото-лірыка“; В. Сосюра—„Вибрані поэзії“; І. Кулік—„Карачай“; Панько Пэда—„Перший рейд“; Ю. Зора—„Кочегар“; Д. Будзька—„Оповідання“; В. Зорын — „Генеральний бій“, аповесьць.

Большасьць гэтых твораў выходзіць у выдавецтве ВУСПП'у—„Гарт“.

* Каб забясьпечыць эстраду актуальным ідэолёгічна-мастацкім і рабочым матэрыялам, у Кіеве заснавана аб'яднаньне аўтараў-эстраднікаў, куды, акрамя спэцыялістых, увайшло шмат украінскіх пісьменьнікаў.

Выданьнем Тэакіновыдавецтва аб'яднаньне гэта выдае два зборнікі эстраднага матэрыялу.

На чале аб'яднаньня—вядомы тэорэтык і практык эстрады т. Тодзьдзі.

* У выдавецтве „Книгоспілка“ вышла новае выданьне твораў Пушкіна на украінскай мове, пад рэдакцыяй проф. Філіповіча. Роўна сто год таму назад выйшаў першы пераклад твораў Пушкіна на украінскай мове поэты Баравікоўскага.

* Цагарэлі і Варава пераклалі на украінскую мову п'есу грузінскага драматурга Карло Каладзэ „Рогор“ („Так было“).

* У жніўні м-цы м. г. японскі пісьменьнік і мастак Міосіто наведаў Кіеў, дзе знаёміўся з культурным жыцьцём, з культурнымі ўстановамі гораду, пабываў у Канэве на магіле Т. Шэўчэнкі.

* ДВУ здало ў друк па мастацкім сэктары Ів. Нечуй-Лявіцкі—„Баба Параска“; В. Вінычэнка—„Суд“; Інстытут Т. Шэўчэнкі—„Шэўчэнка“; Копэленка—Збор твораў, т. І; Петро Панч—збор твораў, т. І; Ю. Яноўскі—збор твораў т. III і т. IV; Г. Энік—збор твораў, т. І і т. II; М. Хвілёвы—поэзія.

* У выдавецтве „Рух“ друкуецца: Н. Мартыновіч—„Українське малярства; „Спогади О. Сластьона; М. Бойчук—монографія Ю. Міхайлава.

Крытыка: Франко І.—„Про Л. Толстого“; Хмурый В.—„Нотатки про театр, кіно і просторове мистецтво.

Прыгожае пісьменства: Альчэўская Х.—„Міова Мішэль“, драма; Дамантовіч В.—„Доктар Серафікус“, роман; Кельлерман Б.—„Браты Шеленберги“, роман; Лявіцкі О.—Нарыси з життя старої України“; Нарыжны

М.—„Гаркуша“, роман; Праскурыўна М.—апавяданьні; Савэр Н.—„Ціна крови“, роман; Толстой Л.—„Казаки“ (пер. Г. Хаткевіча); Яноўская Л.— Творы т. II (аповесьці) і т. III (драм. творы).

* Па пастанове Саўнаркому УССР ДВУ, рэдакцыйная выдавецкая частка „Книгоспілки“, выдавецтва „Радянський Селянин“, „Пролетарій“, „Український Робітник“, „Навукова Думка“, „Культура“, „Вісник фізичноі культури“, юрвыдавецтва і Тэакіновыдавецтва—ліквідуюцца, а заместа таго пры Наркамасьвеце ўтвараецца аб'яднанае выдавецтва пад назваю— „Державне видавниче об'єднання України“. Усе правы і абавязкі ліквідаваных выдавецтваў пяройдуць да ДВО. У складзе ДВО будзе аб'аднацца 9 тыпізававых выдавецтваў: выдавецтва падручнікаў і пэдагогічнай літаратуры, тэхнічнай, сельскагаспадарчай, соцыяльна-экономічнай, дзіцячай і юнацкай, літаратурна-мастацкай, вайсковай і фізкультурнай, профэсійна-рабочай літаратуры, а таксама па пытаньнях мэдыцыны і прыродазнаўства. Кожнае выдавецтва працавацьме на гаспадарчым разрахунку.

Да складу ДВО ўвойдзе і цэнтралізаванае прадпрыемства для збыту друкаваных твораў і дапаможнага „Кнігацэнтру“, які будзе адзіным дзяржаўным органам распаўсюджваньня продукцыі выдавецтва Украіны. Па пастанове ўраду да ДВО пяройдуць усе поліграфічныя прадпрыемствы ліквідаваных выдавецтваў.

* Кіеўскі тэатр опэры і балету ставіць перад сабою мэту як найпаўней абслужыць шырокія масы пролетарыяту продукцыяю высокай вартасьці. Адпаведна гэтаму пабудаваны дырэкцыяю тэатру і рэпэртуар сэзону.

З новых п'ес гэтага сэзону ідуць опэры: „Беркут“ („Золотий обруч“) муз. Ляташынскага; „Вихор із півночі“, муз. Кніпэра; „Кармелюк“, муз. Костэнкі; „Білий рэйд“, муз. Патоцкага; „Дума чорноморська“, муз. Яноўскага“.

Балеты: „Золота Доба“, муз. Вэрыкоўскага; „Червоний мак“, муз. Гліера і новы балет Казыцкага або Рудніцкага, што будуць закончаны за студзень м-ц 1931 г.

Клясычны рэпэртуар складаецца з п'ес: „Садко“ Рымскага-Корсакава, „Русалка“ — Даргомыскага, „Кармэн“—Бізэ, „Князь Ігар“—Барадзіна“, „Отелло“—Вэрдзі, „Фауст“—Гуно, „Тарас Бульба“—Лісэнкі і балет „Есмеральда“—муз. Пуні ў оркестроўцы Гліера.

Адчыненьне сэзону адбылося ў кастрычніку новай пастаноўкай „Беркут“—муз. Ляташынскага.

* У адэскай опэры ў гэтым сэзоне ідуць такія ўзоры опэрнай творчасьці: „Лід та криця“—Дэшовава, „Кармэлюк“—Костэнкі, „Яблуневий полон“—Чышка, „Борис Годунов“ (першая рэдакцыя) — Мусоргскага, „Карманьола“—Фэмэлідзі, „Динаміяда“—Шалпакова і інш.

* Композытар Л. Рэвуцкі скончыў вялікую сымфонічную сюіту на народныя тэмы. Цяпер композытар працуе над гармонізацыяю молдаўскіх песень, зьбіраньнем якіх займаліся этнографы МАСРР.

* Композытар Бак працуе над музычнаю комэдыйкай для дзяцей малодшага ўзросту. Композытар у апошнія часы напісаў нізку вокальных і струмантальных твораў.

* Музычна-драматычны інстытут ім. Лісэнкі правёў вялікую організацыйную работу, бяручы кірунак да бесьперапыннай вытворчай практыкі. Драматычны аддзел інстытуту ператорораны ў тэатральны факультэт з трыма аддзеламі: украінскім, яўрэйскім і польскім. Да гэтага факультэту далучаны вокальны аддзел. Каб забясьпечыць вытворчую практыку, факультэт утварае драматычную групу, якая абслугоўвацьме рабочыя клюбы.

* У лістападзе м. г. у Харкаве адбыўся ўсеукраінскі конкурс скрыпачоў, організаваны Укрфілам.

Мэта конкурсу—выявіць найлепшыя артыстычныя сілы на Украіне.

* Організоўваецца другі ўсеукраінскі конкурс піяністых, прызначаны на красавік 1931 г.

* Тэатр ім. Шэўчэнкі (Дняпропятроўская дзяржаўная драма) сэзон адкрыў у верасьні. Рэпэртуар тэатру: Вішнеўскі--„Перша кінна", Мікітэнка--„Кадри", Карнейчук — „Кам'яний острів", Первамайскага — „Комсомольці", „Іда Брук" і інш.

Сэзон пачаўся п'есаю Вішнеўскага—„Перша кінна".

* Па пастанове народнага камісарыяту асьветы УССР утвараецца адзіны ўсеукраінскі інстытут кінематографіі. Мае на мэце—падгатоўку кадраў для савецкай кінематографіі. Вядзецца падрыхтоўчая праца да адчыненьня інстытуту.

* На Кіеўскай кіно-фабр. ВУФКУ абсталяваны спэцыяльны павільён для здымкі гукавых фільмаў. З-за мяжы і Ленінграду ўжо прыбыла спэцыяльная апаратура.

На Кіеўскай кіно-фабрыцы хутка організуецца таксама вялікая навукова - дасьледчая лябораторыя гукфільмы.

* Укртэакіновыдавецтва выпусьціла ў продаж новыя кніжкі пра кіно:

— Я. Саўчэнка. „Народження українського радянського кіна". У гэтай кніжцы аўтар гаворыць пра тры вялікіх эпохіяльных фільмы—„Звенигора", „Арсенал", „Земля"—таленавітага савецкага укр. рэжысэра О. Довжэнка.

— М. Лядаў. „Основи кіно-драматургії та тэхніки сценарія" пад рэдакцыяю мастацкага аддзелу ВУФКУ. Кніжка накіроўвае да сур'ёзнага, удумлівага вывучэньня сцэнарнай справы і разьлічана на культурнага чытача, які мае пэўны літаратурны багаж і пэўны нахіл да тэатральнай думкі.

* Усеукраінскае таварыства Культсувязі з закардонам рэорганізавала сваю працу. Пры таварыстве організавана індустрыяльная сэкцыя, якая мае наладзіць і ўзмацніць міжнародную сувязь УССР з іншымі краінамі ў галіне індустрыі.

* Украіна бярэ ўдзел у выстаўцы савецкай графікі і мастацтва ў Стокгольме, самадзейнага рабочага тэатру ў Дорымуньдзе і міжнароднай выстаўцы мастацтва ў Вэнэцыі.

Рыхтуецца аддзел міжнароднай выстаўкі дэкорацыйнага мастацтва ў Мілане.

Намечана організаваць выстаўку украінскага мастацтва ў Бэрліне.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* Споўнілася 60 год з дня нараджэньня і 25-годзьдзе літаратурнай дзейнасьці вядомага сялянскага пісьменьніка А. П. Чапыгіна. Аўтар здаў у друк другую кнігу аўтабіографіі—„Маё жыцьцё“ і працуе над трэцяй часткаю гэтай кнігі.

* Новая п‘еса Ўс. Іванова „Компромисс Наиб-Хана“ прынята да пастаноўкі мастацка-політычным саветам Тэатру Чырвонай Арміі. Тэма п‘есы—напад басмачоў, падцкоўваемых агентам ангельскага імпэрыялізму, на паўзьмежны саўгас.

* Маскоўская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў падрыхтавалася да ўсерасійскай вытворчай нарады па пытаньнях пролетарскай поэзіі. Організаваны шэраг агульнагарадзкіх сходаў поэтаў, на якіх абмеркаваны асноўныя моманты сягонешняга этапу разьвіцьця пролетарскай поэзіі з удасканаленьнем пытаньняў, зьвязаных з выпрацоўкай творчага мэтоду пролетарскай поэзіі і поэтычнай перабудовы ў адмысловасьці з задачамі, якія стаяць перад пролетарскай літаратурай у рэконструкцыйны пэрыод.

Да ўдзелу ў вытворчых сходах прыцягнуты ўвесь поэтычны актыў МАПП, поэтычны маладняк рабочых гурткоў, крытычныя кадры і найбольш блізкія поэты-папутнікі. Першы сход, скліканы ў клюбе ФОСП 27 сьнежня, прысьвечаны абгаварэньню „Літаратурнага маніфэсту“ Дж. Алтаўзэна.

* Сакратарыят РАПП на паседжаньні 22 сьнежня м. г. заслухаў проект рэзолюцыі аб Літфронце. Гэты дакумант—падсумоўвае спрэчкі з Літфронтам.

На гэтым-жа паседжаньні тав. Ярмілаў інформаваў сакратарыят пра слабую сувязь РАПП з філёзофскім фронтам. Абмеркаваўшы інформацыю, члены сакратарыяту ўхвалілі ўвайсьці ў больш шчыльную сувязь з філёзофскімі навуковымі організацыямі.

* Па пастанове другой сусьветнай конфэрэнцыі рэволюцыйных пісьменьнікаў, Міжнароднае бюро рэволюцыйнай літаратуры перайменавана у Міжнароднае аб‘яднаньне рэволюцыйных пісьменьнікаў (МАРП).

* МАРП прыступіла да выданьня кнігі — справаздачы аб сусьветнай конфэрэнцыі рэволюцыйных пісьменьнікаў на 5 мовах (расійскай, украінскай, ангельскай, нямецкай і францускай).

* Цэнтральны орган МАРП — „Вестник иностранной литературы“ перайменаваны ў часопіс „Литература мировой революции“. Адказны рэдактар часопісі — Бруно Ясенскі, зам. рэдактара — Анатоль Гідаш. Першы нумар часопісі МАРП цалкам прысьвечаны вынікам сусьветнай конфэрэнцыі рэволюцыйных пісьменьнікаў.

* У лютым будзе склікана ўсерасійская конфэрэнцыя саюзу савецкіх пісьменьнікаў. У оргкамісію па падрыхтоўцы і правядзеньні конфэрэнцыі вылучаны т. т. В. Салаўёў, Н. Агнёў і Ўл. Кірылаў.

* Сакратарыят ВОАПП ухваліў склікаць у Маскве пленум Савету ВОАПП у сакавіку 1931 г. Зацьверджаны наступны проект парадку дня пленуму: літаратурна-політычная справаздача сакратарыяту ВОАПП, вынікі і пэрспэктывы творчай дыску-

сіі (даклады РАПП, ВУСПП, БелАПП і ЗакАПП), шляхі разьвіцьця сялянскай літаратуры (даклады ВОКП і „Плуга“), аб падрыхтоўцы тэорэтычных кадраў і даклад Узбэкістанскай АПП).

* У 1931 г. ЛОКАФ будзе выпускаць у выдавецтве „Федерация“ штомесячна літаратурна-мастацкую часопісь ЛОКАФ. У рэдколегію часопісі ўваходзяць: Л. Дэегцяроў (адк. рэдактар), С. Шыпачоў, Ул. Луговскі, Матэ-Залка, С. Мсьціслаўскі, А. Ісбах, С. Рэйзін (ПУР) і П. Сьлесарэнка (Маск. гарнізонны гурток чырвонаарм. пісьменьнікаў).

* 25 сьнежня м. г. у вёсцы Нізоўка, Маскоўскай вобласьці, памёр стары селянін-поэта Сьпірыдон Дзьмітравіч Дрожжын.

Нябожчык радзіўся 6 сьнежня 1848 г. у сям‘і прыгоннага селяніна. У 1874 годзе ў часопісі „Громобой“ зьяўляецца яго першая „Песня про горе добра молодца“, а пазьней яго вершы друкуюцца ў часопісях „Слово“, „Дело“, „Русское богатство“ і інш.

С. Дрожжын прымаў блізкі ўдзел у гуртку пісьменьнікаў-самавучак імя Сурыкава і разам з Е. Нячаевым, Ф. Шкулёвым і Ш. Травіным выдаваў кнігі, часопісі і г. д.

Шырокую вядомасьць С. Д. Дрожжын здабыў пасьля выхаду яго першага зборніка вершаў у 1889 г.

Потым С. Д. Дрожжын трапіў пад уплыў буржуазнай літаратуры, адкалоўся ад сурыкаўцаў і, жывучы ў вёсцы, займаўся земляробствам і пісаў вершы.

Кастрычніцкая рэволюцыя падбадзёрыла С. Д. Дрожжына: 70-гадовым старыком ён прымае ўдзел у савецкай працы і піша вершы пра „чырвоны сьцяг і гнеў народны“.

* А. Безыменскі працуе над цыклем вершаў, прысьвечаных пытаньням трэцяга году пяцігодкі. Разам з гэтым, поэта працуе над трэцяю часткаю поэмы „Трагедийная ночь“.

* Г. Нікіфараў скончыў новы роман „Встречный ветер“. У тэме роману, з аднаго боку, адлюстравана наша соцыялістычнае будаўніцтва, з другога боку — стыхія кулацкаўласьніцкая, закладзеная ня толькі ў сялянстве, але і ў адсталых пластох рабочай клясы і інтэлігенцыі.

Акрамя таго, тав. Нікіфараў піша роман „Творчество“, які будзе скончаны ў 1931 годзе, на тэму пра сучасную савецкую вёску.

* Э. Багрыцкі працуе над поэмай пра кулака, якая будзе скончана ў пачатку трэцяга году пяцігодкі. Поэта перарабляе свой твор „Дума про Опанаса“ для радыё-опэры.

* Ус. Іваноў піша аўтабіографічны роман „Соломенная собака“, пра жыцьцё пісьменьніка, які прышоў з нізоў. Акрамя таго, працуе над складаньнем нарысаў для літгрупы Радыёцэнтру—„Писательская бригада в Средней Азии“. Асноўная тэма нарысаў—соцыялістычнае будаўніцтва у Туркменстане. Композытар С. Пагодзін піша да нарысаў Ус. Іванова сымфонічнае музычнае афармленьне, пабудаванае накшталт радыё-п‘есы (радыё-нарысы, дыалёгі, туркменскія песьні і г. д.).

* Л. Лідзін скончыў шэраг нарысаў пра Заходнюю Эўропу (на падставе матэрыялаў, сабраных у часе паездкі за мяжу), якія будуць зьмешчаны ў цэнтральных газэтах і часопісях. Працуе над новым романам.

* Б. Пільняк працуе над новым романам. Час дзеі—апошняе дзесяцігодзьдзе ў Эўропе, РСФСР і ў Сярэдняй Азіі. Зараз у „Издательстве писателей в Ленинграде“ выходзіць з друку аповесьць „Кітайская судьба человека“, напісаная Б. Пільняком разам з А. Рагозінай, на тэму пра грамадзянскую вайну ў Кітаі. Тамжа выходзіць з друку кніга Б. Пільняка „Седьмая Советская“.

* Б. Пастэрнак скончыў роман у вершах „Спэкторский“, які выйдзе ў ГІХЛ. Рыхтуе кнігу прозы. Галоўная і складаная частка гэтай кнігі — „Охранная грамота“, напаўбіографічнага характару, прысьвечаная пытаньням мастацтва і сустрэчам

поэты з буйнейшымі дзеячамі літаратуры і мастацтва.

* Ільля Сэльвінскі выехаў у Сухум, дзе ён скончыць вершаваную поэму-газэту—„Электрозавод“.

* Н. Адуеў жутка скончыць поэму „Победит“ на тэму аб новым сплаве алмазна-цьвёрдага вольфраму, вынайдзенага на электразаводзе, дзе поэта працуе. Канчае сатырыка-поэтычную п'есу ў вершах — „Остров дураков“ у чатырох актах.

* Н. Огнёў у 1931 г. канчае тры пачатыя творы: аповесьць — „Три измерения Калерии Липской“, п'есу „Дом юношества“ і роман „Человек с пугачем“. Мяркуе пачаць працу над кнігай пра Чырвоную армію ва ўмовах мірнага часу.

* Бруно Ясенскі канчае роман „Бандоссы“ пра жыцьцё польскіх рабочых-гарнякоў у францускім паўночным басэйне. Частка кнігі асьвятляе жыцьцё кіруючых фашыцкіх колаў Польшчы, другая частка малюе Заходнюю Беларусь. У бліжэйшы час выходзіць з друку п'еса Б. Ясенскага „Бал манекенов“, сатыра на соцыял-дэмократыю захаду. Акрамя таго ў 1931 г. пісьменьнік пачне працаваць над романам пра Таджыкістан.

* Анатоль Гідаш працуе над вялікай поэмай пра будаўніцтва, пабудаванай на матэрыялах паездак па Урале і Донбасе. Піша вялікі роман „Счастливое детство“ на тэму пра вэнгерскі рабочы рух з 1900 да 1926 году ў трох томах.

* Матэ Залка канчае аповесьць пра Перакоп. „В гостях у бессмертных“ і роман „Кометы возвращаются“. Пачынае працу над аўтабіографічным романам „Анкета“. У 1931 годзе тов. Залка напіша новы роман на колгасную тэму „Село за туманами“, які будзе выдадзены на расійскай, украінскай і нямецкай мовах, а таксама на вэнгерскай мове ў Парыжы.

У Цэнтравыдаце тав. Залка выпусьціць новую кнігу на вэнгерскай мове „Конец похода“.

* М. Аляксееў скончыў роман „Особое дело“ на тэму пра рэконструкцыю народнай гаспадаркі. Працуе над п'есай „Энтузиасты“.

* Н. Зарудзін піша вялікую аповесьць „30 ночей на виноградниках“. Канчае кнігу апавяданьняў „Закон яблока“ і аповесьць „Губернский город Рим“.

* А. Новікаў працуе над романам „Резиденция свободомыслящих“.

* Літгурток ударнікаў заводу „Электросвет“ працуе над колектыўнай кнігай „С чорнай на красную“. У кнізе будзе адлюстравана змаганьне заводу „Электросвет“ за прамфінплян, яго шлях ад чорнай да чырвонай дошкі.

* Да „Тыдню Савецкай Беларусі“ ГІХЛ выпускае з друку шэраг твораў беларускай мастацкай літаратуры ў расійскім перакладзе. У ліку выпускаемых кніг — апавяданьні М. Чарота, зборнік вершаў Александровіча „Памятные походы“, роман З. Бядулі—„Язэп Крушынскі“, апавяданьні К. Чорнага—„Сосны говорят“.

* ГІХЛ організуе выстаўку літаратуры народаў СССР. На выстаўцы прадстаўлены ўсе выданьні ГІХЛ па нацыянальнай літаратуры. У асобную групу вылучаецца аддзел беларускай літаратуры.

* У сувязі з беларускім тыднем ОГІЗ выдае шэраг брошур, прысьвечаных соцыялістычнаму будаўніцтву ў Савецкай Беларусі.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА ЗСФСР

* Чхыквадзэ П.—пролетарскі пісьменьнік—напісаў вялікі раман „Дырэктар трэсту“. Роман надрукаваны ў часопісі „Пролетарулі Мцэрлоба“.

* Машашвілі А.— пролетарскі пісьменьнік і драматург, напісаў новую п‘есу пра колгас.

* Джуманідзэ С.—напісаў п‘есу з сялянскага жыцьця.

* Лорткіпанідзэ К.— выдаў у Арменвыдавецтве ў перакладзе на армянскую мову „Фотограф“ і „Першая маці“.

* Буачыдзэ Б. — крытык — выдаў новую кнігу „Пытаньні рэконструкцыі мастацтваў“.

* Радзіані Ш.—выдаў кнігу „Літаратурныя пытаньні“ (кніга пра сучасную літаратуру).

* Гурток маладых пролетарскіх пісьменьнікаў, організаваны пры рэдакцыі газэты „Ахамаздра Комуністы“ („Малады Комуністы“), выдаў зборнік твораў комсамольскіх пісьменьнікаў.

* Для адзначэньня дзесяцігодзьдзя саветызацыі рэспублік Закаўказьзя ўрад ЗСФСР ухваліў выдаць вялікую савецкую энцыклёпэдыю на грузінскай, армянскай і цюрскай мовах.

* У бліжэйшы час у Тыфлісе пачынае выходзіць на грузінскай мове „Літаратурная газэта“—орган ФОСП Грузіі.

* У шэрагі АПП Арменіі ўвайшла група курдзкіх пісьменьнікаў.

## ХРОНІКА ТАДЖ ССР

* Пры культпропе ЦК КП(б) Таджыкістану адбылася нарада аб арганізацыі Асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў у сёмай рэспубліцы Саюзу Саветаў.

Нарада адзначыла сваячасовасьць організацыі ТаджАПП.

Роля Таджыкістанскай Асоцыяцыі пролетпісьменьнікаў будзе вялікаю ня толькі ў літаратурным руху ТаджССР. Асоцыяцыя, бязумоўна, будзе ўплываць і на літаратуру народаў колёніяльнага Ўсходу.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Амэрыка

* З кніжак, што вышлі ў Паўночных Штатах апошнімі месяцамі, крытыка адзначае наступныя:

Jams Boyd. Long hunt (Джэмс Бойд „Трывалае паляваньне“). Напаўгістарычны роман з жыцьця ў Паўночнай Амэрыцы ў першай палове XIX стагодзьдзя.

— Edna Ferber, Cimaron (Эдна Фэрбэр. „Сімарон“). Малюнак з барацьбы індыйцаў з белымі ў штаце Оклягама ў канцы XIX стагодзьдзя.

— Maekensi Jean Kenhyon. Traders Vits (Мэкэнзі, Жан Кэньён. „Жонка гандляра“. Моцная ў сваёй прастаце гісторыя пра тое, як маладая амэрыканка пасябравала з гандляром.

Прастатою і сілаю адзначаецца таксама і кніга Руфі Сурков „Дочкі гандляровы“.

* Адна з найталенавітых поэтэс Амэрыкі Сара Тысдаль выпусьціла ў сьвет новы зборнік поэзіі пад назваю „Зорка ўночы“ з ілюстрацыямі Дароты Лятрон. Поэзіі Сары Тысдаль маюць вялікі посьпех ня толькі ў Амэрыцы, але далёка за яе межамі.

У 1926 годзе кніга яе поэзій была перакладзена акрамя эўропэйскіх яшчэ і на японскую мову. Перакладчык—выдатны японскі поэт Міютані.

* Малады амэрыканскі пісьменьнік Эдвін Гранбэры выдаў трэці свой твор „Граф Кароль“ (The Earl King). Першым быў „Прапар голаду“ The Ancient Hunders), другім — „Незнаёмцы і каханцы“ (Stranders and Lovers). Ня гледзячы на сваю маладасьць Гранбэры выявіў сябе выдатным стылістам. Характарныя рысы прозы — мэлёдычнасьць і рытміч-

* Амэрыканская Бібліотэчная Асоцыяцыя распачала кампанію супроць проекту новага закону, які ўстанаўляе строгую цэнзуру замежных кніг і наогул друкаваных матэрыялаў. Проект гэты даручае служачым мытніцы пераглядаць кнігі і вырашаць, ці ня маюць яны парнографічны або бунтарскі характар. Служачы, які прапусьціць такую кнігу, падлягае строгай кары.

* У Балтыморы з жніўня месяца м. г. пачаў выходзіць першы комуністычны орган у Паўднёвых Штатах „Southern Worker“ (Паўднёвы рабочы). Новая газэта выклікала вялікую зацікаўленасьць сярод большасьці нэгрскіх газэт.

## Англія

* У 1930 годзе вызначаны першым поэтам краіны Джон Майзфільд.

Найвыдатнейшымі кандыдатурамі былі: Кіплінг Рэдзіярд, Джойс Джэмс, Майзфільд Джон.

Кіплінгава кандыдатура адпала, бо яго творы, як заўважае ангельскі друк, надта популярныя, беспасрэдныя і не задавальняюць вымог акадэмічнага характару; Джойс не задавальняе свайго ірляндзкага нацыяналізму—таму перавага была аддадзена Майзфільду і Макдональд зацьвердзіў яго кандыдатуру на першага поэту Англіі.

Майзфільд Джон радзіўся ў 1874 г. Ангельскі поэта, пісьменьнік. Доктар Оксфордзкага Унівэрсытэту. Да імпэрыялістычнай вайны яго творчасьць мае сувора рэалістычны характар. Тэмы браў соцыяльныя, сучасныя. Пасьля вайны ён стаў містыкам і нацыяналістам.

* 7 ліпеня м. г. у Лёндане памёр вядомы далёка за межамі Англіі пісьменьнік Артур Конан-Дойль.

Конан-Дойль быў яскравым прадстаўніком рэакцыі і заядлым прапаведнікам брытанскага імпэрыялізму.

Літаратурная спадчына Конан-Дойля вялікая і размаітая. Ён—драматург, поэта, аўтар гістарычных новэль, творца новага жанру дэдэктыўнага роману. Для шырокага чытача Конан-Дойль вядомы, як аўтар славутых прыгод Шэрлока Гольмса, перакладзеных на ўсе мовы сьвету.

Конан-Дойль у цэлым—гэта ўзор клясавага пісьменьніка, які сумленна выконваў соцыяльныя запатрабаваньні буржуазіі сваёй краіны.

Лёнданскае выдавецтва „Флэрон" выпусьціла ў сьвет „Штогоднік Ксылёграфіі" (гравюр на дрэве) на 1930 г. Сярод 20 гравюр мастакоў розных краін зьмешчаны працы 4 украінскіх мастакоў: А. Краўчэнкі (Краявід Нью-Ёрку), А. Салавейчыка (Французы ў Адэсе), О. Ісачова (Аўтапортрэт), Н. Брымэра (Ілюстрацыя да „Сарачынскай ярмаркі" (Гогаля).

### Эстонія

* Літаратура Эстоніі ідзе побач з літаратураю ўсяго сьвету. З 1905 г., калі група „Noor Eest" („Маладая Эстонія") узяла дэвіз: „Будзьма эстонцамі, але станьма эўропэйцамі"—Эстонія ўвайшла ў эўропэйскую літаратуру таксама, таксама як і эўропэйская літаратура ўвайшла ў эстонскую; нэоромантызм, сымболізм знайшлі сабе глебу ў пісьменьнікаў гэтай групы. З гэтага моманту пачалося змаганьне паміж „Маладымі" і „Старымі", пачалося літаратурнае адраджэньне Эстоніі і новая эпоха, якая зышлася якраз з пачаткам пэрыоду опозыцыі Расіі і рэволюцыі. Гэта пачатак разьвіцьця поэзіі і новай літаратуры. Рупарам руху ў „Маладой Эстоніі" ёсьць некалькі альманахаў, а пазьней (1900 г.) агляд „Noor Eest", натхніцелем якога зьяўляўся Густаў Суітс (Gustave Syitc).

Густаў Суітс (радзіўся ў 1883 г.)—фундатар новай поэзіі, які „прабіў вакно ў Эўропу". Суітс чэрпаў сілу з эўропэйскае літаратуры, найбольш-жа вабіла яго літаратура фінская і скандынаўская. Даў зборнік новай поэзіі „Tuvlemaa" („Краіна ветру").

З іншых выдатных членаў-кіраўнікоў „Noor Eest" трэба адзначыць: Вілем Рыдаля (Villem Ridala—нарадзіўся ў 1885 г.) аўтара „Kauged rannad" („Далёкія берагі"); Іогана Аавіка (Johan Aavik), лінгвіста і рэформатара мовы; Фрыдэберта Тугласа (Fridebert Tuglas), аўтара новэль, проза якіх мае вялікую поэтычную каштоўнасьць.

Вясною 1917 году (пасьля рэволюцыі) зьявілася новая група маладых пісьменьнікаў пад назваю „Sivru". Гэта новая школа давала новую эстэтыку, вяла барацьбу з старою мораллю. Выданьні „Sivru" разыходзіліся ў вялікай колькасьці экзэмпляраў. Толькі ў гэтай літаратуры політычныя і соцыяльныя сюжэты адыйшлі на задні плян: апявалася толькі асабістасьць, радасьці ўнутранага пачуцьця. Пра пакуту, рэволюцыю, убоства народу забыліся.

З гэтай групы можна адзначыць: Марыю Унэр, якая лічыцца ў эстонскай поэзіі лепшай поэтэсай, Артура Адсона і Іоганэса Сэмпера (нарадзіўся ў 1893 г.). Трэба асобна адзначыць, як найбольшага поэту з групы „Sivru", Гэнрыка Віскапу (нар. у 1890 г.), які вядомы сваімі кніжкамі поэзіі „Amores" („Каханьне") і „Räni-kivi" („Крэмэнь"). Творы Віскапу, поэты-лірыка, новыя сваім зьместам і з боку тэхнікі вершу ломяць традыцыйную форму.

Пазьней утварылася яшчэ літаратура „Тарапіта" („Tarapita"), да якой належаць: поэта Аўгуст Альле, Іоганэс Барбарус, Ян Кэрнэр. Група гэта ліквідавана была ў 1922 годзе, а ў 1926 годзе ўтворана новая—„Дзеяньні" („Action").

Але чорнае паветра рэакцыі ўплывае на творчасьць эстонскіх пісьменьнікаў, хаваючы ў першым сьвятле

раньнюю зару пачуцьця волі. Пісьменьнікі хаваюцца ў сваім футарале, за кітайскай сьцяной. Рэволюцыйны романтызм зацягнуты ў густое павучыньне рэакцыі.

**Португалія**

* У апошнія часы прыцягвае ўвагу португальскай крытыкі малады плённы пісьменьнік Хуліо Квінтынга (Julio Qvintinha), які нядаўна выпусьціў новым выданьнем свой твор „Суседзі мора" і даў два новых творы— „Агністая зямля" і „Кавалькада сну".

Першы—„Суседзі мора" (Visinhos do mar)—гэта поэма мора, у якой некаторыя крытыкі знаходзяць перапоўненасьць надмернага „паганізму", гімн цудоўнай і вечнай красе паўднёвага португальскага мора.

„Агністая зямля" (Terras de Fogo) зьяўляецца як-бы працягам папярэдняга твору. У гэтай кнізе паданы трынаццаць новэль, поўных каханьня, сонца, усе сынтэзуюць зямельную і сямейную драму. У гэтым творы Хуліо Квінтынга сьцьвярджае свой вялікі талент апісальніка. Усе гэтыя трынаццаць новэль пра суворае і ўбогае жыцьцё асобных хлеребаробаў і пра жыцьцё некаторых тыпаў гэтых краін—суворыя і страшныя трагедыі, моцныя праўдаю, запалам, намаляваны яскравымі фарбамі орыгінальнага натуралізму.

„Кавалькада сну" (Cavalgada do sonho)—зборнік новэль; гэта шэраг постацяй з полымя ідэалу, вялічнае апяваньне пакут усіх тых, што прагнуць да ідэалу.

* У Порто з мінулага году выходзіць часопіс „Claridadl", орган радыкальна настроенай інтэлігенцыі; рэдагуе вядомы пісьменьнік Карлош Бостон.

Часопіс сваім напрамкам блізка стаіць да „Mond' у", намагаецца зорганізаваць навокал сябе выдатных пісьменьнікаў; выяўляе вялікую зацікаўленасьць да літаратуры СССР.

**Францыя**

* У 1930 годзе споўнілася 100 год з дня нараджэньня популярнага аўтара, романіста школы Бальзака—Гектора Мало (Hector Malot). Лепшыя творы Мало: „Justice" (Справядлівасьць); трылёгія „Vistimes d'Amoour (Ахвяра каханьня); роман „Mere" (Маці); „Docteur Claude" (Доктор Клод); „Amours" аповесьць „Sans łamille" (Без радзімы).

* З восені м. г. у Парыжы пачала выходзіць часопіс „Cerele et Carre" (Кола і квадрат). На вокладцы намалёвана кола і квадрат, што падкрэсьлівае зьмест часопісі. Ідэя часопісі належыць францускім конструктывістам.

* „Panorama"—пад такім загалоўкам у Парыжы ў выдавецтве Simon Kra вышла кніжка агляду літаратур: ангельскай, італьянскай, нямецкай, амэрыканскай, гішпанскай і расійскай.

* Нядаўна выйшла новая кніга проф. Рэнэ Мартэля „Усходнія межы Нямеччыны". Кніга прысьвечана пытаньню ўсходніх меж Нямеччыны, дакладн. справы „Калідору і Данцыгу.

Крытыкі аднагалосна зазначаюць, што кніга напісана паводле лепшых навуковых прынцыпаў; аўтар бесстароньне выкладае нямецкую і польскую тэзы, падае свой погляд. Кніга мае вялікую бібліографію, дакладны зьмест і паказьнік імён.

* Нядаўна Эдвард Жозэф выдаў першы том трохтомавага „Dictionare biographique des Artistes Contemporains" (1910—1930). Том I (А—Е) мае багата малюнкаў, фото-скульптур, гравюр і інш.

У слоўніку ўдзельнічаюць выдатныя мастацкія крытыкі і іншыя аўтары.

Хутка выходзяць і апошнія два томы.

*Рэдакцыйная колёгія*: А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот.

*Выдавец*: Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ НА 1931 ГОД

Тэлефон рэдакцыі 17-09
Тэлефон бюро падпіскі 17-12

АДЗІНЫ Ў БССР ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС ТЫПУ ЛЕПШЫХ ІЛЮСТРАВАНЫХ ЧАСОПІСАЎ СССР

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ" НА ПРАЦЯГУ 1931 ГОДУ БУДУЦЬ ЗЬМЕШЧАНЫ

**АПАВЯДАНЬНІ:** Авалава, З. Бядулі. С. Баранавых. Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, К. Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**ПАЭМЫ І ВЕРШЫ:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака. Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таубіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**НАРЫСЫ І ФЭЛЬЕТОНЫ:** Бяліна-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Х. Шынклера.

**МАЛЮНКІ І ФОТО:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых карэспандэнтаў.

УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" ДАЕ Ў ГОД: ЗВЫШ 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць сацыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" БУДЗЕ ВЫСЬВЯТЛЯЦЬ: самыя шырокія праявы жыцьця рэканструкцыйнага пэрыяду і магутнага сацыялістычнага наступу па ўсім фронце сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ 15 к.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: аддзелам падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажывецкай каапэрацыі.

# АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

**X-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ**

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
А. МЕНСКАГА, Я. КУПАЛЫ,
А. НЕКРАШЭВІЧА, М. ЧАРОТА,

**X-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ**

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ, 12 КНІЖАК НА ГОД, памерам кожная ў 10—12 аркушоў.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 12 мес. . . . . . . . 10 руб.
„ 6 „ . . . . . . . . 5 „ 50 кап.
„ 3 „ . . . . . . . . 3 „

КОШТ АСОБНАГА НУМАРУ 1 руб.

ПАДПІСЧЫКІ, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць у 1931 годзе ДАРМОВЫ ДАДАТАК—літаратурна-мастацкую часопісь „УЗВЫШША“ за 1927 або 1928 год, па жаданьню.

**НА ВЫПЛАТУ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА:**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р. 50 к. да 1-га красавіка—3 руб., і да 1-га ліпеня—2 руб. 50 кап.**

**ПОЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 р. 50 к. і да 1-га красавіка—1 руб. 50 кап.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА**: У аддзеле падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ (Менск, Савецкая, 79. тэл. 17-12); Цэнтральнай Кнігарняй Белдзяржвыдавецтва (Менск, рог Ленінскай і Савецкай); усімі гарадзкімі аддзяленьнямі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва; аддзелам падпіскі пэрыодсэктару ГІЗ у РСФСР (Менск, Савецкая, 54); усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкіх таварыстваў БЕЛКООП-САЮЗУ.